Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 7 (4602) 18 лютага 2011 г.

## У нумары:



# Абраннік Песні

**Міхасю Дрынеўскаму — 70! Народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі і прэміі "За духоўнае адраджэнне", кавалер ордэна Францыска Скарыны, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, старшыня Беларускага саюза музычных дзеячаў... Дарэчы, нядаўна гэтая творчая суполка вылучыла кандыдатуру Міхася Дрынеўскага на атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва — за стварэнне і выкананне Нацыянальным акадэмічным народным хорам канцэртных праграм (1975 — 2010 гг.), якія зрабілі значны ўнёсак ва ўмацаванне і развіццё культурных сувязей Беларусі і Расіі.**



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Валерыя Харчанкі**

Бог даў яму Талент і Прызванне. Каб уявіць маштаб гэтага дару, дастаткова і аднаго радка з біяграфіі Міхася Паўлавіча: ужо ў 13-гадовым узросце ён пачаў працаваць кіраўніком калгаснага хору ў роднай палескай вёсцы Тонеж, што на Гомельшчыне. Такі быў пачатак творчай кар'еры маэстра народнай песні, які праз два дзесяцігоддзі ўзначаліў легендарны беларускі хор, стаўшы пераемнікам Генадзя Іванавіча Цітовіча, захавальнікам высокага творчага эталона і жывой душы ўнікальнага прафесійнага калектыву. Аднак слова "кар'ера" зусім не пасуе да феномена Міхася Дрынеўскага. Яго прафесіяй зрабіўся занятак, які аднавяскоўцы, і нават родны бацька, лічылі справай несур'ёзнай, дадаткам да сапраўднай мужчынскай працы. Хутчэй за ўсё, не ён выбіраў сабе прафесію — гэта яна знайшла свайго абранніка.

Любоў да харавых народных спеваў, падораная "звыш", і вяла, і вядзе М. Дрынеўскага па жыцці. Таму ён ніколі не шукаў славы, не збіраў рэгаліі, не імкнуўся звярнуць увагу на сваю асобу. Пра яго ўнутраны мастацкі свет ніхто і нішто не раскажа лепей за хор. Спадкаемца творчых прыярытэтаў Г. Цітовіча, Міхась Паўлавіч за 35 гадоў кіраўніцтва славутым хорам спраўдзіў вялікую і, як здавалася скептыкам, недасяжную, парадаксальную мару: злучыў народнасць і акадэмізм. У гэтым мастацкім сімбіёзе арганічна суіснуюць самабытнасць, паэтычная вобразнасць, яскравая жанравасць беларускага песеннага фальклору ды высокая культура класічных музычных традыцый.

Летапісцы хору падлічылі, што ў яго рэпертуарнай скарбонцы больш як паўтары тысячы твораў, і штогод яна папаўняецца дзясяткамі новых фальклорна-этнаграфічных пастановак, а на аснове "залатога фонду" сцэнічных кампазіцый ствараюцца прэм'еры, у якіх побач з беларускімі гучаць песні розных народаў... Дзякуючы М. Дрынеўскаму ў народным хоры ўпершыню загучалі беларускія рэлігійныя песняспевы: загучалі годна, пераканальна, арганічна, абвяргаючы дробязны сумнеў усё тых жа скептыкаў. Памятаю, як гадоў 15 таму на Міжнародным фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа" ў Магілёве была прадстаўлена прэм'ера такой праграмы. Узрушэнне, якое перажылі прысутныя на канцэрце ў касцёле св. Станіслава, не было з чым параўнаць. Магутны велічны спеў, у якім злучылася невытлумачальная зямная глыбіня і трапяткая нябесная ўзнёсласць, працінаў сэрца; насычаная таемнымі абертонамі жывых чалавечых галасоў музычная плынь, узбагачаная нюансамі храмавай акустыкі, стварала эфект вялікай Малітвы. Міжнароднае журы конкурснай праграмы таго фестывалю наладзіла хору авацыю і аднадушна ўзнагародзіла яго галоўным прызам...

> *Міхася Дрынеўскага павіншаваў з юбілеем Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы, у прыватнасці, зазначыў: "Дзякуючы Вашаму таленту, майстэрству, нястомнай працы, вялікай любові да роднага слова і песні Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь з'яўляецца адной са скарбніц айчыннай культуры. Калектыў пад Вашым кіраўніцтвам працягвае свае слаўныя традыцыі, пастаянна павышае творчы ўзровень і дорыць слухачам усяго свету радасць сустрэчы з цудоўнымі беларускімі мелодыямі".*

Ён з тых людзей, хто "носіць сонца ў сэрцы". Мабыць, ад сонца ў яго — шчырасць і душэўная цеплыня. Ад неба — натхненне. Ад зямлі — мудрасць. І гумар: дзе Дрынеўскі — там вясёлы дасціпны дух і заразлівы смех, сакавітае народнае слоўца, жарты з каларытнай "пярчынкай"... З усіх гэтых крыніц сілкуецца яго духоўны досвед, ад якога — пастаянны клопат пра народнае мастацтва. Дарэчы, пра творчыя стасункі Міхася Паўлавіча з аматарскімі харавымі калектывамі можна расказваць асобна: летась, напрыклад, на першым фестывалі "Ключ Палесся" ў Лякавічах, ён прадставіў прэм'еру каляндарна-абрадавай кампазіцыі, прадырыжыраваўшы незвычайным зводным хорам, у склад якога ўвайшлі прафесіяналы-цітовічаўцы і чатыры (!) народныя калектывы з Гомельшчыны.

Міхась Паўлавіч перакананы: "Беларускую традыцыйную спеўную творчасць падтрымліваць трэба, каб яна жыла не сама па сабе, каб гучала шырэй у эфіры. Сёння на экранах, а значыць, у людской свядомасці, рэй вядзе масавая культура. Жывуць у глыбінцы сталыя носьбіты традыцыі, але ж яны не вечныя. Гэта праблема сур'ёзная, і яна павінна быць у клопаце дзяржавы. Наогул, хор — астравок нашай нацыянальнай творчасці, беларускай песеннай культуры, якая ўся, а не толькі адмыслова царкоўная музыка (яе мы сёння многа спяваем), — уся духоўная! У ёй — наша непаўторнасць, наш менталітэт, наш народ, наша будучыня".

## Пункціры

Упершыню ўдзел у 61-м Берлінскім міжнародным кінафестывалі "Берлінале", які праходзіць з 10 па 20 лютага ў Германіі, прымае дэлегацыя Беларусі. Прадстаўнікі нашай краіны змогуць азнаёміцца з конкурснай і пазаконкурснай праграмамі кінафоруму, адабраць фільмы для паказу на "Лістападзе", прэзентаваць айчыннае кінамастацтва, а таксама наладзіць дзелавыя кантакты з сусветнымі дыстрыб'ютарамі, прыняць удзел у семінарах, майстар-класах, творчых сустрэчах, прэс-канферэнцыях і круглых сталах.

Вершы беларускіх паэтаў будуць гучаць у грамадскім транспарце Магілёва ў Міжнародны дзень роднай мовы, 21 лютага. З ініцыятывай падтрымаць беларускую мову выступілі грамадскія арганізацыі абласнога цэнтра. Вершы прагучаць у выкананні вучняў гарадскіх школ, гімназій і ліцэяў. Гарадская арганізацыя БРСМ у гэты ж дзень будзе распаўсюджваць лістоўкі з вершамі і прыазаічнымі цытатамі сучасных беларускіх літаратараў, а Таварыства беларускай мовы правядзе традыцыйны дыктант для ўсіх жадаючых.

Факсіміле выдатнага помніка старажытнага ўсходнеславянскага пісьменства "Жыціе Еўфрасінні Полацкай" будзе выдадзена ў Беларусі да 1150-годдзя заснавання Полацка, якое адзначацца ў чэрвені 2012 года. Праект рыхтуецца сумесна Выдавецтвам Беларускага Экзархата і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі.

Грунвальдская вуліца з'явілася на генплане забудовы новага жылога мікрараёна ў Полацку. Рашэнне аб наданні вуліцы назвы прынята дэпутатамі Полацкага гарсавета. Забудова Грунвальдскай вуліцы пачнецца ўжо ў 2011 годзе.

Галерэю твораў народнага мастака СССР, Героя Беларусі Міхаіла Савіцкага плануецца адкрыць у гістарычнай частцы Мінска. Пакуль часовая галерэя размешчана ў старым горадзе на вуліцы Рэвалюцыйнай. Пасля ж рэканструкцыі плошчы Свабоды, якая ўжо ідзе поўным ходам, пераедзе туды, у дом № 15.

Адзінаццатыя адкрытыя навуковыя вучнёўскія чытанні, прысвечаныя памяці вялікага гуманіста Фёдара Гааза, прайшлі ў Гомелі на базе гімназіі № 58 у межах праграмы Міністэрства адукацыі і Беларускай праваслаўнай царквы "Духоўнае выхаванне школьнікаў на аснове праваслаўных традыцый". Удзел у мерапрыемстве прынялі школьнікі і студэнты з розных раёнаў Гомельскай вобласці, а таксама вучні маскоўскай школы № 626.

Кампетэнтнае журы на чале з кампазітарам Ігарам Крутым праводзіць папярэдні адбор удзельнікаў міжнародных конкурсаў маладых выканаўцаў папулярнай музыкі "Новая Хваля-2011" у Юрмале і "Дзіцячая Новая Хваля-2011" у Артэку. Вылучаныя на гэтым этапе прэтэндэнты стануць удзельнікамі беларускага нацыянальнага адборачнага тура, які завершыцца грандыёзным гала-канцэртам у мінскім Палацы спорту.

Тэрытарыяльнымі падраздзяленнямі па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю выяўлена каля 20 выпадкаў незаконнага распаўсюджвання копій кінафільма "Брэсцкая крэпасць", што з'яўляецца красамоўным сведчаннем узрастання папулярнасці сучаснай беларускай кінавідэапрадукцыі.

У Ашмянскі краязнаўчы музей перададзены на захаванне каштоўныя артэфакты — археолагі Інстытута гісторыі НАН Беларусі падчас раскопак ля вёскі Галіны Ашмянскага раёна знайшлі фрагменты керамікі эпохі жалезнага веку. Дагэтуль у Беларусі адкрыта было толькі адно гарадзішча з керамікай такога віду — у вёсцы Засвір Мядзельскага раёна. На месцы старажытнага пасялення ў Ашмянскім раёне знойдзены таксама жалезная сякера, тачыльны камень, спражка, ключ і два прасліцы.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Юбілеі

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота Яўгена Коктыша

# Яго муза — Беларусь

**Як паведамілі ў прэс-службе Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага мастака нашай краіны Георгія Паплаўскага з 80-годдзем. У віншаванні, у прыватнасці, гаворыцца: "Выбраўшы сваёй музай Беларусь, Вы ў вялікай колькасці выдатных твораў праславілі веліч і прыгажосць роднай зямлі, стваральную працу нашых людзей. Яркі талент, вернасць рэалістычным традыцыям, патрыятызм і непаўторнае майстэрства прынеслі Вам заслужаны поспех і сусветнае прызнанне".**



Нарадзіўшыся ва ўкраінскім горадзе Роўна, Георгій Паплаўскі скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, аддзяленне жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Дарэчы, выпускнікамі кафедры жывапісу ў розны час былі такія народныя мастакі Беларусі, як Віктар Грамыка, Леанід Шчамялёў, Барыс Герлаван, Уладзімір Тоўсцік.

Георгій Георгіевіч — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Расійскай акадэміі мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі нашай краіны і многіх міжнародных прэмій. Ён — жывапісец, ілюстратар, графік, працуе ў разнастайных тэхніках станковай і кніжнай графікі, станковага жывапісу. Яго імя прыхільнікі мастацтва ведаюць не толькі на радзіме, а і далёка за яе межамі, бо работы майстра знаходзяцца ў шматлікіх музеях і прыватных зборах як Беларусі, так і Швейцарыі, Германіі, Аўстрыі, ЗША, Індыі, Украіны, Расіі…

Не толькі творы Георгія Паплаўскага вандруюць па свеце, ён сам — апантаны вандроўнік. За работы цыкла "Індыйскі дзённік" і афармленне кнігі "Тырукурал" індыйскі ўрад адзначыў яго Міжнароднай прэміяй Джавахарлала Нэру. Але не толькі далёкія краіны прываблівающь мастака, яго захапляе і тхняе родная прырода. За серыю акварэляў "Браслаўскі альбом" і цыкл графічных работ з творчых паездак па Індэнезіі і Кубе Георгій Георгіевіч атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Асобная старонка творчасці мастака — афармленне кніг. Сярод замежных аўтараў — У. Шэкспір, Ф. Петрарка, І. Шылер, Д. Свіфт, Д. Лондан, Р. Тагор, айчынных — Янка Купала, Якуб Колас, А. Адамовіч, В. Быкаў, У. Караткевіч, А. Куляшоў, І. Мележ. Да слова, на міжнародным конкурсе ў Лейпцыгу за ілюстрацыі да кнігі Якуба Коласа "Новая зямля" творца атрымаў дыплом "Найпрыгажэйшая кніга свету".

Нягледзячы на свой паважны ўзрост, Георгій Паплаўскі, адораны не толькі творчым талентам, але і зайздроснай працаздольнасцю, заўсёды ў творчым пошуку.

## Стасункі

# Прыемны сюрпрыз

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

**Фонды Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа папоўніліся ўнікальным экспанатам.**

Удзельнікам і гасцям XVIII Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу запомніўся стэнд выдавецтва ўрада Масквы, на якім былі прадстаўлены кнігі разнастайнай тэматыкі: "Масква — гісторыя і сучаснасць", "Масква ў літаратуры і мастацтве", вялікая колькасць выданняў для дзяцей і падлеткаў. Асаблівую ўвагу звярнала на сябе тое, што значная колькасць выданняў прысвечана Вялікай Айчыннай вайне. Прыемным сюрпрызам для дырэктара Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіды Камароўскай падчас выстаўкі-кірмашу стаў падарунак, уручаны кансультантам камітэта па тэлекамунікацыях і сродках масавай інфармацыі ўрада Масквы Ксеніяй Вінаградавай. Напярэдадні 130-годдзя песняра ўрадам Масквы ў 2010 годзе на рускай мове была выдадзена "Новая зямля" Якуба Коласа ў прыжыццёвым перакладзе паэта, які выканалі С. Сямынін, П. Гарадзецкі, Я. Мазалькоў. Як паведаміла Ксенія Уладзіміраўна, кніга разыйдзецца па бібліятэках Расіі: "Мы чакаем далейшага развіцця добрасуседскіх адносін паміж Расіяй і Беларуссю, абуджэння інтарэсу да літаратуры нашых краін. Спадзяёмся, што нашы выдавецкія праекты папрацуюць на карысць вяртання да традыцыйнай кнігі ад іншых прапаноў рынкаў медыяінфармацыі".



***На здымку: Ксенія Вінаградава ўручае кнігу Якуба Коласа дырэктару Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаідзе Камароўскай.***

## З нагоды

# Сам-насам з сусветам

Васіль НЕСЦЕРАЎ

**Урачыстасці, прысвечаныя 90-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна не маглі абмінуць Гомельшчыну. У вёсцы Карма Добрушскага раёна ён нарадзіўся, на Гомельшчыне працаваў, вярнуўшыся з войска. Дый пазней быў частым госцем у роднай старонцы. Апроч таго, шмат якія яго ныя творы тэматычна звязаны з Гомельшчынай.**

У бібліятэках Гомельскай вобласці да юбілею класіка былі аформлены выстаўкі кніг, у школах праведзены шамякінскія ўрокі. Апафеозам юбілейных мерапрыемстваў стала сустрэча ў сценах Гомельскага палацава-паркавага ансамбля — у знакамітым Палацы Румянцавых і Паскевічаў. Сустрэча гэтая адначасова стала і афіцыйным адкрыццём календара творчых падзей у жыцці Гомеля, які, як вядома, сёлета набыў ганаровы статус культурнай сталіцы Беларусі.

Пра тое, што робіцца для прапаганды творчасці І. Шамякіна, гаварылі першы намеснік начальніка ўпраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама Вольга Антоненка, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч, літаратуразнаўцы Іван Штэйнер і Тэрэза Голуб, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Марціновіч, дэпутат Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў Валерый Сяліцкі, намеснік старшыні Добрушскага райвыканкама Рыгор Козыраў... Успамінамі пра свайго дзядулю падзяліўся яго ны ўнук Аляксей Рагаўцоў. Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў, які вядомы не толькі як мастацтвазнаўца, а і як мастак, прэзентаваў сваю карціну "Бацькоўскі дом", што па-свойму сімвалічна, бо У. Пракапцоў — таксама родам з Добрушскага раёна, толькі нарадзіўся ён у вёсцы Жгунская Буда. У падобным доме ўпершыню зірнуў на свет і І. Шамякін.

Стараннямі супрацоўнікаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры была прывезена са сталіцы вялікая выстаўка, што дазваляе яшчэ лепш зразумець жыццё і творчасць І. Шамякіна. У экспазіцыі прадстаўлены не толькі шматлікія выданні яго ных твораў, а і асабістыя рэчы.

## Вечарыны

# Свечку памяці запалілі…

Мікола ЛОЙКА

**"Жыццё свае скрыжалі піша…" — гэтыя паэтычныя радкі мне ўспомніліся 21 студзеня ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя В. Ф. Праскурава на вечарыне, прысвечанай памяці нашага земляка паэта Уладзіміра Марука.**

Адкрыла вечарыну загадчыца аддзела маркетынгу раённай бібліятэкі Галіны Пупач, затым маці паэта Надзея Уладзіміраўна і яго цётка Вольга Уладзіміраўна запалілі перад партрэтам свечку памяці. І паліліся хвалюючыя ўспаміны пра сяброўства, пра творчасць, пра паэзію…

Пісьменнік Віктар Гардзей прыгадаў, як да яго ў перыяд працы ў раённай газеце "Савецкае Палессе" трапіў сшытачак з вершамі пачаткоўца, які нарадзіўся ў вёсцы Гута. Усе яны былі апублікаваны ў раёнцы і засведчылі чытачам з'яўленне на літаратурным небасхіле яшчэ аднаго творцы з самабытнага куточка Ганцаўшчыны. Суседнія вёскі нібы спаборнічалі паміж сабой, якая з іх дасць больш талентаў. Гонарам вёскі Вострaў стаў Міхась Рудкоўскі, Малыя Круговічы былі калыскай і працягваюць натхняць Віктара Гардзея, а Гуту праслаўлялі Іван Кірэйчык і Уладзімір Марук.

З Мінска аддаць даніну памяці таксама прыехалі пісьменнікі Уладзімір Ягоўдзік, Вадзім Спрынчан, Рагнед Малахоўскі. Казімір Камейша перадаў бібліятэцы свой верш "Завея", які ў час выступлення прачытаў Віктар Гардзей. З затоеным дыханнем слухалі ўдзельнікі вечарыны ўспаміны дачкі паэта Веранікі Марук, сясцёр Вольгі і Галіны, брата Аляксандра, цёткі Вольгі. Толькі частка напісанага творцам увайшла ў зборнікі для дарослых "Зоркі ў кронах", "Ліст рабіне", "Інкрустацыя галасам" і для дзяцей — "Ехаў чыж у Парыж", "Чыж вярнуўся з-за мяжы". Многае засталося ў рукапісах, але цяпер рыхтуецца і неўзабаве павінна выйсці новая кніжка У. Марука. Гэтай добрай весткай падзялілася Вераніка і перадала ў дар раённай бібліятэцы, а таксама бібліятэцы СШ № 3 кнігі, напісаныя бацькам.

## Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Марыны Жакаўкі

# Гады служэння і любові

**Можна, канечне, спрачацца наконт таго, як трэба адзначаць юбілеі творчым людзям — шырока, урачыста ці сціпла, камерна, — але не прызнаць таго, што вечарына ў гонар 60-годдзя знакамітага пісьменніка Міхася Пазнякова ўдалася, нельга.**

Яна ўдалася, і нават не таму, што ўшанаванне вырашана было ў такім прыгожым канцэртным фармаце (канцэрт доўжыўся дзве гадзіны). А таму, што ў вялікай зале сталічнага Дома літаратара не аказалася людзей, абыякавых да творчасці і асобы юбіляра. Дзякуючы іх прыхільнасці атмасфера вечарыны сталася цёплай, утульнай, добрай.

Проста і шчыра, без пампезных слоў Міхася Паўлавіча павіншаваў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. І сказаў, нібыта паведаміў прысутным па сакрэце: "Надта добры пісьменнік, рознабаковы пісьменнік, які здольны ствараць цудоўныя вершы і для дарослых, і, да вялікай радасці дзетак, для маленькіх. Невыпадкова, што менавіта яму выпала на долю перакласці на беларускую мову адзін з найвыдатнейшых твораў сусветнай літаратуры — раман Сервантэса "Дон Кіхот".

Ад Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта віншавальнае слова ўзяў начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Сяргей Хільман. Выходзілі таксама на сцэну прадстаўнікі Нацыянальнай акадэміі навук, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Міністэрства абароны Беларусі, РВУ "Літаратура і Мастацтва", выдавецтва "Мастацкая літаратура", гарадскіх бібліятэк — з гэтымі ўстановамі Міхася Пазнякова звязваюць гады супрацоўніцтва, сумесная работа над пэўнымі творчымі праектамі, сяброўства. Юбіляру зачытвалі віншавальныя адрасы, уручалі ганаровыя граматы і дыпломы.

Віншаванні перамяжаліся канцэртнымі нумарамі. І многія ў той вечар зрабілі для сябе адкрыццё: як, аказваецца, шмат песень напісана на словы Пазнякова! Было шмат песенных прэм'ер. Больш за іншых зала апладзіравала салістцы Белдзяржфілармоніі Галіне Сакольнік, якая выканала вакальны нумар "Паланэз" на музыку Уладзіміра Саўчыка, і кіраўніку астравецкай вакальнай студыі "Музычная лесвіца" кампазітару Аляксандру Якіменку, які з дапамогай сваёй вучаніцы Сашы Юрэвіч прадставіў дзве дзіцячыя песенькі, напісаныя ім на словы Міхася Пазнякова, а пасля сам выканаў дзве "дарослыя" песні: "Матчына хата" і "Танец".

Аднак, безумоўна, галоўнай гераіняй вечара была ўсё ж такі паэзія.

Творцам пройдзены пэўны адрэзак жыцця — гэта былі гады служэння і любові. Любові да роднай зямлі і служэння свайму народу паэзіяй. Вынікі пройдзенаму шляху падведзены. Яны натхняюць на новыя творчыя задумы, на новыя вершы.



***На здымку: павіншаваць юбіляра прыехала яго вучаніца — Галіна Бародзіч.***

## Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Крачынскі жэніцца!

**Другі вечар запар Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага спраўляе "Вяселле Крачынскага" — іграе спектакль, пастаўлены паводле знакамітай камедыі А. Сухаво-Кабыліна. Над прэм'ерай працавалі рэжысёр Міхаіл Кавальчык, сцэнограф Веніямін Маршак, мастак па касцюмах Марыя Герасімовіч, пастаноўшчык сцэнічнага руху Вячаслаў Іназемцаў, кампазітар Павел Якубчонак.**

Інтрыга з вяселлем Крачынскага, якое так і не адбылося, разыгрываецца акцёрскім ансамблем, дзе сольная партыя належыць Аляксандру Ткачонку: п'еса ж і ставілася "на яго". Тэатр шукаў п'есу для бенефіса А. Ткачонка, які нядаўна адзначыў свае 60. Выбар прыпаў на твор А. Сухаво-Кабыліна — рускую класіку XIX стагоддзя, ставіць запрасілі М. Кавальчыка (з горкаўскай сцэнай ён звязаны колішнімі гадамі рэжысёрскага служэння, а з гэтым акцёрам амаль тры дзясяткі гадоў таму працаваў над "Фантазіямі Фарацьева").

"Вяселле Крачынскага", на думку М. Кавальчыка, — гісторыя высакароднага чалавека, дваранiна, не пазбаўленага свецкай абаяльнасці, чыё захапленне картачнай гульнёй вядзе яго ў палон уласнай жарсці, да паступовай, праз махлярства і злачынную хлусню, дэградацыі асобы і падзення ў бездань адзіноты. Драматургічны матэрыял дазволіў стварыць на сцэне стылізаваны, сюррэалістычны свет, у якім з вострай актуальнасцю гучыць тэма маральнага выбару чалавека. Вобраз маладжавага героя з псіхалогіяй апантанага гульца не ўпісваецца ў звыклае амплуа А. Ткачонка, якому са студэнцкіх гадоў давялося іграць узроставыя ролі — рознахарактарных старых, пераважна бяскрыўдных і кранальных. Акцёр з усмешкай прызнаецца: "Маю задачу "на пераадоленне" ўскладніла і тое, што нявесту Крачынскага, Лідачку, іграе Кацярына Шатрова — актрыса, якая летась стала маёй жонкай і з якой у нас, як і ў нашых герояў, істотная розніца ва ўзросце".

А ўрэшце... Крачынскі ўсіх запрашае на вяселле!



***На здымку: народныя артысты Беларусі Аляксандр Ткачонак ды Вольга Клебановіч, заслужаны дзеяч мастацтваў Расійскай Федэрацыі рэжысёр Міхаіл Кавальчык падчас прэс-канферэнцыі з нагоды прэм'еры.***

## Повязі

Кастусь ЛАДУЦЬКА,
фота Кастуся Дробава

# Размова з усім светам

**У Мінску ў час правядзення XVIII Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбылася прэзентацыя кнігі паэзіі азербайджанскага майстра слова Чынгіза Алі-аглы.**



Азербайджанска-беларускія літаратурныя стасункі маюць трывалы падмурак. Неаднойчы ў Беларусі выходзілі кнігі перакладаў аўтараў аднае з самых цікавых каўказскіх краін. І традыцыя гэтая ў апошнія гады таксама не знікла. У прыватнасці, часопісы "Нёман" і "Полымя", газета "Літаратура і мастацтва" падрыхтавалі азербайджанскія старонкі з пэўнымі публікацыямі. На беларускую мову многія вершы Расула Рзы пераўвасобіў Мікола Мятліцкі. А ў "Нёмане" былі надрукаваны ўрыўкі з драматычнай паэмы Гусейна Джавіда "Шэйх-Санан" у перакладзе на рускую мову. Пашырэнню стасункаў беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыкі з азербайджанскай літаратурай актыўна спрыяе Пасольства Рэспублікі Азербайджан у Рэспубліцы Беларусь.

Часты госць у Беларусі ў апошнія гады — азербайджанскі паэт Чынгіз Алі-аглы. Ён узначальвае Міждзяржаўны савет СНД па пытаннях перыядычнага друку, кнігавыдання і таму наведваецца ў Мінск яшчэ і па службовых справах. А на традыцыйнай кніжнай выстаўцы, якая праходзіць у Беларусі штогод у лютым, сёлета была прэзентавана новая паэтычная кніга азербайджанскага мастака слова "Рамка". Унікальны з мастацкага і паліграфічнага пунктаў гледжання том выйграў Гран-пры на Міжнародным конкурсе краін СНД "Мастацтва кнігі" ў 2010 годзе. Чынгіза Алі-аглы на прэзентацыі ў Мінску прадстаўлялі рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Нёман" Юрый Сапажкоў, дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Таццяна Бялова, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Лапцёнак. А свае вершы госць з Баку чытаў на рускай і на роднай яму азербайджанскай мове. Дарэчы, нядаўна ў Азербайджане пабачыла свет двухтомная анталогія перакладаў паэзіі і прозы народаў свету. Перакладчык — Чынгіз Алі-аглы. Прадстаўлена ў тым выданні і апавяданне беларускага пісьменніка Анатоля Кудраўца.

## 3-пад пяра

Кіраўніцтва і педагогі Жыткавіцкай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 1, дзе нядаўна ўрачыста адкрыты мемарыяльны музей Міколы Гамолкі, збіраюць успаміны пра нашага таленавітага земляка. Яны просяць пісьменнікаў, навукоўцаў, усіх тых, хто ведаў, супрацоўнічаў ці памятае Міколу Гамолку, даслаць іх на адрас школы **(247960, вул. Сацыялістычная, 18, г. Жыткавічы, Гомельская вобласць)**. Дзякуючы такой дапамозе наведвальнікі музея больш даведаюцца пра жыццё вы і творчы шлях пісьменніка.

**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ**

"Замежныя сябры "Вясёлкі" — гэта новы праект знакамітага дзіцячага часопіса. Сутнасць яго ў тым, каб на працягу года знаёміць беларускіх дзяцей з рознымі краінамі свету, іх гісторыяй, культурай і вядомымі асобамі. Першы нумар часопіса стаўся прысвечаны Кітаю. Прэзентацыя гэтага нумара прайшла ў Доме дружбы. На вечары прысутнічаў саветнік Кітайскага пасольства Ван Сяньдзюй. У святочнай праграме прынялі ўдзел беларускія школьнікі, якія вывучаюць кітайскую мову, і кітайскія студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

**Ліна ЧАРНЯЎСКАЯ**

Адразу ж ператварыўся ў рарытэт для аматараў беларушчыны зборнік дакладаў Маладзечанскай навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Быў. Ёсць. Буду. Уладзімір Караткевіч у кантэксце беларускай культуры". І гэта нядзіўна — зборнік быў выдадзены тыражом усяго 30 асобнікаў, разлічаны ў асноўным на ўдзельнікаў канферэнцыі. Аднак матэрыялы, змешчаныя ў ім, аказаліся такімі цікавымі, што выданне звярнула на сябе ўвагу. І сапраўды, маладзечанская канферэнцыя заклікала да супрацоўніцтва шаноўных і аўтарытэтных даследчыкаў. Сярод іх — прафесар Вячаслаў Рагойша, загадчыца Аршанскага музея У. Караткевіча Галіна Юркевіч, кінадакументаліст Уладзімір Мароз, пісьменнікі Людміла Рублеўская і Сяргей Панізнік, краязнаўца Міхась Казлоўскі.

**Алеся ЗАКРЭЎСКАЯ**

"Bonjour" — новая выстава ў Палацы мастацтва, дзе прадстаўлены работы мастачкі Галіны Васільевай. Яе жывапіс — гармонія колеру і палітры, святу і пачуццяў. Карціны — дакладнае разуменне геаметрычных форм: "Квадрат", "Эда", серыя "Сцяна", "Колер і формы". Наведвальнікі з ахвотай пакідаюць запісы ў кнізе водгукаў: "Неардынарнае мастацтва смелай жанчыны", "Вам атрымалася выклікаць адмоўныя эмоцыі!!! І гэта добра. Розныя эмоцыі — гэта вельмі добра".

**Дар'я ШОЦІК**

Пабачыла свет літаратурная анталогія "Белорусский литературный союз "Полоцкая ветвь": 1994 — 2009 годы". Гэтае 548-старонкавае літаратурна-мастацкае і даведачнае выданне тыражом у 100 экзэмпляраў уяўляе сабой вынік трохгадовай працы ўкладальнікаў і падводзіць вынік пятнаццацігадовай дзейнасці дадзенага рэспубліканскага творчага аб'яднання. Пад адным пераплётам сабраны фотаздымкі, біяграфіі і ўзоры творчасці 104 членаў Беллітсаюза "Полоцкая ветвь". Прэзентацыя выдання адбылася ў актавай зале Мінскай гарадской бібліятэкі № 13.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

# Прафесійная гульня з гледачом

Марына ДОЎТЕР

**Андрэй Кудзіненка — рэжысёр нестандартны. Балансуючы на грані, ён можа адначасова быць прадстаўніком мэйнстрыма і артхауса. За яго плячыма тры такія розныя поўнаметражныя работы, што здаецца, іх не мог зняць адзін рэжысёр. Дэбют "Акупацыя. Містэрыі" з неадназначным позіркам на падзеі Вялікай Айчыннай вайны выклікаў масу спрэчак і абурэння. Другая стужка "Розыгрыш", зробленая на "Масфільме", — нібы меладрама пра жорсткія гульні падлеткаў. Кудзіненка робіць адмоўнага героя заложнікам свайго розыгрышу, падчас гэтых induстурбацый? даводзіць да эмацыянальнага спусташэння, далей хіба што змена арыенціраў альбо экзістэнцыяльная роспач, якая будзе расці ў геаметрычнай прагрэсіі. Нядаўняя прэм'ера "Масакры" канчаткова заблытала ўсе нашы ўяўленні пра гэтага рэжысёра. Што гэта? "Жанравае разгільдзяйства" ці з'яўленне новага жанру "бульба-хорар" (па аналогіі "спагеці-вестэрн")? Не ведаю. Але дакладна Андрэй Кудзіненка не карыстаецца адно чорна-белым колерам, і на гэты раз яму ўдалося перайграць самога сябе. Яго фільмы не даюць адказаў, нічога адназначнага і празрыста-яснага, пакідаючы прастору для асабістых разваг гледача. І часам незразумела, гуляе, забаўляецца з намі аўтар ці гаворыць сур'ёзна.**

**— Андрэй, хочацца паразважаць з маладым рэжысёрам на тэму, чаго нестае беларускаму кіно…**

— Вострых тэм, складаных канфліктаў. На маю думку, кіно павінна быць агрэсіўным, неадназначным, павінна закранаць актуальныя сучасныя тэмы — і не толькі ў такім далікатным, этычна выверaным ракурсе, бо гэта абмяжоўвае, пазбаўляе глыбіні. Беларускае культурнае ўспрыманне занадта рафінаванае. Ужо не актуальна здымаць "нешта добрае, прыгожае, сонечнае". Нам патрэбна кіно, якое трывожыць, бударажыць, не пакідае ў спакоі. Хочацца здымаць гісторыю пра трагедыю чалавечай душы, спакушэнні, нейкія неадназначныя ўчынкі на мяжы дабра і зла. У нас не прайшлі б сцэнарыі фільмаў, прадстаўленыя на фестывалі "Лістапад", — "Качагар" А. Балабанава, "Аўсянкі" А. Фядорчанкі, "Шчасце маё" С. Лазніцы. Такія смелыя радыкальныя тэмы ў нас выклікаюць абурэнне. Напэўна, гэта таму, што ні па эстэтыцы, ні па матэрыяле яны не трапляюць у традыцыю беларускага кіно.

**— Ці ёсць у нас патэнцыял, каб заявіць пра сябе на міжнародных фестывалях ці для з'яўлення "новай беларускай хвалі"?**

— Для фестывалю патрэбны авангард, новае прачытанне, пераасэнсаванне, эксперыменты ў форме і змесце. Між іншым, нашых дакументалістаў і аніматараў добра ведаюць у свеце. А з ігравым кінематографам усё складаней. Адрыў ад традыцый, нават уласных схем і кантэксту сваіх папярэдніх работ — важная вяха, якая пакуль намі не пройдзена. Калі маладым даваць здымаць тое, што яны хочуць, і так, як яны гэта бачаць, то прарыў будзе і, мабыць, з'явіцца нагода казаць пра "новую беларускую хвалю".

**— Калі вы здымалі свой першы фільм, вы мелі патрэбу раіцца з прафесіяналамі?**

— Так, канечне, раіўся. Напрыклад, як даваць каманды. Мне пашанцавала, што я мог атрымаць добрую параду ад сваіх педагогаў Віктара Турава, Аляксандра Яфрэмава, ад рэжысёраў Сяргея Лук'янчыкава і Паўла Лунгіна, піцерскага кінакрытыка Алега Кавалёва.

**— У якія моманты вы адчуваеце сябе бездапаможным?**

— Уся праца ў кіно — гэта ў прынцыпе адчуванне бездапаможнасці і яе пераадоленне. Гэта пастаяннае жаданне ўсё кінуць і бегчы навуцёкі. Але, на шчасце, ёсць і другі закон кіно — жыццё фільма самаарганізуецца. Трэба вычакаць пэўны момант, не заўжды ты можаш усё прадбачыць. Калі позірк робіцца замыленым, варта паслухаць іншага чалавека і, магчыма, народзіцца новая цікавая ідэя. Вядома, галоўнае пры гэтым не згубіць асноўную сюжэтную лінію і не страціць кантроль над фільмам.

**— Значыцца, вы даяце правіць ініцыятыву людзям са здымачнай пляцоўкі?**

— Калі прапануюць слушныя рэчы, чаму ж не? Прымаць альбо не прымаць — гэта ўжо мая справа як рэжысёра. Ведаеце, у Анджэя Вайды нават такі метад працы: да яго бягуць усе і нешта прапаноўваюць, ён сядзіць і проста адбірае цікавыя ідэі. Кажуць, яшчэ Напалеон карыстаўся гэтым метадам. Калі так, тады гэта не ён выйграваў войны, а падначаленыя яму палкаводцы. Іншая праблема — гэтых палкаводцаў сабраць вакол сябе…



**— Сапраўды, цікава, як вы падбіраеце сваю каманду?**

— У адрозненне ад серыялаў, кіно робяць сябры. Тут усё-ткі павінны быць людзі адной крыві, якія разумеюць цябе з паўслова. Гэтыя людзі не выпадковыя, здольныя падтрымаць і паступіцца сваімі інтарэсамі дзеля агульнай справы. Напрыклад, у майго другога рэжысёра свая рэкламная фірма, і ён кінуў частку сваіх заказаў, каб паўдзельнічаць у маім праекце. Мастак таксама мой блізкі сябра. Ды і акцёры не безаблічныя марыянеткі, а людзі, з якімі мне прыемна працаваць.

**— Асабліва вартая, відаць, цудоўная праца аператара...**

— Над фільмам працавалі два аператары, але з першым у нас нешта не склалася, таму я запрасіў Пашу Зубрыцкага, з якім мы працавалі раней. Ён чалавек інтуітыўнага плану, не тэарэтык, тым больш яго прафесіяналізм не выклікае ў мяне ніякіх сумненняў.

**— Гэта праўда, што рэжысёр па сваёй сутнасці дыктатар?**

— Любы кіруючы чалавек у нейкім сэнсе ўяўляецца дыктатарам, розніца — у спосабе кіравання. Трэба ўмець заахвочваць акцёраў, зацікавіць, даць магчымасць праявіць сябе. У серыялах патрэбна дыктатура, там усё павінна быць строга па тэрмінах ды адпаведна фармату. У вялікім кіно атмасфера на здымачнай пляцоўцы павінна быць амаль душэўнай, бо тут важна ступень даверу паміж акцёрамі і рэжысёрам.

**— Што вам бліжэй — ствараць фільмы кожны год, як Вудзі Ален, альбо раз у дзесяць гадоў, як Аляксей Герман-старэйшы?**

— Хацелася б як Вудзі Ален, а атрымліваецца раз у дзесяць гадоў. Але гэта не звязана з недахопам фантазіі ці творчай пазіцыяй, што трэба доўга прадумваць, выношваць сваю задуму, бясконца ўдасканальваць… Справа ў тым, што не заўсёды ўдаецца знайсці паразуменне са спонсарамі альбо людзьмі, якія вызначаюць кан'юнктуру кінарынку.

**— І ў такія моманты вы згаджаецеся здымаць серыялы? Для вас гэта кампраміс?**

— Скажам, вымушаная мера. Я сапраўды працаваў на серыяле "Оперы" і зрабіў другі сезон "Кадэцтва". З аднаго боку, гэта школа майстэрства, з гэтага таксама можна нешта вынесці ў прафесійным плане, з другога боку, можна зарабіць нядрэнныя грошы. Шчыра кажучы, я па магчымасці стараўся адцягваць гэты перыяд, але прастойваць без усялякай працы яшчэ горш: губляецца майстэрства, вера ў сябе. Галоўнае — надоўга не затрымацца ў серыялах, таму што гэта паток, канвеер, дзе трэба выкрэсліваць індывідуальнасць і прыстасоўвацца да фармату. Серыялы звычайна робяцца па прынцыпе: чым горш, тым лепш для гледача, тым рэйтынгі вышэй. І дзякуй богу, Павел Сямёнавіч Лунгін прапанаваў мне зняць моладзевую гісторыю, ён жа стаў і прадзюсарам фільма. "Розыгрыш" карыстаецца папулярнасцю ў Расіі, у нас яго не купілі.

**— Што для вас важней: выказацца або выказацца так, каб вас зразумелі?**

— Выказацца і атрымаць задавальненне. Што такое "дагадзіць гледачу"? Я не думаю, што сённяшні глядач — паказчык поспеху, ён страціў самасвядомасць патокамі серыяльнага мыла. А тое, што ідзе ў кінатэатрах, адбівае жаданне туды хадзіць. Сёння ўжо страчана публіка другога кіно. Другое кіно стала літаральна андэграўндам — няма пракату. У Расіі кіно выходзіць на некалькіх копіях. Гэта абсурдна. Хаця прыярытэты расстаўленыя, выбар у чалавека застаецца.

**— Але ж вам не падабаецца сучасны артхаус?**

— Так, многае з фестывальнай моды мне не падабаецца. Зараз амаль няма кіно, якое знаходзіцца недзе пасярэдзіне паміж халодным эстэцтвам і пасрэднай, пошлай папсой. Што да мяне, я аддаю перавагу другому мэйнстрыму, добра зробленаму кіно, дзе гарманічна суісную глядацкае і эстэтычнае, як Галівуд 70-х. Фільмы з прэтэнзіяй на фестывальны пракат занадта змрочныя, да таго ж, нейк дыстанцыруюцца, абстрагуюцца ад гледача: чым больш незразумела, тым лепш.

**— Чаму так адбываецца?**

— Напэўна, усе занадта захапіліся эстэтыкай. Вытанчанасць і дакладнасць экраннага малюнка не заўсёды дае жывы і натуральны вобраз. Часам колеракарэкцыі, мікшыраванню і ўсім гэтым эфектам надаецца больш значэння, чым зместу. Мне падабаюцца недаробленасці, нават нейкая нехайнасць… Узяць таго ж Балабанава — ён зусім не ідэальны рэжысёр. У яго ёсць свой стыль і свая філасофія. А вось рэкламны стыль пад Дэвіда Лінча мяне дужа злуе. Аўтарскі стыль павінен фармавацца ў працэсе асабістых творчых пошукаў, а не быць нечым кшталту дэжавю — падгледжаная і скапіраваная стылістыка пад прызнаных мэтраў ці пад фестывальнае кіно.

**— А хто, на вашую думку, для вас прадстаўляе цікавы аўтарскі кінематограф?**

— У кожны перыяд мне падабаліся розныя рэжысёры — Жан-Люк Гадар, Анджэй Вайда, Франсуа Труфо, Клод Шаброль, Серджо Леонэ, Марыё Бава і яго паслядоўнік Дарыё Арджэнта. У свой час для мяне з'явіліся сапраўдным адкрыццём "Дні зацьмення" Аляксандра Сакурава. Хоць да гэтага глядзеў Таркоўскага, але гэта было зусім іншае, такі нестандартны погляд у кіно. Уражанне было настолькі моцным, што можна сказаць, з-за Сакурава я трапіў у кіно. У нейкія перыяды ён заставаўся для мяне блізкім, цікавым, у нейкія, мне здаецца, рабіў прадказальныя рухі. Сакураў з тых рэжысёраў, хто шмат здымае, эксперыментуе, не баіцца мяняць стылістыку. Увогуле, ён пастаянна мяняецца, а ў Таркоўскага была праблема, пра якую яшчэ Бергман казаў, што ён знайшоў сваю ноту і стаў далей здымаць фільмы "пад Таркоўскага".

**— Значыцца, важна мяняць сваю стылістыку?**

— Рэжысёры ёсць розныя. Некаторыя вытрымліваюць сваю лінію з фільма ў фільм, іншыя спрабуюць змяніць. Мне цікава спрабаваць новае.

**— Якімі павінны быць дыялогі ў сцэнарыі: літаратурныя рэплікі альбо як у жыцці?**

— Мне падабаюцца дыялогі ў Таранціна. Для мяне важна, каб яны былі парадаксальнымі і ў той жа час натуральнымі, дарэчнымі, працавалі на фільм, на інтрыгу. Зараз ідзе мода на тэатр.doc, кіно.doc, рэплікі паўтараюць размовы з вуліц. Ёсць у гэтым і перагібы, усё-ткі кіно ёсць кіно і нейкіх універсальных законаў нашай прафесіі ніхто не адмяняў.

**— Колькі трэба зняць фільмаў, каб набыць упэўненасць у сабе?**

— Думаю, фільмы 3 — 4. Але гэтую з цяжкасцю набытую ўпэўненасць можна лёгка страціць. Дастаткова сутыкнуцца з дрэнным прадзюсарам. Напрыклад, Павел Лунгін зняў "Востраў". Як вядома, фільм атрымаў разнастайныя прызы і татальную папулярнасць. І тут ён здымае "Галінку бэзу", дзе ўступае ў такі канфлікт з прадзюсарам, што рэжысёр быў даведзены ледзьве не да істэрыкі. Канечне, гэта застаецца малавядомым, за кадрам.

**— Якую ж рэакцыю выклікае ваш фільм? Я пра тое, што, магчыма, не заўсёды яго разумеюць, і тое, які ў вас быў пасыл?**

— "Масакра" была рафінаванай гульнёй па жанрах. Вастрыня, якая была ў задуму, згубілася, шматлікія тэмы і падтэксты са сцэнарыя сышлі — тое ж паўстанне Каліноўскага. Тады я вырашыў зняць выразнае, жанравае кіно, цалкам глядацкае, з добрым бюджэтам, спецэфектамі... Але я застаўся з мінімальным бюджэтам, не змаглі падключыць расійскіх і польскіх спонсараў. Так што мне нічога не заставалася, як пачаць "крэатывіць" і працаваць за задавальненне. На студыі адбыўся першы прагляд, дзе ўсё было занадта разжавана і зразумела, без загадкі і інтрыгі. Мне падалося, што гэта робіць фільм прымітыўным. Таму мы выразалі тыя ўстаўкі, якія растлумачваюць сэнс таго, што адбываецца. І я аб гэтым не шкадую, гэта быў свабодны выбар творчага чалавека.

**— Вы далі нам прастору для вольнай інтэрпрэтацыі. У якіх сітуацыях дапускаеце кампраміс?**

— Усе ідуць на кампраміс. Я не думаю, што той жа Герман, які здымае 10 гадоў, не ідзе на кампраміс. Гэта свайго роду непазбежнасць. Ісці на ўступкі прыходзіцца часцей, чым здаецца, часам яны заканчваюцца і перапісваннем сцэнарыя. Але ёсць кампрамісы, на якія нельга згаджацца ні ў якім разе. Напрыклад, датычныя таго, што ўплывае на якасць фільма.

**— Колькі вам спатрэбілася дубляў у першы дзень здымак "Масакры"?**

— У першы дзень мы здымалі апошні кадр, працавала ўся здымачная група і ўсе былі ў кадры, таму прыйшлося зрабіць шмат дубляў. Але ведаеце, беларуская школа прывучае эканоміць плёнку, Андрэй Канчалоўскі або Павел Лунгін звычайна кажуць адваротнае: што-што, а плёнку эканоміць нельга. Бясспрэчна, не трэба марнаваць яе без разбору… Гэта эканомія на якасці, якая можа выйсці бокам, дублі тры трэба рабіць дакладна. Мне б хацелася, каб гэта прадузятасць як савецкі перажытак сышла.

## 21 лютага — Міжнародны дзень роднай мовы

# Ментальнасць высокай культуры, альбо Некалькі чыннікаў, каб размаўляць па-беларуску

Анатоль ТРАФІМЧЫК,
фота Кастуся Дробава

**Вартасць беларускай мовы заўсёды была пад пытаннем. Тым не менш наша мова жыла. Яна і сёння нікуды не збіраецца сыходзіць. Калі прыглядзецца, то можна заўважыць, што кожны час абумоўліваў свае прычыны існавання беларускай мовы, характэрны толькі для пэўнага гістарычнага моманту шэраг асаблівасцей. Іх рэтраспектыву пакінем гісторыкам. Наступнымі ж радкамі хацелася б абазначыць тыя чыннікі, якія з'яўляюцца перадумовамі выкарыстання беларускай мовы ў самых шырокіх грамадскіх сферах. І не проста абазначыць, а абгрунтаваць.**

У сённяшні рацыянальны час многім людзям у першую чаргу важны ўтылітарны аспект. Мяркую, што павярхоўны погляд, паводле якога вакол пануе руская мова, памылковы. У жыцці (і не толькі на тэрыторыі Беларусі) не раз зможа выручыць толькі беларуская. Прывядзём прыклады.

Здаць тэсты ці дыктант на іспытах (часцей, канечне, выпускных ці прыёмных) лягчэй па-беларуску. Згодна статыстыцы, каля 40 працэнтаў абітурыентаў выбіраюць менавіта беларускую. Здавалася б, гэта меней, чым колькасць тых, хто выбраў рускую, — 60 працэнтаў. Але ўспомнім, што беларускамоўных вучняў цяпер у краіне толькі каля 20 працэнтаў ад усёй колькасці. Значыць, вялікая доля (не меней як 20 працэнтаў) выпускнікоў небеларускамоўных школ схіляюцца менавіта да іспыту па беларускай мове.

Накont замежжа. Веданне яшчэ адной мовы будзе толькі вітацца, калі нехта захоча паспытаць шчасця на чужой старонцы. А валоданне такой малараспаўсюджанай, як беларуская, — тым больш. Вядомы выпадак, калі дзяўчына паступіла ў амерыканскі ўніверсітэт менавіта таму, што ў анкеце ўказала сваю беларускамоўнасць, што было для ўстановы даволі эксклюзіўна.

Існуе яшчэ мноства сітуацый, калі беларуская мова паспрыяе ісці па жыцці, у тым ліку зусім дробных. Так, адзін знаёмы беларус, які ў вясковa-беларускамоўным дзяцінстве пераехаў у Падмаскоўе і — вядома — стаў рускамоўным, расказваў, як некалькі разоў катаўся ўзад-наперад па мінскім метро, бо не мог знайсці станцыі "Октябрьской". Такіх непаразуменняў можна было б пазбегнуць, каб чалавек захаваў веданне роднай, стаў білінгвам.

Паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, беларуская і руская мовы раўнапраўныя. Забяспечанасць іх ужывання ў роўнай меры гарантуецца законам. Грамадзяне як мінімум павінны валодаць абедзвюма мовамі. А ў многіх выпадках (перадусім у сферах абслугоўвання, медыцыны, адукацыі, юрыспрудэнцыі, якія ахопліваюць, бадай, усё грамадства) беларускамоўныя маюць права атрымаць адэкватнае разуменне. Няведанне беларускай мовы ў такіх выпадках з'яўляецца антызаконнай, антыдзяржаўнай праявай. Напрыклад, у судах пры неабходнасці нават прадугледжаны перакладчыкі. У крамах прадаўшчыцы, у бальніцах дактары і іншы медперсанал, а таксама шафёры, кандуктары, дыспечары аўтабаз грамадскага транспарту абавязаны ведаць беларускую. Яе няведанне ці, тым больш, адмаўленне ў абслугоўванні беларускамоўных кліентаў, якіх у нас вельмі шмат, можна цалкам кваліфікаваць як невыкананне службовага абавязку.

Беларуская мова з'яўляецца адной з самых мілагучных моў у свеце, што прызнана міжнароднай супольнасцю. Таму карыстацца беларускай мовай натуральна для чалавека гэтаксама, як імкнуцца да прыгожага. Неабходна звярнуць увагу, што прыгажосць беларускай мовы адзначаюць замежнікі, перш за ўсё нашымі суседзямі. Гэту рысу яшчэ ў XIX стагоддзі заўважылі расіяне, калі пачалі этнаграфічныя і лінгвістычныя даследаванні з мэтай даказаць, што беларусы — гэта не асобны народ, а сапсаваная пальшчызнай частка вялікай рускай нацыі, прыйшоўшы ў выніку да прызнання нацыянальнай аўтэнтычнасці беларусаў. Гэту рысу адзначалі і дзеячы польскай культуры. Так, мілагучнасць мовы васьмімільённага на той час народа захапляла вялікага сусветнага рамантыка Адама Міцкевіча, які сам добра валодаў гэтаю моваю і нават, па некаторых меркаваннях, пісаў на ёй вершы. Дарэчы, беларуская паэзія — адна з самых прыгожых у свеце. У многім, канечне, дзякуючы мове. Дый Беларусь многія называюць краінай паэтаў, якіх у нас сапраўды шмат, калі кіравацца прапорцыямі. Хіба ж не гучыць?

*У любімай мове, роднай, наскай,*
*Ах, якія словы: «Калі ласка!..»*
(П. Броўка)

*І ўсё мілагучна да слыху майго:*
*І звонкае "дзе", і густое "чаго".*
(П. Панчанка)

Наша мова нясе ментальнасць высокай культуры. Пераходам на яе адбываецца ачышчэнне мовы і мыслення ад брыдкаслоўя. Сярод беларускамоўных ужыванне нецэнзурных выразаў на парадак меншае. Гэта таму, што ўтвораныя ад чатырох папулярных каранёў словы (не будзем іх тут называць) прыйшлі да нас з усходу — з цюркскіх моў праз рускую. Канечне, і многія беларусы лаюцца, але для гэтага выкарыстоўваюць не мат, а праклёны накшталт: "А каб цябе Пярун ляснуў!", "Каб цябе бабы на лаве абмылі!", "Каб ты спруцянеў!" і да т.п. Зразумела, і ад такой, са свойскім каларытам лаянкі беларусы не становяцца больш этычнымі. Але, прынамсі, выкарыстаць для "сувязі слоў" цэлую фразу-праклён проста немагчыма, а вось нецэнзурныя словы, ужытыя з гэтай мэтай, даводзілася шмат разоў чуць ад дзяцей дашкольнага ўзросту.

Увогуле, як паказвае практыка, ступень культуры ў нашай краіне вышэйшая сярод беларускамоўных. Менавіта актыўныя носьбіты беларускай мовы і з'яўляюцца фактычна рухавіком айчыннай культуры і мастацтва. Пра літаратуру і казаць нават не варта: мастацтва слова на роднай зямлі можа існаваць толькі на адной мове — беларускай. Той, хто, нарадзіўся і жыве ў Беларусі, а піша на іншых мовах, асуджаны на безаблічнасць сваіх твораў. Адзіным, бадай, яркім выключэннем з'яўляецца Адам Міцкевіч. Многія беларускія класікі, у тым ліку Купала і Колас, пачыналі пісаць адпаведна па-польску і па-руску. Але даволі хутка прыйшлі да ўсведамлення, што толькі беларушчына — іхняя стыхія. Нашай мовай паслугоўцца многія і многія тэатралы, журналісты, музыкі… Здавалася б, для мастакоў мова зусім не мае розніцы, бо карціны пішуцца не мовай, а фарбамі. Але ж у іх асяродку пануе ўпартая тэндэнцыя размаўляць па-беларуску.




Чалавек жыве столькі жыццяў, колькі ведае моў. Гэта, канечне, алегорыя. Перадусім маецца на ўвазе, што жыццё паліглота багацейшае ўжо само па сабе дзякуючы веданню моў, а праз іх — магчымасці суіснаваць з жыццём іншых народаў, карыстацца набыткамі перадусім іх разумовай дзейнасці. Важнасць беларускай мовы на нашай зямлі для развіцця інтэлекту абумоўлена гістарычна. Актуаліі ж яе яшчэ больш каталізуюць: каб жыць паўнавартасным жыццём у Беларусі, без мовы народа не абысціся, без мовы інтэлекту ў поўнай меры не адбыцца.

Панаванне трасянкі становіцца добрым фонам для выгаднага вылучэння беларускамоўных. Тым больш што іх вышэйшая ступень культуры паспрыяла ўзнікненню атаясамлення беларускамоўнасці і культурнасці. А з улікам таго, што беларускай мовай характэрызуецца інтэлектуальная эліта нашага народа, у тым ліку тая частка, якая з'яўляецца носьбітам вечных, а не часовых, каштоўнасцей, а таксама моды, то і беларуская мова стала апошнім часам моднай. Гэта мода распаўсюдзілася ўжо даволі шырока. Яе падхапіў моладзевы асяродак. У многім мода падмацоўваецца прэстыжнасцю: на беларускай мове актыўна размаўляюць аўтарытэты ў розных кірунках дзейнасці. "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі". Так сказаў некалі Францішак Багушэвіч і меў рацыю. Мова — душа народа, аснова нацыі. Без яе народ ператвараецца ў насельніцтва ці, у лепшым выпадку, у грамадзян. Сапраўдны патрыятызм не можа быць іншамоўным. Таму нават звычайнае ўжыванне беларускай мовы з'яўляецца праявай патрыятызму. Каб абудзіць яго, да беларускага народа звярнуўся на яго мове Кастусь Каліноўскі, выдаўшы газету "Мужыцкая праўда". З гэтай жа мэтай былі аслаблены лейцы русіфікацыі падчас Вялікай Айчыннай вайны: нават цэнтральная савецкая газета "Правда" ў першыя дні фашысцкай навалы змясціла без перакладу верш Якуба Коласа, дый партызанскія газеты і лістоўкі ў большасці былі беларускамоўнымі.

Як бачна, акрэсленыя чыннікі пераплятаюцца паміж сабой, пераходзяць адзін у адзін, складаючыся ў цэлы комплекс. Такая цесная карэляцыя яшчэ больш цэментуе тэзу, што па-беларуску размаўляць варта, нават проста неабходна. Прычым не толькі і не столькі для мовы (яна жыла і будзе жыць), колькі для сябе самога — чалавека, які жыве на зямлі сваіх беларускамоўных продкаў, на зямлі багатай культуры, на зямлі народа з душой прыгожай, далікатнай, глыбокай. Беларуская мова патрэбна кожнаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь, каб жыць сёння і каб далучыцца да вечнасці.

Дык не пакінем жа мовы!

## Анкета пісьменніка

# Шпінглер і Маркузе ў сучасным кантэксце

*1. Як вы лічыце: ці павінна ў агульнай літаратурнай плыні прысутнічаць масавая літаратура? Ці згодны з думкай, быццам культура ўсяго грамадства абавязкова мае маскультуру сваім ценем?*



*2. Якія кнігі, на вашую думку, цікавяць чытача? Ці праўда тое, што поспех літаратара ўсё больш залежыць ад майстэрства фатографа і мастака, які афармляе кнігу, ад яе знешняга выгляду?*

*3. Якім ён ёсць, наш сучаснік? Што ў яго характары надае аптымізму?*

**Пісьменніца Зінаіда ДУДЗЮК:**

**1.** Масавая літаратура не можа не прысутнічаць у агульным літаратурным працэсе, бо яна кантралюецца гандлем і камерцыйнаю зацікаўленасцю. Кніга на шляху да чытача робіцца таварам, таму вымагае адпаведнага стаўлення да сябе ў рыначных адносінах. Такое становішча дае магчымасць дзялкам ад літаратуры і ўвогуле ад розных галін мастацтва выступаць заканадаўцамі моды і прымушае творцаў падпарадкоўвацца іхнім патрабаванням, якія навязваюцца праз сродкі масавай інфармацыі. Зрэшты, яшчэ ў XX ст. шэраг замежных філосафаў даследаваў ролю масавай культуры ў грамадстве, у іх ліку былі Хасе Артэга-і-Гасет, Карл Ясперс, Освальд Шпінглер і інш. Аналізуючы характар масавай культуры, кожны з іх адзначаў яе камерцыялізацыю. Тэлебачанне, найбольш даступны сродак масавай інфармацыі, вельмі шырока ўплывае на густ насельніцтва, што не лепшым чынам адбіваецца на культурным узроўні людзей. Прачытваючы тэлепраграмы розных каналаў, міжвольна схіляешся да думкі, што масавая культура захапіла ўсе пазіцыі. А ў спецыфічных умовах Беларусі, дзе родная мова знаходзіцца ў занядбаным дзяржаваю стане, у сувязі з гэтым страчваецца і традыцыйная культура карэннай нацыі.

На думку філосафа Маркузе, сучасныя тэхналогіі прыводзяць да з'яўлення ўсё новых, больш эфектыўных і нават "прыемных" спосабаў кантролю і ўлады над людзьмі, праз сацыялізацыю і заспакаенне іх, шырока прадстаўляючы на экранах тэлевізараў масавы спорт і празмерную эксплуатацыю тэмы сексу. Наогул, прадстаўнікі крытычнай філасофскай тэорыі вялікую ўвагу надаюць так званай "індустрыі культуры", якая нараджае масавую культуру, кіруемую і хлуслівую, здатную падаўляць і атупляць. З імі нельга не пагадзіцца.

**2.** Мяркуючы па назвах кніг, якія пералічваюцца ў "ЛіМе" пад рубрыкай "Топ-10", можна сказаць, што людзі купляюць самае неабходнае: даведнікі, дапаможнікі, слоўнікі, падручнікі. Гэта выклікана найперш сціплым дастаткам беларусаў. Старэйшае пакаленне помніць той час, калі кнігі былі танныя, ніхто не адмаўляў сабе ў задавальненні набыць томік паэзіі ці прозы. Амаль кожная сям'я мела бібліятэку. Прыгожа аздобленая кніга прыцягвае ўвагу, але адначасова кошт яе можа напалохаць патэнцыяльнага пакупніка. Хаця ў якасці падарунка сабе ці каму іншаму, безумоўна, дарагая кніга — найлепшая рэч. Калі кнігу купляюць для таго, каб чытаць, дык важным з'яўляецца тэкст, калі разглядаць малюнкі — тады аздабленне.

**3.** Нашыя сучаснікі — людзі вельмі розныя. Ды мне хочацца сказаць колькі добрых слоў пра маіх суседзяў. А жыву я ў прыватным сектары, які будуецца на маіх вачах на працягу апошніх сямі гадоў маладымі сем'ямі. Людзі гэтыя пераважна працуюць на вытворчасці, маюць у большасці дваіх дзяцей і сціплыя хаты свае ўзводзяць найчасцей уласнымі рукамі ці з дапамогаю бацькоў. Іхняя зычлівасць, працавітасць, прыстойнасць выклікаюць у мяне не толькі аптымізм, але вялікую павагу і захапленне. Гэта сапраўдныя гаспадары свайго лёсу і ў сваіх сем'ях. Гэта людзі, якія жывуць дзяржаўнымі інтарэсамі.

# Калейдаскоп «акварэльнай» самоты

## Беларуская проза першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя

Ірына ШАЎЛЯКОВА

**Адчуванне "зломнасці" сацыякультурнай парадыгмы з пункта гледжання агульнасусветнага літаратурнага развіцця павінна было б месць наступствам росквіт жанраў фэнтэзі, "хорару" (неагатычнай прозы), літаратурнага трылера, дэтэктыва. Беларуская проза ў першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя рушыла сваім шляхам — насуперак не толькі агульным тэндэнцыям сусветнага літаратурнага "мэйнстрыму", але і, у пэўным сэнсе, запатрабаванням самога інфармацыйнага грамадства, для якога "добрая" літаратура — "зручная" літаратура. У 2000-я гады нават узоры "чыстага" беларускага дэтэктыва ("крымінальнага", "міліцэйскага") былі адзінкавымі: раман "Танцавальны марафон" (2001), творы са зборніка "Шлях да Галгофы" (2003) В. Праўдзіна, некаторыя аповеды Л. Маракова з кнігі "Запісы забітага кантрабандыста" (2008).**

Насуперак "меркантыльным" запатрабаванням часу, у беларускай прозе гэтага перыяду назіраўся сапраўдны ўздым цікавасці да лірычнай прозы — зрэшты, цалкам натуральнае ў логіцы развіцця нацыянальнай літаратурнай традыцыі. Як і ў 1990-х гадах, яна прадстаўленая цэлым спектрам жанравых разнавіднасцей: апавяданнямі, навеламі, мініяцюрамі, прычым у колькасных адносінах відавочна пераважаюць апошнія. Агульная танальнасць "абразкоў", "імпрэсій", "зацемак", "фрэсак", "экспрэсій", "акварэляў", "эцюдаў" і падобных форм, якія ў пэўным сэнсе пераймаюць мазаічную ("калажавую") логіку сучаснага быцця, вызначаецца рознымі адценнямі самоты — нярэдка экзістэнцыяльнай, пранізлівай, але разам з тым "стоена" жыццесцвярджальнай.

Падаецца сімвалічным, што ў першым нумары часопіса "Полымя" за 2000 год з'явілася публікацыя "Пішу, чытаю, жыву. З лірычных запісаў" Я. Брыля, з творчасцю якога звязваецца станаўленне і росквіт лірычнай мініяцюры ў сучаснай беларускай літаратуры. У апошнія гады жыцця пісьменнік аддаваў перавагу форме "запісаў": "Ляцела зязюля. Сёлетнія запісы" (2003), "На шчасце. З лірычных запісаў" (2001), "Леташняе. З лірычных запісаў" (2002); у 2003 годзе пабачыла свет кніга "З людзьмі і сам-насам", куды ўвайшлі акрамя іншага запісы і мініяцюры 2000 —2002 гадоў, а ў 2006 годзе — кніга "Парастак: запісы і эсэ" (2006).

На першы план у "запісах", калі параўноўваць іх з іншымі жанравымі разнавіднасцямі "мініпрозы", выступае "фактаграфія", занатоўванне канкрэтнай падзеі ці з'явы, якія асэнсоўваюцца і як бы "каменцірууюцца" з дапамогай шматслойных брылёўскіх эпітэтаў, адухаўлення, пантэістычных метафар, іншых тропаў, сінтаксічных фігур і г.д. У прозе Я. Брыля апошніх гадоў знайшлося месца велічнай, мудрай прыродзе — і мітрэнгам літаратурнага ды калялітаратурнага жыцця, успамінам пра колішнія сустрэчы, узрушэнні, уражанні — і развагам пра надзённае… Знайшлося месца не толькі вірліваму, гаманкому быццю, але і моўкнаму нябыту.

У першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя пісьменнікі старэйшага пакалення, нібы падкрэсліваючы повязь паміж класікай нацыянальнай літаратуры XX стагоддзя і сучаснасцю, нярэдка звярталіся да жанру "абразкоў": час ад часу з'яўляліся ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы абразкі Л. Арабей ("Пошукі ісціны" (2005), "Бацькі і дзеці" (2009) і інш.; у кнігу А. Васілевіч "Першая жонка нябожчыка" (2002) акрамя апавяданняў увайшлі "эцюды" і "думкі ўголас"; у зборнік З. Прыгодзіча "Журба мая светлая" (2002) побач з апавяданнямі і аповесцямі — лірычныя абразкі і мініяцюры. Нягледзячы на тое, што К. Камейша не пазначае жанравую прыналежнасць свайго твора "Паміж кубкам і вуснамі", паводле асаблівасцей зместу і формы ён набліжаецца да абразкоў у іх сучасным варыянце, вызначальнымі прыкметамі якога становяцца падзейнасць (відавочная ці прыхаваная), рэфлексіўнасць, медытатыўнасць, амаль абавязковая наяўнасць маральнай высновы, падкрэсленая лаканічнасць выказвання.

Зрэшты, пералічаныя адзнакі ў большасці сваёй (за выключэннем двух апошніх) уласцівыя і "зацемкам з левай кішэні" Л. Галубовіча, якія ўпершыню з'явіліся ў друку яшчэ ў 1990-х. У публікацыях 2000-х гадоў колішняя назва ператварылася ў найменне жанру ("Жыццё паэта ў мініяцюры. *Зацемкі з левай кішэні*"), які пачаў асвойвацца іншымі аўтарамі ("Дрэвы, спілаваныя зімой. Зацемкі" (2007 — 2009) П. Качатковай). Бадай, галоўнае адрозненне "зацемак" ад іншых разнавіднасцей сучаснай лірычнай мініяцюры ў беларускай прозе палягае ў перамяшчэнні цэнтра мастацкай увагі з падзейнасці знешняй на ўнутраную. У гэтым сэнсе да "зацемак" набліжаюцца "фрэскі" Барыса Пятровіча (згадаем, напрыклад, "Кропкі" (2005)), міні-проза С. Рублеўскага "Пярліна і ланцужок маіх дарог" (2005), а таксама мініяцюры Уладзіміра Сцяпана ("Калі рыба не ловіцца… *З нататніка*" (2007)). Нярэдка рэчаіснасць тут ёсць толькі нагодай для вандроўкі ва "ўнутранае мора" — у нетры памяці, у дзяцінства, юнацтва, маладосць, падзеі якіх паўстаюць больш існымі, важнымі, пэўнымі, чым мітусня сучаснасці.



Фота Кастуся Дробава

Менавіта "рэтраспектыўнасць" зместу ў значнай ступені абумоўлівае медытатыўны, шчымлівы лірызм "элегій" В. Зуёнка "Гіпноз" (2001), "На парукі" (2002) (зрэшты, у гэтых замалёўках з вясковага жыцця элегічнасць падсвечваецца дасціпным гумарам), аповедаў (якія сам аўтар называе "эсэ") Н. Гальпяровіча з кнігі "Шляхі і вяртанні" (2001), "Давыд-гарадоцкіх канонаў" (2003) Г. Марчука. Матыў "вяртання-ўзгадвання", паглыбены самотай незваротнасці, прысутнічае ў першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя ў лірычнай прозе пісьменнікаў розных пакаленняў, але асабліва абвострана — у апавяданнях, навелах і эсэ так званага сярэдзіннага пакалення (кнігі "Апостраф: Тэксты аб праявах быцця" (2000), "Азярод" (2003), "Абмытыя валуны" (2005) С. Рублеўскага; аповеды Уладзіміра Сцяпана "Вяртанне" (2004 — 2005), І. Бабкова "Восень у Гародні" (2009) і інш.).

У абсягах лірычнай прозы ў якасці надзвычай цікавага навеліста выявіўся ў гэты перыяд Уладзімір Сцяпан; ён, бадай, найбольш паслядоўна сёння звяртаецца да жанру навелы: "Півоня" (2002), "Ліпеньскай ноччу" (2005), "На вуліцы Школьнай" (2006), "Адна капейка" (2006), "Дзве гадзіны" (2006), "Штурман" (2006), "Чырвоны мячык" (2006), "Чорны кандуіт" (2007) і інш. Характэрна, што і творы, якія сам аўтар называе "аповедамі" ці "акварэльнымі малюнкамі", вылучаюцца адмысловай "навелістычнасцю": нават самыя кароткія мініяцюры вызначаюцца фабульнасцю, дынамічнасцю дзеяння ("вонкавага" або "ўнутранага"), "непрадказальнасцю" высноў. Разам з тым, ці не кожны твор Уладзіміра Сцяпана — узор "выяўленчай прозы". Так, у аповедзе "Хацелася напісаць пра…" (2002), што складаецца з міні-навел, кожны фрагмент уражвае выбудаванай экспазіцыяй, рэльефнасцю вобразаў, раскрыццём сутнасных прыкмет той ці іншай з'явы з дапамогай тонкіх сэнсавых і эмацыянальных нюансаў, спалучэннем дакладна выпісаных контураў і багацця колеравых пераліваў-пераходаў. "Выяўленчасць" пісьма бачыцца сёння адной з найважнейшых адзнак індывідуальна-творчага стылю Уладзіміра Сцяпана, пра што сведчаць не толькі ягоныя мініяцюры і кароткія аповеды, але і аповесць "Сто акварэльных малюнкаў" (2008), і асабліва твор "Дзед. Акварэльныя малюнкі" (2009). Асобаснае перажыванне, занатаванае ў індывідуальнай памяці я-героя "Дзеда", без дыдактычнай зададзенасці становіцца грунтам для агульназначнай, універсальнай (прынамсі, у кантэксце традыцыйнай беларускай сістэмы маральных каштоўнасцей) высновы. Асобна варта адзначыць удалыя суадносіны ў гэтым (зрэшты, як і ў іншых) творы Уладзіміра Сцяпана зместу і формы, а таксама збалансаванае спалучэнне лірычнай медытатыўнасці з апавядальнасцю (тут: мінімальнай "сюжэтнасцю" мініяцюр): "Ні дзед, ні баба маліцца мяне не вучылі. У маладыя гады дзед спяваў у царкоўным хоры. Аднойчы ён расказаў доўгую малітву. Тое было, калі я хвараў. Я ляжаў у ложку пад ватнай коўдрай і глядзеў на дыванок. На залатых аленяў, на сінюю ваду, кучаравыя аблокі і дзівосныя дрэвы… Дзед сядзеў побач, гладзіў маё плячо і няспешна гаварыў. Незразумелыя словы не давалі заснуць… Сніліся мне алені і бліны". "Разамкнутасць" кампазіцыі гэтага твора Уладзіміра Сцяпана абумоўлівае немагчымасць канчатковай "кропкі", прынцыповую "нонфінальнасць" аповеда. Нават смерць цэнтральнага вобраза-персанажа дзеда Ладзіміра, якая ў тэксце згадваецца неадночы, для апавядальніка не ёсць падставай спыніцца: яна, хутчэй, кожны раз становіцца адмысловай "кропкай біфуркацыі", з якой пачынаюць множыцца ўсё новыя і новыя гісторыі.

Калі ў дачыненні да прозы Уладзіміра Сцяпана, а таксама да некаторых твораў Адама Глобуса ("Настаўнікі. Аўтапартрэтныя эцюды" (2005)) матываваным падаецца ўдакладненне "выяўленчая", дык у адносінах да пераважнай большасці лірычных аповедаў Л. Дранько-Майсюка такім характаралагічным вызначэннем становіцца словазлучэнне "паэтычная проза". Так, "Горад Боны і Давіда. Альбомная проза" (2009) адкрываецца "Песняй пра Давыд-Гарадок" і напачатку нагадвае "гісторыка-культурнае эсэ", прысвечанае Давыд-Гарадку, "міфалогіі", норавам і побыту яго жыхароў. Аднак паступова празаічны аповед ператвараецца ў сапраўдны прозіметрум — такі сплаў празаічнага і паэтычнага маўлення, дзе проза не "ўпрыгожваецца" вершаванымі фрагментамі, але набывае дзякуючы ім прынцыпова новыя асацыятыўна-вобразныя, выяўленчыя, гукавыя ўласцівасці, што стварае адмысловы сугестыўны эфект. Гэты ж эфект назіраецца і ў творы "У Вільні і больш нідзе" (2009), дзе верш "Іван Луцкевіч" задае агульную танальнасць "паэтызаванаму аповеду", што паўстае на скрыжаванні элегічнага гімна Вільні ("месту беларускага зместу"), падарожнай прозы і гісторыка-асветніцкага эсэ.

Зрэшты, паэтычнасць прозы Л. Дранько-Майсюка не абумоўліваецца наяўнасцю ў тым ці іншым аповедзе ўласна вершаваных фрагментаў. Справа, хутчэй, у адмысловай сфакусіраванасці аўтарскага зроку, які і ў самых звыклых пейзажах, і ў "празаічных" сустрэчах выпадковых вычытвае тую "вечную музыку", дзе "свабода глядзіць у вочы каханню" (апавяданне "Анёлак і я" (2002)), дзе дагляданне кветак і змаганне з нашэсцем жаб на хату для дванаццацігадовага падлетка, пакінутага на адзіноце з гародам і паводкай, ёсць аднолькава важнымі перамогамі над лёсам і светам (апавяданне "Хлопчык і яго бацькі" (2005)).

Увогуле, узмацненне паэтычнай мадальнасці аповеда ў першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя становіцца адной з яскравых прыкмет беларускай лірычнай прозы. Выяўляецца тое не толькі ў звароце аўтараў да формы прозіметруму ("Лісты і залатое лісце" (2006), "Паэт, у якога ўсе дома. *Проза-нітка, на якой адпачываюць вершы*" (2008) В. Шніпа) ці ў спробах "перасадзіць" паэтычныя жанры на празаічную глебу ("Яна ўся такая. *Амаль вянок амаль санетаў*" (2005) С. Верацілы, "Лагуна. *Паэма*" (2008) М. Касцюкевіча). У пэўным сэнсе, можна гаварыць пра экспансію паэтычнага светаадчування і адпаведных вобразна-выяўленчых сродкаў (гукапісу, фігур паэтычнага сінтаксісу, рытміка-інтанацыйнай арганізацыі тэксту і г.д.) у прастору ўласна прозы. Вынікам стала відавочнае пашырэнне жанрава-стылявога спектра найноўшай лірычнай прозы, асобныя ўзоры якой (напрыклад, згаданы вышэй творы Л. Дранько-Майсюка, а таксама кароткія аповеды М. Касцюкевіча, што нагадваюць своеасаблівыя ўрбаністычныя імпрэсіі: "Прысмеркі вялікага гораду. Аповед без героя" (2008) і інш.) можна вызначаць як "паэзію ў прозе" ці нават больш радыкальна — як "*прозапаэзію*".

# Творы з сямейнага альбома

**У пэўным узросце чалавек непазбежна прыходзіць да неабходнасці вызначэння свайго месца ў ланцугу пакаленняў. Цікавасць да ўласнага радаводу, актуальная ў наш час, з'яўляецца працягам беларускай этнакультурнай традыцыі, у якой вялікае месца належыць ушанаванню культу продкаў. Асэнсаванню месца і ролі старэйшых членаў сям'і ў фарміраванні светаўспрымання асобы прысвечаны творы Уладзіміра Сцяпана "Бацька і Барселона" і "Дзед".**

Ксенія КУШНАРОВА

У аповесці "Бацька і Барселона" (2002 г.) пісьменнік кароткімі штрыхамі выпісвае вобраз бацькі ў экзатычным краявідзе курортнага іспанскага горада. Такое спалучэнне абгрунтоўваецца некалькімі акалічнасцямі: на пачатку твора апісваецца сон, у якім аўтар бачыць бацьку перад кніжнай крамай у Барселоне, пазней у тэксце расказваецца пра званок з названага горада ў Касцюкоўку, што нябачнай ніткай звязвае бацьку і сына і віртуальна спрычыняе іх да месцазнаходжання адзін аднаго.

Увогуле, з'яўленне касцюкоўскага жыхара, які ніколі не быў за мяжой, на прасторах іспанскага курорта тлумачыцца тым, што ўспрыманне гэтага экзатычнага горада сынам адбываецца паралельна з ягонымі думкамі пра бацьку і заўвагамі тыпу: *"У Барселоне яму было б добра"*, што накладвае вобраз на краявід і стварае эфект віртуальнай прысутнасці. Пісьменнік паказвае аднначасовыя дзеянні, якія маюць адну прычыну (размова па тэлефоне), але адбываюцца ў розных месцах: у Барселоне герой-апавядальнік ідзе ў атэль і думае пра бацьку, які ў Беларусі адшуквае на карце Барселону і думкамі знаходзіцца побач з сынам.

Аўтар адчувае моцную сувязь з бацькам праз агульнасць іх звычак, любоў да адных і тых жа напояў: кавы і піва (да апошняга прызвычаіўся толькі ў Барселоне, што таксама спалучае ў адно вобразы бацькі і горада), цыгарэт і галаўных убораў. Таму кожная ўзгадка падобных рэчаў непазбежна стварае ланцуг асацыяцый, якія апелююць да вобраза бацькі. Нават выпадкова ўбачаны стары іспанец з сінімі (у тэксце падкрэсліваецца, што не блакітнымі) вачыма адразу прыводзіць на памяць такія ж вочы на твары роднага чалавека.

Звязвае два названыя ў загалоўку вобразы таксама і наяўнасць агульных дэталей у радках твора, прысвечаных чалавеку і гораду: іспанскія манеткі з дзірачкамі, якія герой-апавядальнік па турысцкай завядзёнцы заўсёды кідае ў ваду, каб абавязкова вярнуцца ў курортны гарадок, ён кіне і на труну нябожчыка-бацькі як апошні запознены падарунак з краіны, дзе той ніколі не быў. Такім чынам, твор ёсць гісторыя падарожжа касцюкоўскага жыхара ў Барселону, якое адбываецца толькі ва ўяўленні аўтара-апавядальніка.

Вобраз яшчэ аднаго роднага чалавека робіцца цэнтральным у творы "Дзед" (2008 г.), які мае падзагаловак *акварэльныя малюнкі* і з'яўляецца спробай узнавіць асобныя моманты мінулага, аб'яднаныя вобразамі дзеда і аўтара-апавядальніка. Адвочная непадлегласць падзей фармальна адсутнаму сюжэту дазваляе сканцэнтраваць увагу на вобразе чалавека, пададзенага буйным планам. Ён знаходзіцца ў цэнтры большасці кампазіцыйна-сэнсавых утварэнняў, з'яўляючыся прычынай, або галоўным утваральнікам, дзеяння. Часткі твора маюць падабенства ў структуры: кожная з іх з'яўляецца апісаннем пэўнага выпадку з мінулага апавядальніка і пачынаецца сэнсава важным паняццем, якое вылучаецца графічна. Нярэдка такія замалёўкі ўтрымліваюць паралелі з цяперашняга жыцця пісьменніка і маюць кароткую падагульняльную выснову.

Праз такія паняцці, як узрост, крыжы (узнагароды), памяць, старое люстэрка, смерць, у тэксце вымалёўваецца вобраз часу. Узрост пададзены У. Сцяпанам праз тоеснасць (паўтаральнасць) сітуацыі ў дзяцінстве і дарослым жыцці аўтара-апавядальніка, які выконвае ролі адпаведна ўзросту — дзіцёнка, якога палохае пергаментная скура на руках у дзеда, і сталага мужчыны, скура рукі якога здзіўляе малую дачку.


Малюнак Алесі Іскі

Як і іншыя паняцці, памяць не разглядаецца пісьменнікам падрабязна. Ён спыняецца толькі на адной яе якасці — здольнасці фіксаваць надзвычайныя (нязвыклыя) моманты, нязначныя адступленні ад паўсядзённай нормы, такія, як кавалачак прысохлай газеты на шчацэ ў дзеда, які звычайна галіўся вельмі асцярожна і не рэзаўся. Прыватна-сямейны ўспамін пра дзедавы ўзнагароды (тры Георгіеўскія крыжы), якія апошні так надзейна схаваў, што пазней сам не здолеў знайсці, адлюстроўвае не толькі характар дзеда, але і гістарычныя абставіны эпохі. Аўтар трактуе такія паводзіны як уласцівасць нацыянальнага менталітэту: *"Мне здаецца, што гэта вельмі па-беларуску — хаваць узнагароды"*.

Пісьменнік звяртаецца не толькі да адлюстравання тыпова беларускіх рыс характару, але і ўвасабляе ўласцівыя народу ўяўленні пра пэўныя рэчы побыту. Так, люстэрка, якое ў традыцыйнай культуры беларусаў з'яўляецца медыятарам паміж светам жывых і іншасветам і таму здольнае паказваць мінулае і будучае, ва ўспамінах пісьменніка набывае звышнатуральныя ўласцівасці: *"Праз пальцы гляджу ў люстэрка, як мой дзед ператвараецца ў майго бацьку"*. Такім чынам, названы прадмет выступае артэфактам, здольным пераўвасабляць аднаго чалавека ў іншага. Зазначым, што нічога містычнага ў гэтым "пераўтварэнні" няма, бо У. Сцяпан падрабязна апісвае абставіны, якія спрыяюць такому накладанню аднаго вобраза на другі: бацька апранае старое дзедава паліто і кепку, да таго ж аўтар бачыць яго спачатку са спіны і назірае ён за ўсім праз каламутнае шкло старога люстэрка.

Смерць, успрыманне якой заўсёды індывідуальнае, упершыню судачыняецца са свядомасцю пісьменніка ў дзяцінстве, калі ён бачыць нябожчыка. Дзедавы тлумачэнні, якія надаюць завяршэнню чалавечага жыцця статус неабходнай і будзённай з'явы — аднаго парадку з ростам, росквітам і высыханнем травы — супакойваюць спалоханага сустрэчай з невядомым хлопчыка. Такія адносіны дазваляюць старому загадзя рыхтаваць дошкі на ўласную труну. Узгадкі пра смерць яшчэ неаднойчы сустрэнуцца ў творы, імі расповед пра дзеда пачнецца, імі ж і скончыцца. Заяўленая ў пачатку твора падзея: *"Дзед вырашыў паміраць, бо моцна захварэў"* — не спраўджваецца, што служыць штуршком для разгортвання нізкі ўспамінаў-замалёвак, але апошняя частка верне чытача да гэтай тэмы і давядзе да непазбежнага крыжа ў фінале.

Твор нагадвае своеасаблівы каменціраваны прагляд сямейнага альбома з кароткімі надпісамі на адваротным баку фотакартак. Выбарачны выклад біяграфічных падрабязнасцей жыцця дзеда не перашкаджае стварэнню цэласнага вобраза галоўнага героя, уключанага ў пункцірна пададзены культурна-гістарычны кантэкст. Адмаўленне ад храналагічнай паслядоўнасці выкладу падзей, зварот да механізмаў асацыятыўнай сувязі і ўзбуйнены паказ пэўных сэнсава важных дэталей перамяшчае падзеі з плоскасці прыватна-сямейных гісторый у абагулена-філасофскі план аповеда пра жыццёвы лёс чалавека ўвогуле.

У творах "Бацька і Барселона" і "Дзед" сцвярджаецца непарыўнасць сувязі паміж пакаленнямі, якая паказваецца праз пераемнасць уменняў і ведаў і знаходжанне аўтарам агульных рыс і звычак, атрыманых у спадчыну ад папярэднікаў. Такое своеасаблівае паўтарэнне продкаў (з папраўкай на час і эпоху) і ўяўляе сабой няспыннасць чалавечага жыцця. Тэксты У. Сцяпана дэманструюць паважлівае стаўленне да продкаў, якое з'яўляецца неад'емнай часткай нацыянальнай беларускай культуры.

# Па выхадзе з дзяцінства ў свет

**Зусім нядаўна ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" пабачыла свет кніга Валерыя Гапеева "Урокі першага кахання". Яна складаецца з трох аповесцей: "Усё цудоўна, або Урок бяспечнага кахання", "Лёшкава каханне, або Віртуальнае дрэва рэальнасці" і "Першы боль, або Доказ закона прыгажосці".**

Ліна ЧАРНЯЎСКАЯ

Гэта гісторыі з жыцця сучасных падлеткаў, якія не проста знаёмыя паміж сабой — яны вучацца ў адным класе.

У кожнай аповесці свае галоўныя героі, але ўсе яны кожны дзень сустракаюцца ў школе. Такім чынам, гісторыі аб'яднаны аднымі дзеючымі асобамі, толькі ў адной аповесці яны галоўныя, а ў астатніх — другарадныя. Аповесці варта чытаць па парадку, бо падзеі ў іх адбываюцца па чарзе на працягу некалькіх месяцаў. І гэты час вельмі важны ў жыцці кожнага падлетка, бо супадае з часам сталення, унутранай перабудовы, змены характараў і светапогляду. Відаць, кожная аповесць мае двайную назву, бо праблемы сучасных падлеткаў не могуць вырашацца адназначна.

Калі чытаеш гэту кнігу — выразна разумееш паводзіны кожнага персанажа: і станоўчага, і адмоўнага. Аўтар проста тлумачыць усе супярэчнасці, не вінавацiць герояў за дрэнныя ўчынкі. Таму што кожны ўчынак, нават, на першы погляд, дрэнны, можна ўспрыняць з разуменнем. Трэба толькі паназіраць збоку, раскрыць думку аўтара, раскласці разам з ім па палічках усе прычыны канфліктаў.

Аўтар узняў вельмі вострыя, актуальныя сацыяльныя, маральныя, этычныя праблемы выхавання і сучаснай школы, якія большасць дарослых быццам не заўважае, "абы не забіваць галаву". Падлеткі задаюцца пытаннямі, на якія іх свежы розум, не абцяжараны агульнапрынятай ідэалогіяй "трэба рабіць толькі так, як трэба" не знаходзіць здавальняючага адказу.

Тут таксама знойдзеце традыцыйнае ўзаемнае непаразуменне багатых і бедных, выдатнікаў і двоечнікаў, а яшчэ перабольшаную шчырасць і асцярожную хлусню. Аўтар апісвае гэта вельмі проста і натуральна, а галоўнае — у знаёмых і блізкіх абставінах.

Тыя, хто ўжо дачакаўся сваіх шасанаццаці гадоў, сустрэнуць на старонках надзвычай знаёмыя пытанні і блізкія праблемы. Усё на самой справе так і адбываецца ў юнацтве. Ужо забыліся? Тады спытайце сваіх дзяцей ці пляменнікаў. І абавязкова дайце ім пачытаць кнігу "Урокі першага кахання".

**Віталь БЫЛЬ,**
**студэнт гістарычнага факультэта БДУ**

* * *

*Нас аб'яднала*
*Ні многа, ні мала —*
*Адна электрычка.*
*Ні прывітання,*
*Ні развітання —*
*Як бліскавічка.*
*Там, дзе шматкроп'е*
*Ашчэрыла коп'і,*
*Мае быць клічнік.*
*Моўчкі праз шыбы*
*Глядзім, а маглі мы*
*Збегчы ў кастрычнік.*
*Нас аб'яднала*
*Ні многа, ні мала —*
*Здань падарожжа.*
*Выбачце, панна,*
*Фата-маргана —*
*Надта прыгожа.*

* * *

*Нехта пісаў лісты*
*Памадай на шыбах трамваяў.*
*А я і не ведаў, што гэта ты*
*Чакаеш прыходу мая.*

*Нехта не мог дазваніцца —*
*Звінелі фантанаў падвескі…*
*А я і не знаў, што сініцы —*
*Гэта твае эсэмэскі.*

*Нехта скідаў на мыла,*
*Стукаў у аську дзюбкай.*
*Я і не бачыў, як гэта міла,*
*Так і не ўзяўшы трубку.*

*Я не хацеў разумець*
*Нават слязінак граду…*
*Так, я кімвал, і медзь,*
*І хараство лістападу.*

* * *

*Лета. Купалле. Ведзьмы і ноч.*
*Лес у шматках туману…*
*Хочаш — блюзнер, а хочаш — прароч,*
*Ганна.*

*Горад. Зіма. Хваравіты трамвай.*
*Дзень калываецца п'яна.*
*Хочаш — памры, а лепей — трывай,*
*Ганна.*

*Месяц. Гарбата. Гітара ўначы.*
*Позна, а можа, рана?*
*Хочаш — спявай, а мо памаўчым,*
*Ганна…*

***Стары вартавы***

*Мы ішлі ля ракі*
*Па чужых берагах,*
*Нам спявалі шпакі*
*Пра разбураны гмах,*
*Што калісьці стаяў*
*У цясніне між гор,*
*Што не ведаў забаў,*
*Не імкнуўся да зор.*

*Шэрым камнем закрыў*
*Ён шляхі для дарог,*
*І скалу і абрыў*
*Ён зацята сцярог.*
*Ліў варожую кроў*
*На свае камяні…*
*Аб даспехі муроў*
*Разбіваліся дні.*

*Толькі верны ваяр,*
*Той стары вартавы*
*Пад усмешкамі хмар*
*Здаўся войску травы.*
*Абамшэлі муры,*
*Вал засеяў палын,*
*І сабака стары*
*Ціха дрэмле адзін.*

* * *

*Так, я студэнт,*
*худы і патлаты.*
*Я хачу пісаць вершы,*
*а пішу рэфераты.*
*Я хачу тварыць цуды,*
*а ствараю канспекты.*
*Нараджаюцца мары,*
*а старэюць праекты.*
*Мару пра брыганціны,*
*а мне сунуць трамваі,*
*А замест райскіх птушак —*
*пашлякі-папугаі.*
*Так, я студэнт, і мне шмат чаго трэба!*
*Бо дурны, як дзіцё, хоць і вырас да неба…*




**У 2010 годзе творчая лабараторыя "Крытык", якая дзейнічае пры кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, абвясціла пачатак Адкрытага конкурсу літаратурнай творчасці студэнтаў "Брамамар". Удзельнічаць запрашалі не толькі студэнтаў БДУ, але і навучэнцаў іншых ВНУ краіны — так ініцыятары конкурсу спадзяваліся выявіць і падтрымаць самую таленавітую моладзь. Прапануем чытачам творы пяці фіналістаў у намінацыі "Паэзія".**

**Наста ЗАХАРЭВІЧ,**
**студэнтка факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ**

* * *

*Зранку*
*Перад сняданкам*
*Молішся Богу,*
*Знямоглы;*
*Днём*
*Перад сном*
*Чытаеш малітвы*
*Па літарах;*
*Увечары,*
*Пакалечаны,*
*Напоены кроўю*
*Молішся за здароўе,*
*Мой*
*Самаахвярны воін.*

* * *

*Некалі нехта аднойчы,*
*Можа, а можа, і не*
*Ускочыць сярод ночы з ложка*
*І загаворыць у сне.*
*Няхай гэта будзе лухтою,*
*Няхай не прызнае свет,*
*Ён гутарыць сам з сабою,*
*Сабе ён дае запавет.*
*І нехта, магчыма, асудзіць*
*За гучныя словы яго,*
*Але ён пакляўся не флудзіць.*
*Ніколі. Нідзе. Ні за што.*

* * *

*Там коні лямалі па крузе*
*Ў сваіх эратычных снах,*
*Там коні стагналі, як людзі,*
*З пылкасцю ў вачах.*
*Там коні не ведалі здрады,*
*Не ўмелі прыхоўваць боль.*
*Там коні былі б і рады,*
*Каб хто іх павёў за сабой.*
*Там жа у коней ёсць стойла,*
*Ёсць сена, а ўлетку — палі,*
*І мары, ў якіх коням добра,*
*Дзе коні зусім не адны.*

* * *

*Стомлены дужа*
*кіроўца начнога трамвая*
*Песціць вачыма ў рэйках бліскучых.*
*Хлопча бялявы са школкі*
*вяртаецца з мамай,*
*Дзесьці ў двары*
*котка мяўчыць патроху,*
*А праз акно я гляджу,*
*як крочыць паволі*
*З торбай вялікай*
*даўно ўжо сівая жанчына.*
*Шэптам кажу: "Божа, дай жа ёй долі",*
*А пра сябе дадаю: "А мне — сына".*

**Насця ЛЕВЫЧЭНКАВА,**
**студэнтка Інстытута бізнесу і менеджменту тэхналогій БДУ**

* * *

*Прыходзяць раніцы за ноччу,*
*Дадому ўсе з надзеяй крочым,*
*Жыццё расплюшчыць раптам вочы,*
*Шчаслівыя, як першы ўскрык.*
*Цяжар гадоў згінае спіны,*
*І, што ў гадзінніку спружыны,*
*Паток ідэй ідзе імклівы —*
*Стаяць на месцы не прывык.*

*Віток пачаўся новы ў модзе;*
*Святкуе дзесяць у народзе*
*Пачатак новага стагоддзя,*
*Маленькі хоць, а ўсё-ткі наш.*
*І дзесьці на маёй прасторы*
*Паспелі нарадзіцца зоры,*
*А можа, у маім фальклоры*
*З'явіўся новы персанаж.*

**Таццяна САРОКА,**
**студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ**

***Раздваенне***

*Я. І не Я. Дзве розныя асобы.*
*Як чалавек, што ў поўню будзе воўк,*
*"Асобы раздваенне" — мне хваробу*
*Паставілі сяброўкі незнарок.*
*Я. І не Я. Здаецца, усё проста:*
*Імя сваё пішу наадварот.*
*Сарока Таня з Янаю Такорас*
*Ў адзіным целе, як агонь і лёд.*
*Я. І не Я. Усіх пужаюць вочы.*
*Мяцежная душа. Спакойны твар.*
*Баяцца часам, што магу сурочыць,*
*Што маю у сабе магічны дар.*
*Я. І не я. Як быццам твар дзявочы*
*Ператвараецца ў ваўка на здзек…*
*Хай бачаць, што з ваўкамі я — па-воўчы,*
*А з чалавекам я — як чалавек…*

* * *

*Нязменныя. Каменныя часы.*
*Няхай, цяпер другое узбраенне.*
*З каменя будавалі гарады,*
*І ім не пагражае разбурэнне.*

*Нязменныя. Каменныя часы.*
*Хоць разбураюцца вякоў скляпенні.*
*Каменні — гэта сведкі даўніны…*
*І сэрцы — у сучасных пакаленняў…*

* * *

*Хто малюе лёсы на далонях?*
*І каго мне вінаваціць у тым,*
*Што тваё імя пульсуе ў скронях*
*І што сэрца захварэла ім?*
*Хто адмервае жыццёвыя дарогі,*
*І чаму яны крыжуюцца не раз…*
*Разыходзяцца ўбакі, і зноўку*
*Пераплецены адна з адной праз час.*
*Хто кіруе думкамі і целам,*
*На руках адкуль таемны знак?*
*Можа, глупства? Але я не веру!*
*У жыцці не будзе проста так…*

* * *

*Прачытай мае вершы — зразумей мяне.*
*Я ўслых не скажу, што ў сэрцы трымаю,*
*І ўсе мае творы — гэта пісьмы табе.*
*Я пісала іх безліч*
*І не пасылаю.*
*Прачытай мае вершы — адкрый мяне,*
*Я заўсёды пачуцці ў сэрцы хаваю.*
*Ты адзіны аднойчы паверыў мне.*
*І адзіны,*
*Каму давяраю.*
*Прачытай мае вершы — маю душу.*
*Мо спасцігнеш якія сакрэты.*
*Ты адзіны, каму я пішу.*
*Праз каго*
*Станаўлюся паэтам…*

**Павел ШАЛАМІЦКІ,**
**студэнт фізічнага факультэта БДУ**

***Калі цёмная ночка***

*Калі цёмная ночка*
*у свеце панавала,*
*калі Зямля маладкаю была,*
*калі блакітная зялёнаю*
*плыла*
*скрозь цемру у прасторы,*
*з ветрам у кішэні,*
*тады аднаасобна Месяц*
*халодным малаком з пяском*
*рашчыняў*
*Сонейка святло.*
*Гэныя кактэйлі*
*пілі й разумнелі*
*мудры Чарапах, Павук і*
*розныя кузуркі.*
*Малпы ж уначы*
*хавалі ў пячоры*
*пысы й душы*
*свае.*
*……………………………………*
*Так і жывём.*

***Не на рукі ўзяці***

*Не на рукі ўзяці*
*і так дзеўчыну несці —*
*але на плечы пакласці,*
*цягліцы напружыць — і*
*бульбы мехам*
*Перуну ах-*
*вяраваці.*
*Бо тая ахвяра*
*ёй будзе ратункам,*
*каб не забіў ты*
*каханнем сваім*
*ці захапленнем.*
*Лепей ты будзеш*
*мусіць аддаці*
*яе*
*да перуновых маланак,*
*у бліскавіцы, грымніцы!*
*Усё адно —*
*мілей*
*бясконцае малое, але зыркае*
*імгненне*
*за бездакорнае пустое*
*мільгаценне.*

# Як заняць пачэсны пасад між народамі

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,
фота Кастуся Дробава

**У рамках XVIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу прайшоў міжнародны "круглы стол" на тэму "Беларуская кніга як сродак культурных зносін", арганізаваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. У ім удзельнічалі пісьменнікі, навукоўцы, выдаўцы, бібліятэкары, студэнты, а таксама госці з бліжняга і далёкага замежжа — паэты, празаікі, перакладчыкі, крытыкі, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Сербія ў Беларусі доктар Срэчка Джукіч.**

Адкрываючы сустрэчу, дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва", галоўны рэдактар "ЛіМа" Алесь Карлюкевіч адзначыў, што такія сувязі — неабходная форма кантактаў паміж літаратурамі розных народаў, іх стваральнікамі і чытачамі, а кнігадрукаванне з'яўляецца магутным каталізатарам азнаямлення з творчасцю замежных пісьменнікаў.

**Чынгіз АЛІЕЎ,** паэт, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Азербайджан:

— Паэзія і проза славянскіх народаў становіцца ўсё больш папулярнай у нашай краіне. Два часопісы памераў вашых "Полымя" і "Маладосці" сістэматычна публікуюць найбольш значныя творы сусветнай літаратуры, у тым ліку і беларускіх аўтараў. Пад маёй рэдакцыяй выдадзены двухтомнік, у якім надрукаваны шэдэўры VII — XXI стагоддзяў. Значнае месца ў іх адведзена нашым сябрам беларусам.

У Азербайджане добра ведаюць творчасць вашых класікаў — Броўкі, Куляшова, Танка, Шамякіна, Быкава, Барадуліна і іншых. На жаль, у апошні час назіраецца нездаровая тэндэнцыя — цяжка знайсці сапраўдных перакладчыкаў сур'ёзнай літаратуры. У асноўным перакладаюцца малыя формы — вершы, эсэ, апавяданні. Мы зацікаўлены друкаваць творы маладых, таленавітых беларускіх пісьменнікаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ:**

— Наш шаноўны Чынгіз даволі сціплы. Неабходна дадаць, што асабіста ён уносіць вялікі ўклад ва ўзаемадзеянне беларускай і азербайджанскай літаратур. Мы таксама не застаемся ў даўгу. "Полымя", "Нёман" толькі летась апублікавалі ў перакладзе на беларускую і рускую мовы творы Расула Рзы, іншых слынных празаікаў і паэтаў. А сёлета наша выдавецтва ў серыі "Библиотека всемирной литературы" плануе выдаць выбраныя творы класіка азербайджанскай літаратуры Гусейна Джавіда.

**Аляксандр КАЗІНЦАЎ,** намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Наш современник" (Масква):

— Мне прыемна, што наша выданне ў Беларусі лічаць сваім. Хачу падкрэсліць, што часопіс ніколі не быў пад ногцем Сораса ці нейкага іншага таўстасума. Мы ніколі не служылі і не служым палітычным рэжымам. Мы служым Яе Вялікасці Праўдзе. І тым не менш не губляем чытачоў, падпісчыкаў. Сёлета тыраж складае 11 тысяч экзэмпляраў. Так, гэта мала. Інтэлігенцыя апошнім часам дэмаралізавана. Людзі не хочуць думаць, ім балюча думаць. А "тоўстыя" літаратурныя часопісы — чытанне для людзей, якія здольныя мысліць, спачуваць. Рэдакцыя ўслухоўваецца ў дыханне чытача, імкнецца сваімі публікацыямі надаць гэтаму дыханню чысціню, жыццесцвярджальнасць. У тым ліку і публікуючы цікавыя творы беларускіх пісьменнікаў.



**Алесь БАДАК,** галоўны рэдактар часопіса "Нёман":

— Варта падкрэсліць, што "Наш современник" і "Нёман" звязваюць цесныя шматгадовыя творчыя сувязі. Выдаюцца сумесныя нумары, у якіх адлюстроўваецца жыццё братніх рэспублік. "Наш современник" апублікаваў раман Алеся Савіцкага "Лясная прыстань", аповесць Сяргея Трахімёнка "Пятля Морбут", раздзелы з рамана Уладзіміра Навумовіча "Волюціманс", вершы Міколы Мятліцкага, Раісы Баравіковай, Андрэя Скарынкіна, іншых аўтараў. Увогуле, за сем апошніх гадоў "Наш современник" надрукаваў беларускіх пісьменнікаў больш, чым за ўсе гады савецкай улады. У сваю чаргу, нашы "тоўстыя" часопісы сістэматычна друкуюць паэзію і прозу расійскіх калег. У нас, напрыклад, заведзены рубрыкі "Всемирная литература" в "Нёмане" і "Сябрына": літаратура краін СНД".

**Іван ЧАРОТА,** загадчык кафедры славянскіх культур Белдзяржуніверсітэта, доктар філалагічных навук, прафесар:

— Лічу, што холдынг "Літаратура і Мастацтва" ажыццяўляе вялікую справу: у няпростых фінансавых магчымасцях выдае кнігі пісьменнікаў іншых краін, публікуе іх творы ў сваіх часопісах. А гэта найбольш дзейсны сродак узаемадзеяння літаратур і народаў.

Тэма, якую мы сёння абмяркоўваем, — надзвычай важная. На жаль, месца беларускай літаратуры ў свеце незайздроснае. А мы павінны, згодна купалаўскаму запавету, "заняць пачэсны пасад між народамі". Іншымі словамі, абавязаны ўсведамляць, што мы заслужылі, што заслугоўваем і што хочам заслужыць. Часам жа пасад (становішча) мы толькі дэклалруем, малюем яго ў вясёлкавых танах.

> *Як вядома, знаёміцца з сусветнай літаратурай у асноўным даводзіцца праз мастацкія пераклады. На жаль, з развалам Саюза рухнула і перакладчыцкая школа. Яе неабходна ўзнавіць, заахвоціць. Кнігі замежных аўтараў, выдадзеныя ў нас, і кнігі беларускіх пісьменнікаў, выдадзеныя за мяжой, павінны стаць з'явай культуры. Народ варта вярнуць да чытання. Для гэтага не трэба ствараць нейкіх грамадскіх ці дзяржаўных інстытутаў. Усё — у нашых руках. Давайце часцей сустракацца, абмяркоўваць надзённыя праблемы, уносіць і рэалізоўваць канкрэтныя прапановы.*

Праблема пошуку ўзаемаразумення і сам працэс збліжэння народаў суправаджаюць шматлікія супярэчнасці і перашкоды. Пераадолець іх нейкім чынам змогуць нашы літаратурныя стасункі. Глядзіце, за апошнія паўтара года выдавецтва "ЛіМ" выпусціла дзве кнігі сербскіх пісьменнікаў. Крыху раней і "Мастацкая літаратура" — адну кніжку. А калі прыплюсаваць царкоўныя выдавецтвы, то вынік такі: за паўтара года ў Беларусі надрукавана 15 кніг сербскіх аўтараў. У той жа час, кнігі нашых пісьменнікаў у Сербіі — рэдкасць. У 1993 годзе выдадзена анталогія беларускай паэзіі, у 2001-м — анталогія твораў усходнеславянскіх пісьменнікаў. І ўсё! Спадзяюся, што прысутнасць на нашай сустрэчы дырэктара найбуйнейшага ў Сербіі выдавецтва "Службени гласник" Слабадана Гаўрылавіч стане стымулятыўным момантам, які палепшыць рэалізацыю выдавецкіх праектаў і, безумоўна, паспрыяе ўзаемапазнанню братніх літаратур.

**Слабадан ГАЎРЫЛАВІЧ,** пісьменнік, гісторык, генеральны дырэктар і галоўны рэдактар выдавецтва "Службени гласник" (Сербія):

— Я ўпершыню ў Беларусі і захапляюся прыгажосцю Мінска, людзей, з якімі давялося сустрэцца. Культурны ўзровень любой нацыі вызначае і яе імкненне пазнаёміць насельніцтва краіны са скарбамі сусветнай культуры, стварэнне ўмоў для адукацыі, духоўнасці. У вашай краіне для гэтага нямала зроблена. Думаю, што мы зможам актывізаваць літаратурныя сувязі, заключыць узаемавыгадныя кантракты з беларускімі выдавецтвамі, пісьменнікамі і перакладчыкамі.

**Міхась БАШЛАКОЎ,** паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь:

— Як вядома, знаёміцца з сусветнай літаратурай у асноўным даводзіцца праз мастацкія пераклады. На жаль, з развалам Саюза рухнула і перакладчыцкая школа. Яе неабходна ўзнавіць, заахвоціць. Кнігі замежных аўтараў, выдадзеныя ў нас, і кнігі беларускіх пісьменнікаў, выдадзеныя за мяжой, павінны стаць з'явай культуры. Народ варта вярнуць да чытання. Для гэтага, на маю думку, не трэба ствараць нейкіх грамадскіх ці дзяржаўных інстытутаў. Усё — у нашых руках. Давайце часцей сустракацца, абмяркоўваць надзённыя праблемы, уносіць і рэалізоўваць канкрэтныя прапановы.

**Ато ХАМДАМ,** пісьменнік, галоўны рэдактар выдавецтва "ЭРграф", сустаршыня Форума перакладчыкаў і кнігавыдаўцоў краін СНД і Балтыі (Таджыкістан):

— У лістападзе далёкага ўжо 1965 года Дэкада беларускай літаратуры ў Таджыкістане адкрыла новую старонку ў творчых узаемаадносінах пісьменнікаў нашых краін. Таджыкскі чытач атрымаў магчымасць праз пераклады азнаёміцца з прозай і паэзіяй Купалы, Глебкі, Танка, Куляшова, Броўкі, Еўдакіі Лось, многіх іншых творцаў. У той жа час у Беларусі выдаваліся кнігі нашых знакамітых Садрыдзіна Айні, Абулькасіма Лахуці, Мірзо Турсун-задэ, Мірсаіда Міршакара, Джалола Ікрамі, Саціма Улуг-задэ.

Супрацоўніцтва працягваецца. У трох апошніх кніжных выстаўках, якія праводзяцца ў Мінску, удзельнічалі таджыкскія літаратары, выдаўцы і перакладчыкі. Дзякуючы падтрымцы кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі, выдавецтву "ЛіМ" за кароткі тэрмін наладжана выданне перакладаў твораў таджыкскіх аўтараў у Беларусі.

Напярэдадні сённяшняй выстаўкі-кірмашу ўбачыла свет кніга "Дружба народаў — дружба літаратур". Думаецца, што выданне стане добрым памочнікам і дарадчыкам для даследчыкаў, знаўцаў літаратуры.

**Алесь БАДАК:**

— Хачу дадаць, што нашы часопісы не шкадуюць сваіх старонак замежным пісьменнікам. Скажам, летась "Полымя" надрукавала творы Хабіба Юсуфі з Таджыкістана, Зульфіі (Узбекістан), Андрэя Малышкі (Украіна)… У "Нёмане" публікаваліся Дзмітрый Паўлычка (Украіна), Дзімчо Дзебелянаў (Балгарыя), Марк Дзюген (Францыя), Добрыца Чосіч (Сербія), Брэглі Холідэй (Англія). Спіс гэты можна доўжыць.

**Георгій МАРЧУК,** сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі:

— Безумоўна, мы, пісьменнікі, жывём небагата, але я на нашай сустрэчы не пачуў слоў "рубель", "долар", "еўра". А гэта значыць, мы багаты нечым больш важным, што не вымяраецца толькі грашыма. Знаёміць свой народ з літаратурай іншых народаў — вялікая справа. І шчаслівы той народ, у якога напісаны яшчэ не ўсе старонкі яго гісторыі.

***На здымку: удзельнікі "круглага стала".***

# Два апавяданні

Дэбют



Кацярына Фядотава

*Кацярына Фядотава нарадзілася ў 1984 годзе ў вёсцы Сапегі Сенненскага раёна. Скончыла Наваполацкае музычнае вучылішча па класе "Дырыжыраванне" (народны хор). Была настаўніцай фальклорных спеваў у СШ № 5 г. Наваполацка. Цяпер працуе ў Палацы культуры ААТ "Нафтан" загадчыкам аддзела па арганізацыі мастацкай творчасці. З прозай у "ЛіМе" выступае ўпершыню.*

## Танька

Мароз трымаўся нядоўга. Не паспела задубелая ў снежні зямля прадавадзецца снегу, які ўсяго за гадзіну пакрыў усё наваколле, як хапілася адліга. І пацяклі ручаіны, расхлюпаны снег разлятаўся ў бакі пад коламі машын. А на абочынах зрабіўся наздраватым і цёмным. Ураз пацямнелі і набрынялі вільгаццю дрэвы і будынкі. І хоць быў толькі пачатак студзеня, але ў паветры запахла вясной.

Хлюпаючы па бездарожжы, у дзіравых гумовых ботах, ішла цераз поле Танька. Дзе-нідзе праваливалася ў снег па калені, выбіралася на раўнейшае і зноў упарта кудысьці цягнулася. Вёска была зусім блізка, але подступы да яе перагарадзіла вялікая лужына. Пад вадою быў лёд, і Танька стала перад ёю, задумалася. Думкі ў вялікай лахматай галаве варочаліся марудна, вялікія блакітныя вочы ўважліва шукалі ратунку. Але шлях заставаўся толькі адзін — прама цераз лужыну. Першыя крокі былі даволі ўдалымі, і Танька пайшла смялей, але левы бот праваліўся пад лёд і ўсёй халяўкаю чарпануў вады. Знянацку тузануўшыся, Танька паслізнулася і пляснулася на спіну. Ад моцнага штуршка далёка адляцела шэрая вязаная шапка і вялікія, сшытыя з паліто, рукавіцы. Танька хутка ўскочыла і закруцілася на адным месцы, страсаючы рукамі ваду. Пры гэтым яна гарланным голасам сварылася на ўсё поле.

З самага дзяцінства яна была іншая, адрознівалася ад сваіх аднагодак. На моцна збітым целе сядзела вялікая галава з рыжымі віхрамі, непаслухмянымі, ніколі не часанымі валасамі, з кірпатым носам і пульхнымі вуснамі. І можна было б палічыць яе за звычайнае дзіця, каб не позірк светла-блакітных вачэй. Ён быў няўцямны, быццам у трохмесячнага немаўляці.

Як гэта звычайна бывае, дзеці адразу пачулі ў ёй чужую, цкавалі яе і насміхаліся. А яна не адказвала,таму блазнюкі хутка страцілі да яе цікавасць. Але не толькі дзеці, нават суседскія сабакі, калі ішла яна міма, рваліся з ланцуга і заходзіліся ад брэху.

Вучыцца Танька ездзіла аж у раён, у спецыяльны клас. Ледзь закончыла дзевяць класаў.

К шаснаццаці гадам Танька вырасла. Была яна нізкага росту, шырокая ў плячах і фігурай нагадвала мужчыну. Летам, разам з бацькам, пасвіла калгасны статак і займалася гаспадаркай, а зімою дапамагала маці ў магазіне.

Той самы вецер, што прынёс адлігу і першыя вясновыя пахі, знайшоў і Таньку. Яна скідвала з вышак сена, а як выйшла з хлява, уторкнула вілы ў снег. Шырокія ноздры не ледзь улоўна дрыжалі. Сама не разумеючы, што адбываецца, Танька стаяла пасярод двара, крышку падняўшы галаву, і ўдыхала ў сябе новыя, нязнаныя пахі, што даляцелі разам з ветрам. Унутры расло і паднімалася да грудзей новае і нязнанае раней пачуццё. Яна спачатку слухала яго ў сабе, як яно запаўняе ўсе клетачкі яе цела, як становіцца млосна ў грудзях і хочацца бегчы, бегчы, ляцець на злом галавы.

А вецер не супакойваўся, ён гнаў яе далей, штурхаў да нечага новага. І, не разбіраючы дарогі, Танька пайшла куды глядзелі вочы. Паўз невялікую сажалку, зарослую нізкім хмызняком, выбілася на ўкатаную, яшчэ не размяклую каляіну і пайшла па ёй. Дарога прывяла на ферму. Пах гною, саломы і сіласу зліваўся ў адзін і быў такі знаёмы, што зноў выбіў слязу з Таньчыных вачэй. Павольна сунулася па праходзе, а каровы стаялі і ляжалі, мерна жавалі жуйку і сумна праводзілі поглядам сваю пастушку. Нібы пыталіся: "Калі ж ты зноў павядзеш нас за сабой? Ці не ад доўгай зімы ты такая журботная?"

У куточку на саломе Танька плакала да той пары, пакуль не пачула звонкія галасы даярак, што пачыналі вячэрнюю дойку. На Таньку ніхто не звяртаў увагі, яна так і засталася ў кутку і хутка задрамала.

Прачнулася ад таго, што ўлавіла каля сябе яшчэ некага. Мяккая шапацела салома пад нечымі рухамі, а праз хвіліну Танька адчула дотык шурпатай далоні, якая ціха слізганула па ватоўцы і застыла. Далонь чакала, што будзе рабіць Танька. А тая толькі напружана ўглядалася ў цемру, стараючыся разгадаць, хто ж гэта? А далонь між тым зноў працягнула свой шлях і стала ўжо больш нецярплівай, хутка — гарачай. Ад яе хуткасці нават вылецеў гузік, што і так ледзь ліпеў на тонкай ніткі. Разам з тым Танька адчула небяспеку і пачала вылузвацца, адпіхваць таго, хто так нахабна ўваліўся сюды, і нават паспрабавала закрычаць. Але тут жа тая самая далонь зрабілася жорсткай і моцнай, сціснула Таньцы шыю так, што нешта нават хруснула.

— Змоўкні! — сыкнуў, быццам вужака, незнаёмец. Ад яго моцна пахла гарэлкай і тытунём. І Танька адчула, што лепш паслухацца. Без барацьбы дала сцягнуць з сябе старую ватоўку і балоневыя цёплыя штаны. Недзе ў сабе адчула нават цікавасць: што ж будзе далей? У нейкую хвіліну святло, што падала са шчыліны ў акне, затрымалася на ім, і Танька ўбачыла твар свайго мучыцеля. Убачыла і пазнала: гэта быў Пецька, ён працаваў тут жа, на ферме. Танька замармытала нешта бязладнае, але тут жа, успомніўшы далонь на сваёй шыі, змоўкла. Стала мяккай і пакорлівай. Нейкі незразумелы агонь ахапіў яе. Усё цела пачало трапятаць ад дотыкаў чужых рук і адказваць на іх. І не было ні страху, ні агіды, толькі моцны пераменлівы вясновы вецер у галаве.

Дома не спала маці. Яна ўсё глядзела ў акно і чакала Таньку. А калі тая, нарэшце, з'явілася, распатланая, усхваляваная, зразумела, што нешта здарылася. Але дапытвацца не стала.

З таго часу Таньку як падмянілі. На рыжай галаве з'явілася нешта накшталт прычоскі — дзве старыя заколкі трымалі непаслухмяныя пасмы валасоў. На пазногцях з'явіўся лак. Калі-нікалі яна нават фарбавала вейкі. І кожны вечар хадзіла на ферму. Але Пецькі не было. Танька прыходзіла ў кароўнік і, да ночы прачакаўшы, так і вярталася дадому ні з чым. Аднойчы ўбачыла Пецьку днём на вуліцы і так узрадавалася, што кінулася да яго на злом галавы, але ён не тое што не ўсміхнуўся ёй, а проста кінуўся наўцёкі, азіраючыся і адмахваючыся, быццам ад здані. А праз тыдзень Танька, лежачы на саломе ў тым жа закутку, пачула мяккае шапаценне і зноў адчула тое самае пачуццё страху і разам з тым асалоды. Цяпер іх сустрэчы сталі часцейшымі, яны нават пачалі размаўляць адно з адным. Вось толькі Пецька строга папярэдзіў не падыходзіць да яго ўдзень.

Яна ў апошні час увогуле стала іншая, часта плакала, хадзіла задуменная і несла сябе неяк інакш — акуратней і цішэй, быццам баючыся штосьці растрэсці. Танька чакала дзіця. Яна зразумела гэта тым жа звярыным нюхам, які моцна развіты ў людзей "дзікаватых", "іншых". Зразумела і прыняла, як жывёла сёмым пачуццём, — ні табе радасці, ні смутку, нічога.

Маці хутка здагадалася, што да чаго. Спачатку напужалася, а потым, падумаўшы, адвезла Таньку ў бальніцу.

Доктарка доўга разглядвала яе ў вялікія шкельцы акуляраў і ўсё хмыкала. Далей Танька цьмяна памятала, што здарылася, толькі чула, як пад дзвярамі галасіла матка. Памятала, што ёй было страшна і яна ўкусіла тую самую доктарку. Ад усяго гэтага ёй было пагана. Санітаркі трымалі ёй рукі, а яна рвалася і крычала, што хоча дамоў. А пасля — толькі цемра і дзікі боль, што разрываў нутро.

Потым былі яшчэ працэдуры, але на іх Танька ўжо не звяртала ўвагі. Ляжала, атупелая ад болю і сораму. Калі яе забіралі, Танька пачула, як ціха шапнула маці доктарка нешта накшталт: "Цяпер не будзе ў вас з гэтым ніякіх праблем", а тая нешта сунула доктарцы ў кулак. І яшчэ адно незразумелае слова "стэрылізацыя". Таньцы ўспомнілася ў той момант, як матка стэрылізуе слоікі…

Але рашылі адну праблему, запусцілі іншую. Больш не адчуваючы ў сабе таго дзіўнага пачуцця, Танька пачала шукаць яго ўсюды. І на саломе, і на полі, і дзе толькі магчыма, але ветру больш не было.

Яна ўжо не саромелася, яна ўжо кожнага, хто сустракаўся ёй на шляху, прасіла даць ёй тое, страчанае… Ніхто не мог.

А яна не магла зразумець, чаму не жыве ў ёй тое дзіўнае пачуццё і вясновы вольны вецер. Вырвалі яго з коранем. Вырвалі і кінулі пустазеллем на дарозе… Выкінулі, а як жыць без яго, не навучылі…

Прайшоў час. Танька смяецца. Але раз у год абавязкова, нічога не адчуваючы, быццам аддае даніну, спяшаецца ісці туды, куды глядзяць вочы, каб зноў адчуць вясновы вецер. А яго няма ні вясною, ні зімою, ні летам, ні восенню.

## Самота

Гэтая вёска нічым не адрознівалася ад тысяч такіх жа іншых. Маленькая, двароў на дваццаць-дваццаць пяць, яна ляжала ў нізіне, паміж двума пагоркамі… Падковай агінаў яе лес, але блізка не падступаўся. Цяпер, у маі, вёска ўся была ў кіпені садоў, з якой дзе-нідзе тырчалі чорныя дахі. Буялі бела-ружовым цветам яблыні, пяшчотнымі пырскамі квецені кідаліся грушы, разам з подыхам ветру прыносіла рэзкі водар чаромха.

Вольга памерла акурат у маі. Было цёпла. Ва-ўсю цвілі сады, і любая страта здавалася такой недарэчнай і бязглуздай… Раніцай стары Восіп устаў, а жонка ўсё не падымалася. І гэта дзіўная цішыня ў хаце напружыла яго і ўсхвалявала. Адчуваючы нядобрае, Восіп пашоргаў да ложка, крануў Вольгу за плячо і тут жа адхапіў руку, быццам апякло полымем. Вольга была ўжо халодная. Восіп, усё яшчэ не верачы, сеў побач і ціха вымавіў:

— Вось і ўсё, баба, вось і ўсё… Што ж ты нарабіла? Як жа я без цябе цяпер буду? А гарод жа мы з табой не ўпарадкулі. Кароўка засталася, парасяткі… А ты вось, кінула-рынула… Эх, баба, баба… — дзед гаварыў і гаварыў. Па старэчай шчацэ каціліся слёзы, такія ж выцвілыя, як і вочы. Каціліся і каціліся…

Раніца толькі занялася. Яшчэ не зырчэла ўсімі колерамі росная трава, а сонца толькі-толькі пачынала праменіцца. На грушыне ваўсю шчыравалі шпакі. Восіп выйшаў на вуліцу, сеў на лаву. Асыпаўся з грушыны белы цвет і высцілаў зямлю пялёсткавым снегам. Моцны пах ад буйных кветак, што звісалі ледзь не да лаўкі, кружыў галаву.

Восіп сядзеў, няўцямна пазіраючы на сашчэпленыя рукі, і не ведаў, што рабіць далей. Галава была пустая.

Жыццё праляцела, прамільгнула, быццам пясчынка, ён і заўважыць не паспеў, як выраслі дзеці, разляцеліся па розных кутках, не так часта сталі прыязджаць да бацькоў. А яны вось жылі ўдваіх. Можа, і не так весела, але ж якая весялосць у старасці. Вечарам перамовяцца словам, а не, дык і то добра ведаць, што побач ёсць жывая душа. А цяпер застаўся дзед адзін, сам-насам з гаспадаркай, з пустой хатай, з гэтай напружанай, да звону ў вушах, цішынёю… І што з ёю рабіць — невядома. Жылі разам — бывала ўсякае: калі пасварацца, ледзь не сходзяцца залаб, а часцей жылі мірна… Помніцца, Вольга яшчэ маладая, да замужжа, у белай сукенцы і ў хустачцы, на жніўным полі. Стаіць з біклажкаю вады і ўсміхаецца… А потым ужо іншая, пасталелая, жне пшаніцу за хатай. Ён гукае яе, пытаецца нешта, а яна павольна разгінаецца, папраўляе хустачку, і яму кідаецца ў вочы кропелькі поту ў Вольгі над вуснамі… Нетаропкая, спакойная, заўсёды разважлівая. Ні з кім не сварылася, жыла мірна, у згодзе з суседзямі і адышла на той свет таксама спакойна.

Тым часам яснела раніца, рыпеў калодзежны журавель. Па вуліцы цягнуліся каровы, працяжна рыкаючы, ішлі адна за адной, цугам. Гаспадыні пакрыквалі на іх, выпраўляючы статак у поле. Кароў было нямнога, яны хутка прайшлі, узняўшы клубы пылу, а Восіп усё сядзеў, і хто ведае, дакуль бы ён прасядзеў, калі б не заўважыла яго суседка.

— Восіп, ці ты памёр там, ці ўрос у гэту лаву? — яна падышла і, абапёршыся на плот, нават не чакаючы адказу, працягвала: — Я ж выйшла гадзін, можа, у пяць, гляджу — сядзіць, тады карову падаіла, глядзь — як пень, нават не зварухнуўся. Тады карову выгнала — зноў сядзіць. Думаю — спытаю, чаго сядзіць… І карову ж не выганяў?

— Не выганяў.

— Дык што ж здарылася?

— Вольга памерла… — Восіп зморшчыўся, быццам ад болю. Суседка прыкрыла рот рукою і перажагналася.

— Во бяда якая… Дык чаго ты сядзіш, паведамі дзецям. Хадзі во ад мяне пазвані.

Але Восіп нават не крануўся з месца:

— Ідзі, я зараз прыйду, вось пасяджу трошкі і прыйду. Сэрца нешта зашчаміла. Ідзі-ідзі, я зараз…

Апошні раз Вольга ляжала ў роднай хаце. Сцішана плакала ў куточку дачка, маўклівыя сядзелі зяць і сын. Суседзі прыходзілі, успаміналі нябожчыцу добрым словам…

Вынеслі з хаты, паклалі труну на калёсы. Пакуль стаялі на двары, наляцеў вецер і страсянуў з грушы духмяных пялёсткаў Вользе на твар. А Восіпу балюча стала. Ціха прамовіў:

— Гэта грушка табе "бывай" сказала. Развіталася, значыць, з табой…

Могілкі былі недалёка ад вёскі. Дарога вяла праз поле з маладой зялёнай рунню. Раз-пораз з-пад ног успырхвалі жаўрукі. І ніяк не спалучалася гэта сумная працэсія з ясным вясновым днём.

На могілках панавалі цішыня і спакой. Старыя бярозы, сосны і елкі ціха глядзелі на людское гора больш як сто год і даўно прывыклі.

Спыніўшыся, падышлі да ямы з жоўтым пяском па краях.

— Дык а чаму тут выкапалі? — спытаў Восіп у сына. Той махнуў рукою:

— Ну выкапалі і выкапалі, тут во добрае месца, чыстае, ды і ці не ўсё роўна табе, бацька, могілкі і ёсць могілкі…

Восіп прытуліўся да камля старой сасны і ціха сам сабе паўтараў: "Дрэннае месца, дрэннае…". Сын не вытрымаў:

— Ну чаму дрэннае, чаму?

— Усе ходзяць, таптаць будуць. Ты паглядзі, сынок, вы ж яе прама на дарозе палажылі…

Сын прамаўчаў. Праз дзень, ад'язджаючы, ён усё ж зачапіў Восіпа:

— Ну што ты, тата, прыдумаў сам сабе. Якая розніца, дзе пахавалі?

— Не, сынок, ёсць розніца. Не спыталі ў мяне тады, палажылі ў дрэнным месцы. Хто ні ідзе на могілкі, пераступіць цераз матку, будзе па ножках ёй таптацца… Што ж вы не спыталі…

Дзень ішоў за днём. Усё было як звычайна. Восіп корпаўся ў агародзе, вадзіў на поле карову, дагледаў парасят. Часта сядзеў на лаве пад грушай, асабліва ўвечары. Цяжка было і самотна ў хаце. Куды ні кінь пагляд, усё напамінала пра гаспадыню — кветкі на вокнах, сурвэткі, абрус на стале, фотакарткі.

Пасля хаўтураў прайшоў, можа, тыдзень, можа, крышку менш, як вёска скалыхнулася ад навіны, нячутай раней, дзіўнай і страшнай. Хадзіла чутка па вуліцы, абрастала новымі падрабязнасцямі. Ніхто да гэтага пра такое нават не чуў.

Восіп выкапаў Вольгу і перанёс яе ў другое месца. Верылі ці не, але ж гэта была праўда. Аднойчы выправіўся з рыдлёўкаю на могілкі, папрасіў дапамагчы пастухоў, што пасвілі побач калгасны статак, выкапаў труну і перанёс у новае месца.

Дадому прыйшоў ціхі, спакойны, сеў пад ігрушыну і прамовіў:

— Ну вось і ўсё, грушка, пахавалі мы з табой бабу… Там ціха, ніхто не будзе турбаваць… Спі, баба, я ўжо хутка прыйду да цябе…

Сядзеў на лаве, круціў у руках вяроўчыну, якою апускалі труну, думаў адвечную сваю думку. Быў адзіным цэлым са старой грушай.

Не стала старога Восіпа неяк хутка, амаль адразу за Вольгай. Хату іх выкупілі, туды ўсяліліся новыя жыхары, абнеслі двор высокім плотам і спалілі старую грушу.

# Вяртанне Івана Хруцкага

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Пасля амаль паўгадавога вандравання збор карцін Івана Хруцкага, 200-годдзе з дня нараджэння якога адзначалі ў мінулым годзе, вярнуўся ў пастаянную экспазіцыю Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. З гэтай нагоды адбылася прэс-канферэнцыя і своеасаблівае адкрыццё выстаўкі.**

Дырэктар НММ нашай краіны Уладзімір Пракапцоў нагадаў прысутным, што мінулы год быў абвешчаны ЮНЕСКА годам Івана Хруцкага. Імя беларускага мастака актыўна пазіцыяніравалася на культурнай прасторы Еўропы. Шмат людзей даведалася пра яго творы і, адпаведна, больш даведалася пра Беларусь мастацкую. Юбілейная дата нашага знакамітага земляка была ўнесена ў Спіс памятных дат ЮНЕСКА 2010 — 2011 гадоў разам з імёнамі Фрыдэрыка Шапэна, Роберта Шумана, Міхаіла Ламаносава, Антона Чэхава.

Ініцыятарамі і ўдзельнікамі шматлікіх юбілейных мерапрыемстваў былі Міністэрствы культуры і сувязі і інфарматызацыі нашай краіны, Нацыянальны мастацкі музей, Нацыянальны банк Беларусі, "Приорбанк", газета "Комсомольская правда в Белоруссии". Распачалося ўсё з урачыстай вечарыны ў НММ Беларусі, якая ўлучала прэзентацыі памятнага канверта з маркаю, срэбнай манеты ды адкрыццё выставак твораў Івана Хруцкага з калекцыі музея (іх тут налічваецца 23 работы), яго праўнучкі Ядвігі Мацıеўскай і медальернага мастацтва мастака Алеся Шаціла, прысвечаных юбіляру.

Пасля выстаўка пераехала ў Полацк, дзе таксама адбыліся міжнародная навукова-практычная каферэнцыя "Іван Хруцкі ў дыялогу культур", пленэр, конкурс маладых мастакоў. Імя І. Хруцкага нададзена адной з вуліц і дзіцячай мастацкай школе Полацка, сярэдняй школе пасёлка Ула Бешанковіцкага раёна, на месцы сядзібы творцы Захарнічы усталяваны памятны знак. Потым карціны Івана Фаміча выстаўляліся ў штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы. У рамках Дзён культуры Беларусі ў Літве ў Вільнюсе экспанавалася сумесная выстаўка з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея і літоўскіх музеяў, якія са свайго боку дадалі ў экспазіцыю шэсць карцін; адбылася прэзентацыя альбома "Іван Хруцкі" з калекцыі "Вялікія мастакі". А завяршаючы Год культуры Беларусі ў Расійскай Федэрацыі, у Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі таксама ладзілася сумесная выстаўка работ Івана Хруцкага з фондаў НММ нашай краіны (усё тыя ж 23 карціны) і з маскоўскай галерэі (12 твораў).



Са слоў першага намесніка старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, усе мерапрыемствы, звязаныя з імем Івана Хруцкага, — гэта выдатны нацыянальны культурніцкі чын, скіраваны, найперш, на разбурэнне застарэлых нацыянальных комплексаў пра нас як вясковую нацыю. Але ж мы іх не самі сабе прыдумалі. Імя Івана Хруцкага паказвае, што мы — нацыя шляхетная, з выдатнай класічнай культурай. А гэта дапамагае інтэграваць нашу культуру ў сусветны мастацкі кантэкст.

# Толькі слухаць душой...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Андрэя Спрынчана

**"Да гэтай прэм'еры я ішоў, як кампазітар, 50 гадоў: Янка Купала, Уладзімір Мулявін, беларускі народны аркестр... Не верыцца, што гэта збылося", — з такімі словамі кампазітар Ігар Лучанок звярнуўся да публікі, як толькі ў Вялікай зале сталічнай філармоніі аціхлі авацыі, адрасаваныя стваральнікам і выканаўцам музычнай паэмы "Гусляр".**

У гэтай незвычайнай прэм'еры — глыбокія гістарычныя карані. Паэма Янкі Купалы "Курган" некалі сталася моцным ідэйна-эстэтычным стымулам для студэнта-дыпломніка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі І. Лучанка. Кампазітар успамінае: "Мяне ўразіла яскравае паэтычнае ўвасабленне адвечнай тэмы — тэмы процістаяння Гусляра і Князя, якая ёсць у творчасці кожнага народа. І ў год заканчэння кансерваторыі, у 1961-м, я напісаў кантату "Курган", а ў 1962-м з'явілася яе другая рэдакцыя — для хору, сімфанічнага аркестра і салістаў. Быў зроблены запіс на Беларускім радыё. Да кантаты ў свой час звярталіся розныя выканаўцы, калектывы; нават аднойчы партыю Князя выканаў знакаміты оперны бас Віктар Чарнабаеў. Але я не чакаў, што гэты мой твор зацікавіць Уладзіміра Мулявіна і дзякуючы яму атрымае новае жыццё — амаль праз два дзясяткі гадоў".

100-годдзе Купалавай паэмы, якое адзначалася летась, паспрыяла ажыццяўленню новых творчых праектаў. Паэму-легенду І. Лучанка — У. Мулявіна "Гусляр" ужо двойчы прадставілі ў філармоніі музыканты Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам М. Казінца разам са сваімі творчымі партнёрамі. Яркі мастацкі вынік, сугучны надзённым ідэям і адвечным духоўна-маральным праблемам, дасягнуты намаганнямі каманды прафесіяналаў, пра якіх мы пісалі з нагоды юбілею аркестра (гл. "ЛіМ" № 1 за 2011 г.). Падкрэслю: перад Л. Сімаковіч як рэжысёрам стаяла амаль невырашальная задача **тэатралізацыі музычнай імпрэзы** на базе **канцэртнага** калектыву і ў варунках **філарманічнай** сцэны. Адмысловая заслуга А. Крамко, які адолеў каласальную працу па рэканструкцыі і аркестроўцы партытуры. Вялікая доля поспеху прэм'еры належыць спеваку П. Ялфімаву (Гусляр), а таксама прадстаўнікам ТАА "Лявоны" — Я. Жанчаку (Князь) ды вакальнаму квартэту ў складзе С. Мядзведзева, П. Хасанава, У. Даніловіча, С. Савіцкага; Дзяржаўнаму камернаму хору Беларусі пад кіраўніцтвам Н. Міхайлавай, фальклор-тэатру "Госьціца"...

Сам аркестравы склад "іграе" на вобразны змест, натуральныя акустычныя інструменты з іх каларытна скарыстанай санорыкай пасуюць меладызму І. Лучанка; востры полістылістычны, часам гратэскавы акцэнт, "эмацыйны дысананс" уносяць элементы мулявінскага рока, гучанне сучаснай электронікі. Тэмбравая свежасць зачароўвае слых ужо ў эпічным апавядальным



аркестравым уступе, дзе інструментальны голас нашага краю, цымбалы, нагадваюць то пераборы гусляў, то пошум ветру над легендарным курганом — сакральнай мясцінай "паміж пустак, балот", сімвалам выпрабавання і ўзвышэння для моцных духам. Дасціпнай характарнай замалёўкай княжацкага вяселля падаюцца перазовы вакальнага квартэта і хору. Дарэчы, харысты, размешчаныя ў глядацкай ложы, прылеглай да сцэны, робяцца актыўнымі ўдзельнікамі ўсяго відовішча, дзякуючы выразнай жэстыкуляцыі, пластычным падтанцоўкам. Вакол жа самога Князя ўюцца-выгінаюцца, нібы бяздушная злавесная світа, паненкі ў чорным...

Апрануты ў белае, босы, "як лунь, белы" Гусляр з'яўляецца праз партэр у суправаджэнні "белых панначак". Адна з іх, мабыць, сімвалізуе ідэальную Беларусь-мару, другая ж — нескароную духам зямлю-Беларусь, здатную абараніць сваю чысціню, годнасць, узняўшы сімвалічны меч... Узрушвае маналог Гусляра. Малады, багаты на абертоны голас шырокага дыяпазону, тэмпераментная артыстычная індывідуальнасць, асэнсаванне кожнай інтанацыі — лепшае перакананне ў мастацкай праўдзівасці вобраза: без прэтэнзій на перайманне мулявінскага вакалу, без бутафорскіх гусляў, без грыму і клеенай барады. Вось ён, мудры — і вечна малады, блізкі нам, сучаснік: гусляр, і лірнік, і дудар, і пясняр, і паэт... І процістаіць яму гэткі ж вечна малады, статны, прыгожы, але — уладалюбец і самадур... Сапраўднай драматычнай кульмінацыяй твора ўспрымаецца духоўны двубой персанажаў П. Ялфімава і Я. Жанчака... Але, паводле канцэпцыі спектакля, зло перамагае ў бліжнім баі; духоўнае сцвярджаецца ў Вечнасці. У аркестравай кодзе перазовы цымбалаў-званоў вядуць адлік яе імгненняў...

***На здымку: вакальны рок-гурт падчас выканання музычнай паэмы "Гусляр".***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Сёння ў межах сталічнага праекта "Музычныя вечары ў Вялікім" адбудзецца вечарына пад назвай "Памяці вялікай спявачкі". Карыфеі вакальна-сцэнічнага мастацтва і маладыя салісты падрыхтавалі праграму з арый і дуэтаў, якую прысвячаюць 107-й гадавіне з дня нараджэння Ларысы Александроўскай, опернай прымадонны і рэжысёра, прапагандысткі роднай беларускай песні, народнай артысткі СССР. Яе імя нададзена новай утульнай зале, што з'явілася ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі пасля рэканструкцыі. Тут і адбудзецца канцэрт.

У НАВТ оперы і балета Беларусі прайшоў спектакль "Дзікае паляванне караля Стаха". Паказ гэтай вядомай оперы кампазітара У. Солтана паводле У. Караткевіча прысвячаўся 90-годдзю з дня нараджэння выдатнага дырыжора, народнага артыста СССР Яраслава Вашчака, які ажыццяўляў музычнае кіраўніцтва пастаноўкі. З яго дзейнасцю звязаны адзін з найярчэйшых перыядаў у творчасці калектыву. На мінскай сцэне пад кіраўніцтвам маэстра Вашчака здзейсніліся незабыўныя прэм'еры з адметным сузор'ем салістаў. Ён быў дыржорам-пастаноўшчыкам опер "Барыс Гадуноў" М. Мусаргскага і "Галька" С. Манюшкі, "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні, "Дон Карлас" Дж. Вердзі, "Сялянскі гонар" П. Масканьі, сцэнічнай кантаты "Карміна Бурана" К. Орфа. Опера "Дзікае паляванне..." ужо больш як 20 гадоў не сыходзіць са сцэны, і гэта выдатны помнік творчасці Маэстра.

Праз паўтары сотні гадоў у нашым музычным асяроддзі зноў разыгралі "Латарэю": рупліўцы творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" наладзілі ў сталічнай філармоніі ўжо другі паказ ранняй (мінскага перыяду) аднаактовай оперы Станіслава Манюшкі з такой прынаднаю назвай. Па сутнасці музычная камедыя, ці, паводле тагачаснага вызначэння, "аперэтка", Манюшкава "Латарэя" прызначалася для выканання ў аматарскіх колах беларускіх губернскіх гарадоў, і прэм'ера яе адбылася ў Мінску. Захапляльная любоўная інтрыга (цікава ж, чым скончыцца спроба заказаных выйграць у латарэю — на далейшае бязбеднае жыццё), дзівосна прыгожая музыка, выдатны ансамбль выканаўцаў, сама гісторыя адраджэння оперы — зарука таго, што яе паказ яшчэ доўга будзе збіраць аншлагі. А спрычыніліся да "Латарэі" Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" на чале з У. Байдавым, Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам Н. Міхайлавай, салісты В. Скарабагатаў, С. Лазарэвіч, У. Громаў, С. Клачкоў, Я. Каральчук.

Міхаіл Задорнаў — новае імя на афішы Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Тут пачаліся першыя рэпетыцыі спектакля паводле яго "Нататак стомленага рамантыка". Вядомы расійскі пісьменнік-сатырык і гумарыст выступіць у якасці мастацкага кіраўніка пастаноўкі. Прэм'ера "Нататак стомленага рамантыка" мае адбыцца ў красавіку.

# Музычнае стоўпатварэнне

Вольга БРЫЛОН,
фота Аляксандра Куўшыннікава

**У Брэсце адбыўся ўжо XXIII Міжнародны фестываль класічнай музыкі "Студзеньскія музычныя вечары". Чатыры дні запар яго наведвальнікі мелі шчаслівую магчымасць слухаць і бачыць выдатных майстроў акадэмічнага мастацтва з розных краін свету. Як вядома, гэты фестываль у 1987 годзе прыдумала Лілія Батырава. Выкладчык спецыяльнага фартэпіяна Брэсцкага музычнага каледжа, шмат гадоў запар яна ўзначальвае Брэсцкае музычнае таварыства, уваходзіць у склад праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў. За амаль чвэрць стагоддзя намаганнямі Л. Батыравай "Студзеньскія музычныя вечары" сталі культурнай візітоўкай горада над Бугам. Высокі аўтарытэт форуму падтрымліваецца дзякуючы патранату Брэсцкага аблвыканкама і яго старшыні Канстанціна Сумара, а таксама мэра горада Аляксандра Палышэнкава.**



Прадстаўнічасць фестывалю і яго міжнародны размах проста ўражваюць. Дырыжор-легенда Саўлюс Сандэцкіс (Літва) і сусветна вядомы скрыпач і педагог Захар Брон (Расія — Германія), салісты Вялікага тэатра Ганна Аглатава і Дзмітрый Беласельскі (Расія), выдатныя піяністы Ян Кшыштаф Броя (Польшча), Барыс Блох (ЗША), Этэла Чупрык (Украіна) ды Ігар Алоўнікаў (Беларусь), салісты варшаўскіх тэатраў Ханна Самсон, Лешак Свідзінскі і Беата Вардак, салісты італьянскіх оперных тэатраў Іва Іярданаў, Нунцыа Фацыні і Паола Барталучы... Гледзячы на фестывальныя афішы, я міжволі задавалася пытаннем: няўжо ўсе прыедуць? Прыехалі! Дый не толькі яны, але многія іншыя знакамітыя музыканты і калектывы, якіх з вялікай нецярплівасцю чакалі аматары класікі.

Падчас сёлетняга фестывалю ў Брэсцкім акадэмічным тэатры драмы адбылося 6 канцэртаў: чатыры вечаровыя і два дзённыя. У іх удзельнічалі музыканты з 13 краін, сярод якіх Беларусь, Балгарыя, Венгрыя, Германія, Галандыя, Італія, Кітай, Літва, Польшча, Расія, ЗША, Украіна, Францыя. Самыя слынныя ўдзельнікі давалі майстар-класы ў Брэсцкім музычным каледжы імя Р. Шырмы. Майстар-класы — неад'емная частка праграмы фестывалю. Ладзяцца яны таксама па ініцыятыве Л. Батыравай: музыкант-канцэртант, яна як ніхто разумее карысць і неабходнасць такіх форм працы выдатных майстроў-прафесіяналаў. Свой каласальны вопыт і веды музыкантам-пачаткоўцам і іх настаўнікам падчас сёлетніх майстар-класаў перадалі народны артыст СССР С. Сандэцкіс, лаўрэат міжнародных конкурсаў Б. Блох і народны артыст Расіі З. Брон. Дарэчы, знакаміты скрыпач і педагог, прафесар Кёльнскай, Цюрыхскай і Мадрыдскай кансерваторый, Захар Брон выхаваў ужо больш як 190 скрыпачоў. Сярод іх Вадзім Рэпін і Максім Вянгераў, якія даўно ўвайшлі ў музычную эліту. Вучні З. Брона нязменна перамагаюць на міжнародных конкурсах, іх імёны — на афішах лепшых канцэртных залаў свету.

Уражвае і колькасць аркестравых калектываў, якія ўзялі ўдзел у фестывалі — ажно 9! Нават цяжка ўявіць, што за чатыры дні ў Брэсце выступілі 4 сімфанічныя аркестры, 3 камерныя, духавы і аркестр саксафонаў. Які яшчэ айчынны фестываль можа пахваліцца такім незвычайным фактам?!.

На вечары-адкрыцці сусветна вядомы дырыжор С. Сандэцкіс дырыжыраваў зводным аркестрам "Еўрарэгіёна Буг". Аркестранты — пераважна моладзь — прадстаўлялі камерныя аркестры з Любліна (Польшча), Луцка і Львова (Украіна) і Брэста (Беларусь). Яны выканалі знакамітую "Серэнаду для струнных" П. Чайкоўскага. Вялікі дырыжор бліскуча правёў сваё выступленне, дасягнуўшы глыбокага і цэласнага гучання зводнага аркестра. Пасля антракта на сцэну выйшаў Сімфанічны аркестр Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы пад кіраўніцтвам Аляксандра Сасноўскага. Аркестр акампаніраваў маладым салістам Вялікага тэатра Расіі Ганне Аглатавай і Дзмітрыю Беласельскаму. Якое гэта было свята бельканта! Спевакі выконвалі самыя знакамітыя і складаныя оперныя арыі, прывёўшы публіку ў поўнае захапленне і даказаўшы відавочнае: у Вялікі тэатр проста так не трапляюць! Галасы Г. Аглатавай і Д. Беласельскага — сапраўды, залаты фонд Расіі. Зрэшты, на фестывалі "Студзеньскія музычныя вечары-2011" у аматараў вакалу была рэдкасная магчымасць слухаць і іншых выдатных спевакоў. На другім фестывальным вечары салісты польскіх тэатраў Х. Самсон, Л. Свідзінскі і Б. Вардак выконвалі арыі з вядомых опер і аперэт, а на вечарыне-закрыцці сваё непераўзыдзенае вакальнае майстэрства дэманстравалі спевакі Н. Фацыні, П. Берталучы ды І. Іарданаў (Італія — Балгарыя). Усе гэтыя выступленні праходзілі пад акампанемент брэсцкага сімфанічнага аркестра на чале з Аляксандрам Сасноўскім (Беларусь) і Джузэпе Пічыніна (Італія).



Кульмінацыяй трэцяга вечара сталася выступленне вядучага філарманічнага калектыву нашай краіны — Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, у выкананні якога прагучаў двайны канцэрт для скрыпкі і віяланчэлі Я. Брамса. Саліравалі скрыпач Захар Брон і польскі віяланчэліст Даніэль Дмахоўскі. Гэты інтэрнацыянальны праект падрыхтаваў галоўны дырыжор знанага калектыву, маэстра Аляксандр Анісімаў, які натхнёна прадырыжыраваў канцэртам Брамса.

Усе праграмы фестывалю мелі адметнасць: у кожнай з іх былі прадстаўлены як сімфанічныя, так і камерныя жанры. Так, напрыклад, у адным вечары перад вядучым філарманічным калектывам з Беларусі выступаў выдатны польскі піяніст Ян Кшыштаф Броя, а выкананню скрыпічнага канцэрта Л. Бетховена, які ў суправаджэнні брэсцкага сімфанічнага аркестра сыграў Даніэль Гарліцкі (Францыя), папярэднічалі выступленні вядомага беларускага гітарыста Уладзіміра Захарава і львоўскай піяністкі Этэлы Чупрык. У адным аддзяленні выступалі Сімфанічны аркестр Брэсцкага музычнага каледжа пад кіраўніцтвам Людмілы Жабінскай і паасобку — народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў (фартэпіяна) і лаўрэат міжнародных конкурсаў кларнетыст Дзмітрый Ярацэвіч у тандэме з канцэртмайстрам, лаўрэатам міжнародных конкурсаў Юліяй Перэў (Беларусь). Адзін за адным ігралі Сімфанічны аркестр Закарпацкай абласной філармоніі п/к Вікторыі Сваляўчук (Ужгарад) і аркестр саксафонаў "Sax-a-lot" (г. Кувордэн, Галандыя). Дзённы канцэрт трэцяга дня фестывалю літаральна ўзарвала феерычнае выступленне Маладзёжнага духавога аркестра з г. Будапешта (дырыжор — Петэр Сіладзі), перад якім на сцэну выходзілі камерныя салісты: барытон Дзмітрый Грыніх (Расія) і магістранты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Янь Чэнь Інь і Го Вэй (Кітай), якім акампаніравала асноўны канцэртмайстар фестывалю Жана Варламава (Беларусь).

Жартам кажучы, фестывальныя вечары і дзённыя канцэрты нагадвалі "вялікае вавілонскае стоўпатварэнне". І гэта цудоўна, таму што ў выйгрышы заўсёды аказвалася публіка.

Брастаўчанам можна пазайздросціць: кожны год яны далучаюцца да сапраўднага свята акадэмічнага мастацтва і сустракаюцца з вялікімі музыкантамі сучаснасці. Праз год — чарговы фестываль, які прынясе новыя сюрпрызы меламанам.

***На здымках: народны артыст Расіі Захар Брон (скрыпка) і Даніэль Дмахоўскі (віяланчэль); італьянскі спявак Нунцыа Фацыні.***

# Казка кожны год

Наталля ВАСІЛЁНАК

**Традыцыйна, ужо не першае дзесяцігоддзе, сталічная Дзіцячая музычная школа № 10 імя Я. А. Глебава праводзіць святочны навагодні канцэрт "Зімовая казка". Сёлета гэтае доўгачаканае і хвалюючае для дзіцячых сэрцаў мерапрыемства адбылося ў Канцэртнай зале "Мінск" пад дэвізам "Трэцяе тысячагоддзе без вайны".**

Сапраўдным феерверкам расквецілі прастору залы самыя разнастайныя музычныя нумары. Гэта былі сольныя і калектыўныя выступленні навучэнцаў педагогаў школы, выхаванцаў Мінскага сувораўскага ваеннага вучылішча. Найбольш яркім выкананнем вылучыліся лаўрэаты міжнародных конкурсаў Дзіма Парэчын (габой), Вера Шаптурэнка (фартэпіяна), Алія Вішнеўская (цымбалы), Рома Бабарыкін (саксафон). Паабяцаным сюрпрызам прагучалі выступленні навучэнцаў эстраднага аддзялення школы — лаўрэатаў міжнародных дзіцячых конкурсаў Ксеніі Сітнік, Андрэя Кунца, Дар'і Надзінай, Марыі Новік і Веранікі Коцкай.

Кожны год да "Зімовай казкі" нараджаюцца новыя і новыя калектывы. Гэта ўжо цэлы шэраг цудоўных ансамбляў практычна ўсіх аддзяленняў школы: дзіцячы квартэт драўляных духавых інструментаў "Крынічка" (кіраўнік Максім Расоха), квартэт "Рыўера" (кіраўнік Максім Расоха), ансамбль цымбалістаў (кіраўнік Алена Дзегцярова), дуэт "Экспрэсія" — Аляксей ды Ірына Дараганавы, ансамбль ударных інструментаў (кіраўнік Андрэй Вярышка і Дзмітрый Кобрын) ды інш. Вялікая ўвага надаецца ў школе нацыянальнай музыцы. Таму нездарма ўдзельнічаў у канцэрце фальклорны ансамбль "Праменьчык" (кіраўнік Вераніка Лінко). Каларытныя беларускія калядкі з арыгінальным суправаджэннем, маляўнічыя касцюмы, тэатралізаванае выступленне і шчыры энтузіязм юных выканаўцаў — усё гэта выклікала бурнае захапленне залы.

Своеасаблівай акаймоўкай гэтай казкі ўспрымаліся нумары з вялікімі выканаўчымі складамі. Аркестр народных інструментаў (кіраўнік Наталля Ручымская) добра задаў тон і настрой усяму канцэрту, а прыгожая дзятва ўзорнага хору старэйшых класаў і малодшага канцэртнага хору (кіраўнікі Аляксей Клімовіч і Галіна Аерава) урачыста завершыла свята. Зала бурнымі апладысментамі вітала народнага артыста СССР, даўняга сябра школы, кампазітара Ігара Лучанка, які выступіў за раялем.

Толькі добрае веданне свайго калектыву, яго багатых творчых магчымасцей, сапраўды невычэрпнага патэнцыялу дазволіла дырэктару школы і рэжысёру канцэрта — заслужанаму дзеячу культуры Рэспублікі Беларусь Тамары Куніцкай — гэтак эфектна, лагічна, вытанчана пабудаваць драматургію разнажанравай імпрэзы.

## Слова краязнаўцы



**Васіль Юрша з Ашмяншчыны дзеліцца знаходкамі ў галіне даследавання ўласнага радаводу:**

— Мая дарога ў краязнаўства не была прамой і гладкай. Сыход з жыцця блізкага чалавека падштурхнуў да пакутлівых пошукаў адказаў на пытанне: "Хто мы, адкуль мы і дзеля чаго жывём?". Набытая спецыяльнасць інжынера-сістэматэхніка падказала, што веды пра гісторыю свайго роду трэба прыводзіць у сістэму. Так, прыкладна 10 год таму перада мною адчыніліся дзверы аддзела старой кнігі ў Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы імя У. Леніна.

Першыя пошукі праводзіў вакол прозвішча і месца нараджэння. У рукі трапілі сямнаццацітомны "Геаграфічны слоўнік Польскага Каралеўства і іншых славянскіх краёў", праца славутага земляка Чэслава Янкоўскага "Ашмянскі павет"... Маленькія знаходкі выклікалі вялікія пытанні, але цікавасць толькі павялічвалася. Даследаванне павяло ў Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, затым у Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў горадзе Гродна і ўрэшце — у Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Лёд крануўся, гісторыя пачала дзяліцца таямніцамі. Чым больш пазнаваў, тым больш хацелася даведацца. Але і поле дзейнасці, што адкрывалася перада мной, здзіўляла неаглядымі гарызонтамі — Рэвізскія сказкі з 1795 па 1854 гг., выбадныя шляхецкія справы, дакументы ашмянскіх судовых устаноў і Галоўнага Літоўскага Трыбунала... Прыйшло разуменне, што на вывучэнне мінуўшчыны можа не хапіць сучаснасці.

Спачатку патрэбную інфармацыю даводзілася здабываць па крупіцах, але пазней яна літаральна "пацякла ракой". Пашчасціла знайсці ў мінскім архіве некалькі тэстаментаў (завяшчанняў) нашага роду, датаваных 1700 — 1754 гг., а ў літоўскім архіве — "Wywod familii urodzonych Jurszów" за 1819 г. Вывучэнне метрык касцёлаў Ашмянскага і Віленскага дэканатаў дазволілі прасачыць лёсы многіх сваякоў.

На сённяшні дзень удалося дакладна аднавіць радавод у трынаццаці пакаленнях, пачынаючы з сярэдзіны XVII стагоддзя, устаноўлена малая радзіма — "фартэцыя Юршаны званая", закладзеная ў 1650-х гг. Ужо знойдзеныя, але пакуль разрозненыя звесткі да 1650 г. патрабуюць працягу даследаванняў. Паступова сабраная інфармацыя выйшла далёка за межы інтарэсаў аднаго прозвішча. У 2007 г. з'явілася "Фамільная кніга", дзякуючы якой нсобіты многіх "ашмянскіх" прозвішчаў могуць задаволіць сваю "гістарычную" цікаўнасць і атрымаць уяўленне пра тое, як, што і дзе шукаць.

## У свеце народнай іконы

**Чэслава ПАЛУЯН**

Учора, 17 лютага, у Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі адбылося адкрыццё выстаўкі "Паміж небам і зямлёй" (народны іканапіс у традыцыйнай культуры Гомельшчыны). Выстаўка праводзіцца сумесна з Гомельскім палацава-паркавым ансамблем у межах акцыі "Гомель — культурная сталіца Беларусі, 2011". У экспазіцыі ўвазе наведвальнікаў прадстаўлены экспанаты са збору гомельскага музея — больш як 70 абразоў, якія бытавалі на тэрыторыі Гомельскай і сумежных Бранскай і Чарнігаўскай абласцей. Ручнікі, народны касцюм, прадметы побыту ствараюць той свет, у якім жыла народная ікона — сама па сабе частка народнага светапогляду.

## Музейны ўнікат

**Надзея ПЯКАРСКАЯ, фота аўтара**





# Залатая ліхаманка з Полацка

**Полацк — горад цудаў і таямніц. Сафійскі сабор, Спаса-Еўфрасіннеўская царква, помнік у гонар літары Ў, мастацкая галерэя ў адным з будынкаў былога езуіцкага калегіума — нездарма менавіта гэты горад атрымаў статус першай культурнай сталіцы ў рамках рэспубліканскай акцыі "Культурная сталіца Беларусі", якая распачалася ў 2010 годзе па ініцыятыве Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.**

Фінальным акордам акцыі стала выстава "Полацкі залаты скарб", наладжаная Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь сумесна з Полацкім нацыянальным гісторыка-культурным музеем-запаведнікам. Увазе наведвальнікаў былі прадстаўлены манеты, іконы, уборы полацкай знаці, завушніцы, бранзалеты, скроневыя кольцы X — XIII стагоддзяў. Але фактычна гэтыя прадметы служаць толькі фонам для "галоўнага госця" экспазіцыі — бліскучага і прывабнага полацкага залатога скарбу, які складаецца з 6 прадметаў агульнай вагой 334, 36 грама. Тут і дротавыя, і вітыя бранзалеты, і шыйныя грыўні, усё з золата найвышэйшай пробы — сапраўдная мара ювеліраў, жанчын і злодзеяў.

А пачалася гісторыя вывучэння полацкага скарбу 10 красавіка 1984 года на тэрыторыі Ніжняга Замка (сучасны стадыён "Спартак") падчас добраўпарадкавання горада. Як кажа гісторык і археолаг, даследчык нечаканай знаходкі Сяргей Тарасаў, гэтыя ювелірныя ўпрыгожванні эпохі вікінгаў пацвярджаюць існаванне знакамітага гандлёвага шляху "з варяг у грэкі", які звязваў Полацкую зямлю з Паўночнай Еўропай і Кіевам. Залаты скарб — не толькі адлюстраванне выдатных палітычных і эканамічных адносін старажытнага Полацка з іншымі дзяржавамі, але і пацвярджэнне віртуознай тэхнікі сярэднявечных майстроў, якія ўжывалі для вырабу залатых упрыгожванняў дастаткова складаныя прыёмы — ліццё, валачэнне, коўку, пляценне і скручванне.

"Полацк — душа Беларусі", — адзначыў падчас адкрыцця выставы міністр культуры Павел Латушка. І сапраўды, наша краіна вартая мець душу з больш як тысячагадовай гісторыяй, поўнай вялікіх падзей і ўслаўленай таленавітымі асобамі.

## Вытокі

# Спазнаць гісторыю — спазнаць сябе

**Бажэна СТРОК, фота аўтара**

Тры гады таму ў настаўнікаў і вучняў сярэдняй школы № 18 горада Брэста ўзнікла ідэя стварыць этнаграфічны музей. У хуткім часе гэтая справа захапіла ўвесь калектыў. Далучыліся і бацькі дзяцей. Адным словам, усе з вялікім задавальненнем заняліся пошукам рарытэтаў для будучай экспазіцыі. І між іншым непрыкметна заглыбіліся ў вывучэнне гісторыі роднай зямлі і сваіх каранёў.

"Пачыналася ўсё з некалькіх экспанатаў, — распавяла настаўніца беларускай мовы і літаратуры і кіраўнік школьнага этнаграфічнага гуртка Святлана Ермакова. — Але дзякуючы нашым экспедыцыям па Берасцейшчыне, паездкам у вёскі да сваякоў сабралі нямала старадаўніх рэчаў, якія праляжалі на гарышчах ды ў хлявах не адно дзесяцігоддзе і вось дачакаліся свайго часу. Знайшлося нямала адмысловых вырабаў, прадметаў і ў іншых рэгіёнах Беларусі. Мы апрацоўвалі будучыя экспанаты і планавалі, у які раздзел экспазіцыі іх размясціць".

Сёння музей можа пахваліцца такім унікальным экспанатам, як вярэнька, або шэнька. Гэта спецыяльная сумка з бяросты (пачатак XX стагоддзя), у якой насілі касцам ежу. Ёсць паштоўкі, якія хадзілі па гэтай тэрыторыі за польскім часам (выпушчаны да 1939 года). Нельга не звярнуць увагу і на іконы, дакладней, іх рэпрадукцыі. Час іх стварэння — канец XIX — пачатак XX стагоддзя. Абразы знайшліся ў вёсцы Пагост-Загарадскі Пінскага раёна.

Як жылі нашы дзяды і прадзеды, могуць расказаць сельскагаспадарчыя прылады працы, якія шырока прадстаўлены ў экспазіцыі. Багаты на экспанаты раздзел "Ткацтва". І не дзіўна, бо ткацтва ў нашых продкаў было самым распаўсюджаным відам народнага мастацтва. Стваральнікі музея ганарацца калекцыяй ручнікоў (больш як чатыры дзясяткі вырабаў), якія выканаы ў рознай тэхніцы. Прынамсі, некаторым з іх каля ста гадоў.

— Наша калекцыя карункаў налічвае больш як 30 вырабаў, — расказвае юны экскурсавод Вераніка Чарнышова. — Кожны адметны сваёй непаўторнасцю і высокім узроўнем майстэрства. Мне вельмі падабаюцца вышыванкі крыжыкамі і вырабы з саломы і драўніны, якія можна ўбачыць у нашым музеі. Хацелася б і дома мець такія прыгожыя рэчы, бо яны грэюць душу і радуюць вока.

***На здымку: фрагмент этнаграфічнай экспазіцыі школьнага музея.***



# У музейнай прасторы Мётчы

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

**Мядоцкі край — унікальны куточак Барысаўскага раёна. Тут захоўваюць і развіваюць аўтэнтычныя фальклорныя традыцыі. У Мётчанскай адукацыйна-выхаваўчай установе "Школа-садок" працуе ўнікальны дзіцячы калектыў "Берагіня". Вучні пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў Антаніны Абрамовіч і Міколы Козенка ўдзельнічалі ў самых прэстыжных міжнародных і рэспубліканскіх фестывалях народнага танца "Палескі карагод", "Беларуская полька".**

У школе праводзіцца і вялікая краязнаўчая работа. Таму невыпадковым падаецца і адкрыты ўрок, што прайшоў у Мётчы па кнізе Алеся Карлюкевіча "Радзімазнаўства". Разам з аўтарам вялі яго галоўны рэдактар часопіса "Полымя" паэт Мікола Мятліцкі і рэдактар аддзела прозы часопіса Уладзімір Саламаха. Адкрыты ўрок праводзіўся з ініцыятывы "палымянцаў" як частка асобнага праекта, скіраванага на пашырэнне стасункаў пісьменнікаў са школай.

Варта заўважыць, што цяпер у мётчанскай школе працуюць тры грамадскія музеі: літаратурна-краязнаўчы — "Літаратурны космас Мётчы" (кіраўнік — Уладзімір Лайкоў), гісторыі школы імя Міхаіла Вінакурава (кіраўнік — Настасся Масарноўская), этнаграфіі (кіраўнік — Антаніна Абрамовіч). Сапраўдная выхаваўчая прастора! Асабліва ўражвае збор кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў у музеі "Літаратурны космас Мётчы". Асобна вылучаецца калекцыя з некалькіх дзясяткаў зборнікаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Ён быў не толькі госцем мётчанскіх школьнікаў і настаўнікаў, а яшчэ і верш напісаў пра Мётчу і Мядоцкі край: "Для злых душою — вотчына, / Для шчырадушных — рай! / Хай будзе не сурочана / Твая краса, Мядоччына — / Малечых вёснаў грай".

# Верашчака, Лявоніха і хор курсістак

## Выступленне Ігната Буйніцкага ў Варшаве

**1913 год. Студэнты-беларусы Варшаўскага ўніверсітэта запрасілі да сябе ў госці Першую беларускую трупу Ігната Буйніцкага. Сам Ігнат Буйніцкі і яго калектыў ужо былі вядомыя ў Беларусі. Рэпертуар гэтага нацыянальнага прафесійнага беларускага тэатра складаўся з песень, танцаў і пастановак п'ес. Ён у першую чаргу меў разлік на масавага беларускага гледача. Але царскія ўлады непрыхільна ставіліся да паказу са сцэны твораў на беларускай мове, асабліва на вострыя сацыяльныя тэмы, яны нярэдка забаранялі выступленні. Тым не менш калектыў Ігната Буйніцкага з вялікім поспехам выступаў у Дзісне, Паставах, Полацку, Слуцку, Нясвіжы, Клецку, Ляхавічах, Свянцянах, Мінску і ў іншых гарадах і мястэчках. Тройчы ён быў у Пецярбургу, дзе паказваў сваё майстэрства перад беларускай моладдзю.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

На пачатку XX стагоддзя пра паспяховыя выступленні трупы Ігната Буйніцкага добра ведалі і беларусы Варшавы. Праз рэктара Варшаўскага ўніверсітэта Яўхіма Карскага яны загадзя, за некалькі гадоў, дамовіліся, што зімой 1913 года беларусаў Варшавы пацешыць Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага. Яўхім Карскі тады ўжо не займаў пасаду рэктара ўніверсітэта, але ў арганізацыі сустрэчы дапамагаў. Асабліва рупілася яго жонка Соф'я Мікалаеўна. Дарэчы, родам яна была з-пад Саколкі (Беласточчына). Спадарыня Карская разам з беларускімі жанчынамі Варшавы актыўна займалася прыгатаваннем беларускіх страў і пачастункаў, а таксама афармленнем залы, дзе павінен быў выступаць калектыў Ігната Буйніцкага.

Але працэс падрыхтоўкі гастроляў заснавальніка беларускага тэатра ў Варшаву быў няпросты. Хоць большая частка студэнтаў шчыра хацела правесці выступленні беларускіх артыстаў на вышэйшым узроўні, былі ж і такія, хто не вельмі цікавіўся і не надта жадаў, каб развівалася беларуская культура. Гэтыя супярэчнасці паміж рознымі студэнтамі і выкладчыкамі прывялі да таго, што ўскладнілася справа з друкаваннем тых самых афіш вечарыны і гастроляў Ігната Буйніцкага, а таксама з іх распаўсюджваннем.

20 лютага 1913 года газета "Наша Ніва" паведамляла, што "афішаў на беларускай мове мы не бачылі на вечарыньцы, хоць яны і былі надрукаваныя. "Беларускі каляндар" і "Крапіва" прадаваліся, але другія кніжкі ляжалі ў куточку прыкрытыя. Меліся на гэты вечар выдрукаваць аднадзёнку на беларускай мове, а выдалі па-расейску і толькі на канцы памясцілі крыху беларускіх жартаў".

Ігнат Буйніцкі ў Варшаву прыехаў са сваёй старэйшай дачкой — даволі таленавітай спявачкай і танцоркай. Яны прывезлі з сабой скрыпача, старэчу-дудара, цымбаліста і іншых музыкаў і танцораў. У вялікім багажы Буйніцкіх аказалася шмат беларускіх нацыянальных касцюмаў для артыстаў, ручнікоў і дываноў для дэкарацый.

У першыя дні прыезду ў Варшаву Ігнат Буйніцкі не сядзеў без спраў. Ён таксама рыхтаваўся да выступлення. З беларускіх студэнтаў і выкладчыкаў майстра сцэнічнага мастацтва згуртаваў хор і танцавальны калектыў. Штодзень праводзіў з імі рэпетыцыі, гутарыў, адказваў на пытанні і пытаўся ў студэнтаў, як ім вучыцца і жывецца ў Варшаве.

Вечарына адбылася 15 лютага ў зале "Швейцарская даліна". Зала была падчас выступлення далёка не беларускай, а беларускай. Яе аформілі з беларускім густам. Там былі хаткі са студнямі, снапкі, кветкі, ручнікі і паясы. Арганізавалі таксама беларускую кухню, сябры якой частавалі прысутных беларускімі стравамі, такімі, як верашчака з грэчневымі блінамі, каўбасамі, калдунамі, квасам і г.д. Студэнты і просты люд стравы расхапілі імгненна.

Мастацкая частка вечара была надзвычай удалай і багатай. Шматлікі хор выканаў лепшыя беларускія песні. А танцы былі пастаўлены вышэй усякай пахвалы. Некаторыя нумары праграмы выконваў сам Ігнат Буйніцкі. Дэкламатары чыталі лепшыя вершы беларускіх паэтаў. Са сваімі творамі выступаў і паэт Гальяш Леўчык, які тады жыў і працаваў у Варшаве. Больш падрабязна пра гэта напісала "Наша Ніва" 20 лютага 1913 года: "... На сцэне мы бачылі і чулі беларушчыну. Хор са студэнтаў і курсістак нязгорш прапяяў беларускія песні "А хто там ідзе?", "Дуду-весялуху", "Чаму ж мне не пець" пад загадам студэнта М. Тэадаровіча, катораму належыць падзяка за рупнасць і працу; за такі кароткі час навучыць хор трэба было натугі. Малады спасобны хлопец, вучанік штукарскай школы ў Варшаве, Павел Гуткоўскі з пачуццём дэкламаваў "Абразкі" Пётры Простага, шкода толькі, што трохі заціха, не ўсе чулі, але на "біс" ужо казаў галасней творы А. Паўловіча і "Важную хвігу" Ядвігіна Ш...

Найбольш падабаліся публіцы нашы народныя танцы пад загадам штукара-танцора Ігната Буйніцкага. Яго трупа на шэсць пар танцораў пад музыку сялян, што з ім разам прыехалі: дудара, скрыпача і цымбаліста, проста зрабіла на публіку захват і дзіва, бо хто ж калі там бачыў народныя беларускія танцы "Лявоніха", "Мельнік", "Верабей", "Юрка", "Мяцеліца". Відаць было з гэтага ігрышча, што беларус, ці ён праваслаўны, ці католік, адчувае глыбока ўсё сваё роднае. Відаць гэта было і з таго, як прашчаліся студэнты з Буйніцкім на вакзале, і з той прамовы, якую сказаў адзін студэнт пры прашчанні. Шчырая падзяка належыць студэнту Грыгору Гуткоўскаму, бо каб не ён, то саўсім не было б нават надрукаванай праграмы па-беларуску".

Аўтар гэтай інфармацыі крыху памыліўся. Бо тады ў Варшаве вучыліся два браты Гуткоўскія — Павел і Мікалай. Былі яны родам са Случчыны. Павел вучыўся ў Варшаўскай мастацкай школе, а Мікалай Гуткоўскі — на юрыдычным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Магчыма, гэта быў не Рыгор Гуткоўскі, а Павел Гуткоўскі. Бо Мікалай Гуткоўскі ў 1913 годзе, калі прыязджаў Ігнат Буйніцкі ў Варшаву, працаваў ужо служачым, а Варшаўскі ўніверсітэт ён скончыў на год раней. Праўда, на канцэрце Буйніцкага ён таксама прысутнічаў. Пазней браты Гуткоўскія былі рэпрэсіраваныя. Мікалая расстралялі ў 1938 годзе, а Павел, адбыўшы тэрмін, вярнуўся на Бацькаўшчыну, дзе памёр у 1962 годзе.

Вечарына Ігната Буйніцкага ў Варшаве мела непаўторны поспех. З асаблівым зацікаўленнем і шчыра выступленні беларускіх артыстаў прыняла і польская публіка Варшавы. На другі дзень амаль усе польскія газеты Варшавы надрукавалі на сваіх старонках станоўчыя рэцэнзіі, у якіх падкрэслівалася выдатнае мастацкае і грамадскае значэнне вечарыны.

Уладзімір Няфёд у сваёй кнізе "Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра" (Мн., 1991. С. 88) пісаў: "Поспех Ігната Буйніцкага ў Варшаве яшчэ раз наглядна сведчыць як аб высокім узроўні яго мастацтва, так і аб вялікім значэнні, якое яно мела ў нацыянальным адраджэнні беларусаў".



***На здымку: Ігнат Буйніцкі танчыць з дачкой. 1910 г.***

# Пасля каранацыі

**Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ**

**Стаўшы самадзержцам Расійскай імперыі, Павел I вырашыў узяць сабе за прыклад кіраўнікоў Францыі і Прусіі, якія адрозніваліся неардынарнымі экстравагантнымі ўчынкамі і непрадказальнымі паводзінамі. Так, напрыклад, Людовік XIV быў сам сваім першым міністрам, а Фрыдрых II цалкам абыходзіўся без падобных супрацоўнікаў. Але Павел I вырашыў нават пераўзысці тых, каго абраў для перайманні.**

Звонку, на адных з дзвярэй Зімняга Палаца загадаў павесіць скрыню, куды яго падданыя атрымалі дазвол апускаць прашэнні і даносы. Ключ ад скрыні ён захоўваў у кішэні і пажадаў уласнаручна вымаць шматлікія лісты, што хутка там апыналіся. Увайшоўшы такім чынам у непасрэдныя адносіны са сваімі чалабітчыкамі, Павел адказваў ім у друкаваным выглядзе ў афіцыйных ведамасцях. Ён паказваў шлях, якім трэба ісці, каб атрымаць задавальненне прашэнняў, і звяртаўся з просьбай паведамляць пра вынікі іх клопатаў.

Першыя дні скрыня не заставалася пустой, і такі сродак зносін напачатку аказаўся карысным. Ён дапамог раскрыць і выкараніць некаторыя злоўжыванні. Але неўзабаве, адначасова з тым, што колькасць працы пераўзышла ўсе чаканні, Павел знайшоў сярод лістоў вялікую колькасць памфлетаў і абразлівых пасквіляў, аўтарамі якіх, як меркавалася, у большасці выпадкаў былі асобы, зацікаўленыя ў тым, каб адбіць у васпана ахвоту да гэтай выдумкі. І сапраўды, ён не толькі ад яе адмовіўся, але і ўзненавідзеў. І вось таму сведчанне.

Праз некалькі дзён пасля каранацыі, якая адбылася ў красавіку 1797 года, Павел I разам са сваімі сынамі — вялікімі князямі — вырашыў вярнуцца з Масквы ў Паўночную сталіцу не звычайным маршрутам, а праз Беларусь, каб больш падрабязна пазнаёміцца з Паўночна-Заходнім краем. На ўсім шляху доўгі царскі караван, які складаўся з пазалочаных карэт, адкрытых брычак з прыбранымі дамамі, рознага тыпу вазоў з самаварамі, сервізамі, абрусамі, сталовым срэбрам, крышталёвым посудам і ўсім іншым, што магло спатрэбіцца ў дарозе, — сустракалі натоўпы прыбраных сялян, адмыслова для гэтага сагнаных з суседніх вёсак. Дэпутацыі гарадоў падносілі васпану хлеб-соль, шляхетныя гараджане спяшаліся засведчыць сваю найглыбейшую павагу.

Раніцай 8 мая 1797 года, знаходзячыся ў Оршы Магілёўскай губерні, пасля ўрачыстай сустрэчы, Павел наведаў калегіум, заснаваны ў гэтым горадзе айцамі-езуітамі, нягледзячы на паўсюднае знішчэнне іх ордэна. Ён выказваў захапленне з нагоды ўсяго ім пабачанага і, размаўляючы з каталіцкім архібіскупам Станіславам Богушам-Сестранцэвічам, заявіў, што не збіраецца быць падобным да імператара Іосіфа, які казаў айцам у Бруне ў яго прысутнасці: "Калі прыбярэцеся вы адсюль?"

А вечарам гэтага ж дня каля ўезда ў вёску Нача яго брычка была акружана велізарным натоўпам сялян, што прыбылі сустракаць васпана з суседніх мястэчак і вёсак. Адбылася нейкая мітусня, у якой актыўны ўдзел прынялі казакі, якія суправаджалі Паўла. Падрабязнасці гэтай мітусні нам дапамагаюць узнавіць матэрыялы, што захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці. Пачнём з загада самога каранаванага самадзержца, датаванага 8 мая і напісанага, як гаворыцца, па гарачых слядах, не выходзячы з карэты:

"Г-н действительный статский советник и минский губернатор Карнеев. Во время, когда я остановился для ночлегу в д. Наче, жители оной во многом числе мужска и женска пола, собравшись скопом и заговором, в противность законов подавали мне какую-то бумагу в собственные руки. 3 чел. из сего сборища я велел взять капитану-исправнику под караул и отослать к суду, а вам предписываю наблюсти, дабы дело [над] ними немедленно решено было и виновные в страх другим наказаны были на месте преступления.

Подлинный подписал собственною
е. и. рукою тако: Павел".

Прызначаны нядаўна на пасаду губернатара ў Мінску, па пратэкцыі сенатара І. У. Лапухіна, Захар Карнееў быў крыху ўстрывожаны пасланнем васпана-імператара і некаторы час не ведаў, што і рабіць. Але потым, акрыяўшы, даў распараджэнне прыцягнуць вінаватых да суда.

12 мая Барысаўскі павятовы суд, заслухаўшы рапарт земскага камісара Вінцэнція Свяніцкага, у якім гаворыцца, што "...крестьяне: деревни Видрицы Сила Авсеев, деревни Городка Трахим Асташков и деревни Начи Михайла Иванов учинили противу высочайшего е. и. в. персоны скоп и заговор и дерзнули подавать е. и. в. какую-то бумагу". Варта заўважыць, што пра змест паперы ў матэрыялах суда не сказана ні слова. Прычым у судовым пратаколе адзначана: "Не имея надобности чинить допросов (вышэйназваных сялян. — ***В. А.***), а полагаясь на точной силе высочайшего е. и. в. имянного Указа" судзіць гэтых сялян "по законам и наказать на месте, в страх другим".

А вось і прысуд: "За таковое преступление в силу Уложения 2 главы, 18 и 19 отделений воинских $3^{\text{ей}}$ главы 19 артикула Указа 1722 г. апреля 16-го дня должны быть лишены жизни, но вместо того в силу Указа 1754 г. сентября $30^{\text{го}}$ дня в согласность высочайшего е. и. в. Указа от 8 мая 1797 г. последовавшего на месте преступления Борисовского повета в д. Нача, наказать их кнутом, дав всякому по 31 удар, не вырезав ноздри и не ставя указанные знаки (клеймы. — ***В. А.***), сослать в каторжную работу в Одессу".

Так сумна скончылася спроба імператара Паўла I увайсці ў непасрэдныя адносіны з грамадзянамі сваёй краіны.

# Ні сябра, ні ворага

*Жана ЛАШКЕВІЧ,*
*фота з архіва тэатра*

**На сцэне драматычнага тэатра звычайна... э-э... размаўляюць. Словамі. Якія піша драматург. Парадак і якасць падабраных слоў уплываюць на дзеянне, вобразы, характары і на тое, што дачуе і запомніць глядач. У тэксце можна гразнуць і храснуць, па тэксце можна караскацца і коўзацца, праз тэкст можна дзерціся і направа-налева высякаць слоўны гушчар... Не, на жаль, не сякерай. Языком. Акцёр можа дапамагаць сабе рукамі і нагамі, але як толькі персанажа кранецца пачуццё альбо праява характару, на ўсе бакі паляціць смецце штучнага красамоўства і дачуюцца толькі дзеясловы: хачу, магу, раблю...**

Таму, хто назваўся пятым рымскім імператарам на імя Нерон, ніхто не замінаў хацець, магчы і рабіць у прэм’ерным спектаклі Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча. Звесткі пра Неронава колішняе існаванне пакінулі Светоній і Тацыт. Іх расповеды поўныя дзеянняў, учынкаў, жарсцяў — таго, што мы называем драматызмам. Рымскіх гісторыкаў цытуе электронная Вікіпедыя, і праз яе таксама можна захапіцца выпрабаваннем характараў ў скрутных варунках. Але сцэнічная драма не абавязана наследаваць гістарычнай дакладнасці. Для п’есы патрэбна ідэя і выбар падзей. Спектакль мусіць расцвеліць боль сённяшні.

Што меў на мэце драматург Юрый Сохар, недвухсэнсоўна ўздзеўшы на Нерона штаны — гэта значыць асучасніўшы да жанру “альтэрнатыўнай рэальнасці”? Што меў на мэце рэжысёр Максім Сохар, утвараючы “альтэрнатыўную рэальнасць” на сцэне паводле п’есы Юрыя Сохара “Нерон”? Магчыма, Нерон вымагаў падрабязнай псіхалагічнай прапрацоўкі? Магчыма, жаху ў духу Арто — да глядацкай непрыязі ці непрытомнасці? Альбо эмацыянальнага расповеда сведкі ў адпаведным рэчавым асяроддзі (хоць сабе між адмысловых макетаў) — як у Радзінскага? Зразумела, да Неронавай постаці мусілі прыдацца і падыход, і вырашэнне, і стыль, але цноты глядзельнае залы распусны рымскі імператар не абразіў ні намерам, ні дзеяннем, і дзякуй за гэта балетмайстру А. Лукашэвічу і рэжысёру спектакля.

Адметнай прапановай сцэнографа В. Навакоўскага сталася сцэнічная пабудова ў выглядзе лацінскай літары N чорна-белай расфарбоўкі і сяродавік літары — лесвіца. Літара ў якасці Неронавай існавальні, жытла-не жытла, палаца-не палаца, але месца, гняздзілішча, дзе можна паставіць парадны фаталь (трон?) і забыцца ў кароткім сне. Сходы, драбіны, прыступкі праглядаліся за фасадам літары, нібыта да Нерона цягнуліся шляхі, сувязі, звязы, але надта няпэўныя... Літара-пабудова бачылася знакам раптоўнага ўзвышэння да ступені імператара. А таксама імклівага скачвання долу, у прорву чорнага адзення сцэны. І (так атрымалася) — напамінам пра вартасці слова на сцэне. А славутыя штаны мастак надзеў на ўсіх мужчынскіх персанажаў. І хоць строі спектакля не самыя ўдалыя — у іх эклектычна спалучаны дэталі і фасоны розных эпох, — В. Навакоўскі па-свойму нагадаў пра гісторыю, якая чамусьці шматкроць паўтараецца.

Музыка кампазітара А. Касінскага і музычнае афармленне А. Пятрушы прафесійна падтрымлівалі дзеянне, стваралі патрэбны настрой, задавалі рытм дзяўчатам з масоўкі, часам збіралі ды падцягвалі асобныя сцэны: утварэнне атмасферы, напрыклад, у задачу музычнага афармлення не ўваходзіла. Што да песні, якая суправаджала выхад Нерона-імператара, дык на падзеі і персанажаў яна не ўплывала, хіба дзівіла тэкстам пра плюшавага мядзведзя.

Ну, а што ж Гекуба, у сэнсе — пяты рымскі мператар?



...Юны (малады?) Нерон толькі-толькі ачомаўся пасля забавы з Агрыпінаю, і яму, перапрашаю, сорамна. Маці ўхваляе плоцевую налаўчонасць сына і грэх кровазмяшэння бярэ на сябе. Гэта — экспазіцыя драмы. Тутсама (за сцяной) ляжыць імператар Клаўдзій, якому намешваецца пітво з атрутай. Пра атруту Нерон не ведае. Па просьбе Агрыпіны ён нясе атручанае пітво Клаўдзію. Той п’е і памірае. Нерона абвяшчаюць імператарам. Высвятляецца, што Нерон не ўмее прамаўляць (перадусім — ухвальную прамову на пахаванні), яму патрэбныя парады і дарадцы. У хуткім часе са сцэны гучыць, што “ён імператар, а кіруе маці”, што “ўлада не для яго” і думае ён толькі пра паэзію і акцёраў. Нібыта з Афінаў з’яўляецца Сэнека, суцяшае, цалуе Агрыпіне ручку і, прычакаўшы, калі Нерон сыдзе, пытае, навошта Агрыпіна забіла Клаўдзія, а Нерона, няздару і параноіка, выправіла ў імператары?! На гэта Агрыпіна ласкава адгукаецца тым, што Нерон — Сэнекаў сын; што калі Нерон будзе кіраваць кепска і замінаць Агрыпіне, яна яго заменіць; што яны с Сэнекам доўга не бачыліся і ложак чакае. А Нерон, высвятляецца, усё гэта падслухаў... Зняважаны й прыніжаны, ён абяцае ім пакуты і абяцанне неўзабаве пачне спраўджваць. Гэта — завязка. Першы акт канчаецца абвяшчэннем вайсковага паходу і Неронавай заявай, што рымскія арлы будуць паўсюль (нібыта без яго арлы ціхмяна пасвілі ўдома).

Бавячыся ў антракце, варта сказаць колькі прыязных словаў акцёрам бабруйскай сцэны. А.Агейкіна падступліва-асцярожна, альбо ўпэнена-ўладарна, альбо зацкавана да прысуду перажывала кожны свой выхад у ролі Агрыпіны, Неронавай маці. Л.Пакрэўская стрымана і дакладна вяла ролю Актавіі, Неронавай жонкі: тая асуджана прызнавалася ў каханні да акцёра Атона, высакародна і нечакана памірала пасля звесткі пра Атонава забойства. А.Парфяновіч дасціпна сілкаваў глядацкую ўразлівасць у ролі Эпафрадыта, Неронава ліктара і адданага слугі. Я. Ракіцкі ўсімі прыдатнымі сродкамі намагаўся сыграць Нерона — накрэсліць ролевы малюнак, патрапіць выявіць унутраныя зрухі персанажа, ягонае... нецвярозае, п’янкое ад усёдазволенасці, паблытанай з усёмагутнасцю, унутранае існаванне — душы, напаўна, бо яна, паводле Я. Ракіцкага, у Нерона ёсцека. Гэтая нявыхаваная, выпетраная душа жахалася сама сябе і... ніякавела перад акцёрскім мастацтвам! Гэты імператар на поўным сур’ёзе намагаўся авалодаць таямніцай уяўнага — сцэнічнага — жыцця і зразумець законы, якім падпарадкоўваецца сцэна. Адметная падрабязнасць, вартая сцэнічнай распрацоўкі: калі Нерон не хворы, дык жа да якой ступені даходзіць ягонае захапленне тэатральнаю рэальнасцю? Малады акцёр Я. Ракіцкі сумлення і, я б сказала, гераічна верыў... так, што на нейкі момант працінаў сваёй верай гледачоў, — як першы хрысціянін перад самім Неронам, ці што... верыў, што Нерона можна сыграць — такім, якім ён паўстае з п’есы... Адметная акцёрская якасць!

...Але недаравальная для рэжысуры, чый строгі запавет адметна падказаны яшчэ Шэкспірам: з нічога й будзе — нічога, хоць рэжысёр і ўмее гуляць кантрастамі, рытмамі, валодае пэўным іншасказаннем; уяўляе, з чаго складаецца і ствараецца сцэнічны вобраз, як будуецца і выяўляецца дзеянне. Але...

...Чырвоныя штандары з выяваю акцёра Я. Ракіцкага ў ролі Нерона ўпрыгожылі сцэну на пачатку другой дзеі і папсавалі дакладную сцэнічную графіку. Наваяваўшыся, Нерон глядзеў на рымскі пажар. Рым поўны хрысціян, пад якіх маскіравалася апазіцыя. Нерон загадваў вынішчыць апазіцыю; з вынішчэннем стасаваліся развагі пра паэта, паэзію, слабасць духу і лёс настаўніка Сэнекі, якога Агрыпіна назвала бацькам Нерона. Нерон з Сэнекам імітавалі глыбіню непаразумення ў філасофскай спрэчцы: цынічны, распусны Сэнека сарамаціў разбэшчанага Нерона, а Нерону карцела спраўдзіць сваё жыццё ў мастацтве. Абодва час-почас паміналі пра... карону: згадка пра яе ў Неронавым асяроддзі вымагала смеху сваёй анахранічнасцю. Перадсмяротныя заявы Сэнекі: “Я сам жыў у спрэчцы з сумленнем, а цябе (Нерона. — ***Ж. Л.***) навучыў жыць сумленна” альбо: “Адыходзячы ў вечнасць, да дабра, а не да зла заклікаю цябе, Нерон” (ну чыста Марк Аўрэлій!) выдавалі на блюзнерства. Кардоннага Сэнеку не ратаваў нават фактурны і дасведчаны Л. Кучко...



Такім чынам: ідэі, якую можна сфармуляваць каротка і зразумела, драматург не прапанаваў. Драматычнай гісторыі — нізкі падзей, за якімі папросту цікава назіраць, у п’есе не было. Дзеянне не дзеялася. Яно абвяшчалася. Адно на адно грувасціліся падзеі і тэмы. Заяўлялася тэма набыцця і ўтрымання ўлады, падпарадкавання ёй і знішчэння ўладара праз яе самую, уладу. А контртэма? Страчвала голас? А скуль возьмуцца тыя, хто знішчыць Нерона? Як і чым яны Нерону супрацьстаяць? Калі плявузгаюць па кутах — адна паваротка тэмы. Калі запасяць зброю і муштраць легіянераў — другая. Калі клянуць, плююць у вочы, ідуць на вогнішча, папяраджваюць пра наступствы — трэцяя, чацвёртая, пятая. Нерону ў спектаклі ніхто не супрацьстаяў адметна альбо ідэйна, упарадкавана альбо стыхійна, выпадкова альбо паслядоўна (хіба ўяўны Гальба, калі пры фінале абвяшчалася, што ягоныя легіёны рушылі на Рым), пазбаўляючы дзеянне канфлікту, а падзеі — логікі. Можна падумаць, што Нерон змяніў не законы свайго антычнага дзяржаўнага вызнання, але самі драматургічныя законы.

У спектаклі не было каму спачуваць і не было за каго перажываць. Неронавы словы абуджалі млявую цікаўнасць, маўляў, які конік ён выкіне ў наступнай сцэне. Чаму? А таму, што ў сцэнічнага Нерона не было ўнутраных межаў ды бар’ераў: драматург не паставіў. Нерону не было чаго пераадольваць у самім сабе — хіба атруты чарговаму персанажу падліць, каб паглядзець, што будзе. Ён порстка збіваўся з тропу і грэбаваў здаровым розумам; разбэрсаны і раскілзаны, Нерон спраўджваў свінствы ды злачынствы адно за адным... унікаючы ўсялякай прагрэсіі ўскладненняў. Адкуль жа ім узяцца?... Учынкі персанажаў таксама ўнікалі логікі і залежалі не ад характараў ці патрэб: іх абумовіў... тэкст. Намеры — просталінейныя, дзеянні — груваcткія, думкі часам няўцямныя. Пры гэтым персанажы паслядоўна нібыта труцілі, быццам бы гвалцілі і як бы здраджвалі...

Наруч з лязом на Неронавай руцэ адыграла куды больш за слоўныя пагрозы. Дастаткова было моўчкі абняць кагосьці, каб парэзаць, закалоць, прыстрашыць. Абдымкі, з якіх можна не вылузнуцца, прыязнасць, праз якую можна не падняцца, куды больш красамоўныя за тэкставае папʼе-машэ!

...Паводле антычных гісторыкаў, Нерон, уцякаючы з Рыма, клікаў сваіх каханкаў, ахоўнікаў, гладыятараў: “Няўжо няма ў мяне ні сябра, ні ворага?” Яны хаваліся і маўчалі, а Нерон шукаў хоць каго, шукаў зброю...

Ведаеце, часам нават у добрым, дыхтоўным тэатры здараецца так, што гэтая зброя з кожным дотыкам на сцэне адгукаецца не металам. У адным выпадку — дрэвам, у іншым — клееным паперай. Бутафорыя! Але бутафорскай, аказваецца, можа быць і драматургія: ні сябра табе, ні ворага...

***На здымку: сцэны са спектакля “Нерон”.***

# Рэканструкцыя адносін

## Уладзімір Караткевіч і Ніна Молева. Старонкі кахання

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Даследаванне прысвечана ўзаемаадносінам У. Караткевіча і Н. Молевай, якая выкладала ў пісьменніка гісторыю мастацтваў на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Артыкул пабудаваны на параўнанні творчасці Караткевіча (вершы і паэмы, раман "Леаніды не вернуцца да Зямлі", у якім героі дзейнічаюць пад імёнамі Андрэя Грынкевіча і Ірыны Горавай) і перапіскі пісьменніка з Н. Молевай, Я. Брылём і Ю. Гальперыным (урыўкі ліставання з апошнім друкуюцца ўпершыню). Літаратурны фрагмент у рамане па магчымасці суадносіцца з цытатай эпісталярнай спадчыны. Дадзеная праца з'яўляецца рэканструкцыяй, аўтарскай версіяй узаемаадносін паміж У. Караткевічам і Н. Молевай.**





Каб зразумець сваё пачуццё, спатрэбілася яшчэ крыху часу. *"На пачатку ліпеня* (1959 года. — **Д. М.**) *сябры раз'ехаліся па хатах. Андрэй пажыў тыдні тры дома, а потым скарыстаўся запрашэннем дзядзькі, па-паходнаму хутка сабраўся і раніцою наступнага дня ўжо выходзіў з цягніка на перон невялічкай станцыі"*. У рамане ён апісаны як Сухадол. У рэальнасці — Рагачоў, дзе жыў дзядзька Караткевіча — Ігар.

У адзін з момантаў герой *"раптам з невераг*о*днай яснасцю зразумеў, адкуль было тамленне. Не хапала яе. Не хапала гукаў яе голасу, не хапала растрапаных пасмачак, шэрых рахманых вачэй, пяшчотнай выразнасці рухаў. Не хапала да болю. Хоць крычы. "Што са мной?" — падумаў ён. І раптоўна падмываючая хваля радасці ахапіла яго. "Здаецца... здаецца, гэта прыйшло... Нарэшце гэта прыйшло... Няўжо?!" <…> Ну вядома ж, гэта было так. Вядома, не хапала яе. Ён проста быў упэўнены, што не можа болей пакахаць, таму і не думаў пра яе... А зараз як быццам амыліся вочы. І свет такі шырокі. І вецер дыхае новым жыццём. Ну не, жыццё яшчэ не скончана. Жыццё яшчэ можна пачаць спачатку, вось тут, на гэтай вялікай рацэ, у гэтую хвіліну"*.

Яны зноў сустрэліся восенню 1959 года ў Маскве. У рамане сцвярджаецца, што *"яе не было ў Маскве цэлы верасень"*. Але ў рэальнасці 12 верасня Караткевіч пісаў у лісце да Юрыя Гальперына: *"А рецензию оную я покажу нашему экскурсоводу. Её первая лекция будет у нас только в среду, и я хочу, чтоб она прочла тоже. Потом сразу перешлю тебе"* (БДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 35).

21 верасня памёр бацька Караткевіча, Сымон Цімафеевіч, таму пісьменнік тэрмінова вярнуўся дадому. Тыя ж падзеі, той жа час (канец верасня) апісваюцца ў рамане. Згодна раману, *"праз два тыдні"* пасля пахавання пісьменнік вярнуўся ў Маскву.

У "Леанідах…" Ірына Горава запрасіла Андрэя Грынкевіча да сябе ў госці. У адзін з дзён малады паэт пазваніў у кватэру ля плошчы Маякоўскага (той жа адрас узгадваецца 21 снежня 1959 года ў лісце да Янкі Брыля: *"сейчас у них прекрасная квартира в районе площади Маяковского"*). Але тут яго чакаў неспадзяваны "сюрпрыз": дзверы кватэры адчыніў муж. Для паэта, які не ведаў пра яго існаванне, гэта быў страшэнны ўдар: *"Я прыйшоў да самых родных дзвярэй, // І тут // Забілі мяне"*, — напіша ён у паэме "Плошча Маякоўскага". А ў той час паэт *"быў няздатны на метафары"*, — сцвярджаў пазней яго лірычны герой. Згодна той жа паэтычнай крыніцы, гэта адбылося *"у чорны мой панядзелак. // Кастрычніка, дванаццатага чысла"*.

Між тым чалавек, якога Грынкевіч убачыў на лесвічнай пляцоўцы, варты падрабязнага апісання. *"Андрэй пабачыў мужчыну, цёмнавалосага, з высокім, трохі залысым лобам. Постаць цяжкаватая, погляд вачэй разумны і шчыры. Выраз аблічча — з той добрай, трохі занадта інтэлігенцкай іранічнасцю, якую Андрэй і любіў і не любіў у людзях свайго асяроддзя. Ён ліччыў яе занадта гарадскою"*. У "Леанідах…" гэты чалавек дзейнічае як Міхаіл. Выбар імя, бадай, невыпадковы. Менавіта так клікалі хлопца, які ўзяў шлюб з С.М. — дзяўчынай, якую кахаў Караткевіч падчас навучання ў Кіеўскім універсітэце. У рэальнасці мужа Молевай клікалі Элігіем (скарочана — Элiем) Бялюцiным.

Яго назвалі так паводле жадання дзядулі, італьянскага дырыжора, у гонар святога, які апекаваўся рамеснікамі і мастакамі. 1925 года нараджэння, Бялюцін у 16 гадоў пайшоў на фронт абараняць Маскву. Як пісалі яго біёграфы, *"на фронце яму прастрэлілі лёгкія, там ён зарабіў газавую гангрэну левай рукі, але застаўся жывым і стаў мастаком"*.

Франтавыя падрабязнасці з біяграфіі галоўнай гераіні высветліліся падчас адной з наступных сустрэч. У рамане ўзгадваецца дата "дваццаць сёмага". Якога месяца — не ўдакладняецца. Варыянты два — кастрычнік або лістапад. Хутчэй за ўсё лістапада, бо ў творы ўзгадваецца і дата наступнага спаткання, якое адбылося неўзабаве пасля папярэдняга, — 2-га снежня. Менавіта 27-га Андрэй прызнаўся сваёй выкладчыцы ў каханні. А яна расказала яму ўласную гісторыю: *"Я чалавек цяжкага лёсу. Вайна зачыніла перада мною дзверы ў тэатр. Абмарожаныя ў сорак першым рукі — у музыку. А я... мне гэта было даражэй за жыццё. Што мне засталося? Пісаць кнігі і тлумачыць другіх. Нешта накшталт прычотніка пры храме мастацтва"*.

Згодна раману, у 1941 годзе Ірына Горава ўдзельнічала ў абароне Масквы. Ёй было тады пятнаццаць. Яна дадала сабе гадоў і трапіла ў шэрагі маскоўскага апалчэння. *"Пачалося з абстрэлу. Калі ён скончыўся, усё поле было перакапанае, быццам тут цэлы тыдзень рылася свіння. Вялікая, са слана. А потым немцы пусцілі супраць нас пяхоту і танкі. Цяжкія танкі "Валянцін"... І тут здарылася дзіўнае. Нас было дзве сотні амаль дзяцей. І мы адбілі танкавую атаку... Віця* (першае каханне Ірыны Горавай. — **Д. М.**) *спаліў адну з машын... А нас засталося пяцьдзесят чалавек... І такое ап'яненне — маўляў, вось варта было нам прыйсці — і вораг уцякае, — што гэтыя пяцьдзесят кінуліся ў контратаку... Дурныя, харошыя былі хлопцы... Камандзірам удалося іх затрымаць... Віцька падабраў нямецкі аўтамат і прыкрываў чэргамі тых, што адступалі да сваіх акопаў. Я была непадалёк. І тут... тут міна трапіла якраз у тое месца, дзе стаяў ён... Я яшчэ паспела ўбачыць: высокі такі, чорны, маслісты слуп дыму і зямлі... І потым цемра... Мяне падабралі хлопцы. Міхал* (камандзір аддзялення. — **Д. М.**) *сам адправіў мяне ў медсанбат... Але што яны маглі тады? Асколак сядзіць у калясардэчнай сумцы і цяпер"*. Згодна раману, менавіта Міхаіл стаў яе мужам. *"Я чакала, і ён чакаў. Не стамляўся чакаць. І казаў, казаў мне словы... Што мне было да жыцця пасля той смерці? Жыццё адабрала любы ваш, жыццё адабрала любага чалавека... Я згадзілася"*.

Гэта падзеі рамана. Як яны суадносяцца з рэчаіснасцю? Вышэй ужо адзначаўся ўдзел Э. Бялюціна ў абароне савецкай сталіцы. А вось цытата з успамінаў Молевай пра ўласнае прадстаўленне на літаратурных курсах: *"Представление нового преподавателя Ю. Г. Лаптевым было коротким. Научная степень. Книги. Журналистская работа. Участница обороны Москвы. Участница Великой Отечественной"*. І яшчэ адзін доказ наконт праўдзівасці літаратурнай цытаты. 29 лютага 1960 года Уладзімір Сямёнавіч пісаў з Масквы пра Н. Молеву свайму сябру Янку Брылю: *"І ўсё адно, лепей бы не нараджацца на свет. Таму што для яе засталіся лічаныя гады, магчыма, месяцы. Была дзяўчынка. Быў выбух бомбы. І, як вынік, асколак у калясардэчнай сумы. І аперацыю зараз рабіць позна"*.

Але нават пасля шчырай размовы *"я так і не дачакаўся цвёрдага адказу, — сказаў Андрэй. — Яна кажа, што я неразважлівы, размаўляе са мною пра ўсё, абы не ўспамінаць таго, што было"*.

Гэта было нейкае насланнё. *"Андрэю гэта было тым горш, што ён апошнія месяцы дрэнна спаў. Ён нават еў дрэнна ў тыя дні, калі не бачыў яе. Як марфініст без морфію. Дзень праходзіў у напружаных думках аб ёй, ва ўпартай, але часта бясплоднай працы, у бязмэтных бадзяннях па горадзе. А вечарам чалавек клаўся ў ложак і гадзін да чатырох не мог спаць. Ліхаманкавыя думкі, уяўленні, часам нейкая блытаная сувязь слоў, зневшне стройныя сказы, якія нічога не азначаюць. Потым — цяжкі сон, у якім ён ні разу не бачыў яе. А потым, гадзін у сем, быццам шокавы ўдар, калі прачынаешся, седзячы на ложку"*.

Падчас адной з экскурсій *"Ірына ўвесь час была спакойнай і халоднай, ані разу не затрымала на ім вачэй. Так, суха прабягала позіркам. І ад сярэднага дня і ад яе халоднасці ў душы нараджаўся нейкі лікуючы адчай"*.

Часам цяжка было зразумець, гульня гэта з яе боку ці проста жаданне ўцячы ад кахання. На адной з лекцый Горава расказала слухачам нібыта абстрактную гісторыю, а фактычна прысвечаную іх узаемаадносінам: *"Вось я, напрыклад, чытала нядаўна раман. Ён — амерыканскі мастак. Яна — псіхіятр з Парыжа. Пакахалі. Так, як рэдка бывае. Што рабіць яму без скалістых гор, без узараных прэрый, без мамантавых дрэў? І што рабіць ёй без Парыжа, без клінікі, без справы свайго жыцця? І, як ні старающца, каханне гіне, бо кожны не можа дараваць другому нежадання ахвяраваць сабой"*. З ліста Ю. Гальперыну 21 снежня 1959 года: *"Нас очень разделяет работа, крепко привязывающая её к Москве <…>, но всё это важно, если она меня любит"*.

У рамане пасля лекцый Горава і Грынкевіч накіраваліся на выстаўку, а потым у заснежаную зону адпачынку. Дазволю сабе тры цытаты з рамана: *"Менавіта таму падаў ёй зялёную лісоўскую хустку і футрачку, а потым вышаў з ёю на сляпуча белы снег, які яшчэ не паспелі запляміць сятчатымі слядамі галёш.*

*— А на мне гэтая хустка. Я не хацела сёння ісці з вамі.*

*— А што хустка?*

*— Ды я ў ёй на матрошку падобная <…>.*

*А дрэвы былі заснежаныя. І ён моцна патрос за сук клёна, пад якім яны ішлі. Іскрамётны, трохі нават звонкі снег сухім пылам пасыпаўся на іх з галін. <…>*

*— Ведаеце, чаго не хапае на гэтых сініх дрэвах?*

*— Ведаю. Снегіра. Чырвонай іскры"*.

А цяпер — урывак з ліста Караткевіча ад 7 студзеня 1960 года: *"Мне нужны ваши изумительные серые глаза, ваша улыбка, ваши «матрёшкины волосы» под платком, мне нужна ваша любовь ко мне и моя бесконечная любовь к вам. <…>. Для меня сейчас хорош снег только потому, что его можно отряхнуть на вас и на себя с ветки, хорош снегирь, потому что вы их любите, хороша луна только потому, что, — помните? — когда мы ехали из Загорска, она, как на воде, проложила дорожку на льду пруда. И кругом были чёрные силуэты верб, а по этой лунной дорожке скользили тени мальчишек"*.

Згодна раману, у той дзень Горава паведаміла Андрэю, што *"учора я намусіці дала згоду на аперацыю. Мне раптам вельмі захацелася жыць. Не ведаю чаму. У студзені еду ў міжнародны шпіталь, у Вену. Калі не паеду — абяцаюць год жыцця"*. У якасці пацвярджэння гэтага факта прывядзём цытату з ліста Караткевіча да Молевай ад 2 студзеня 1960 года: *"Вот и Новый год прошёл. И скоро вы вернётесь из Женевы. Боже мой, хоть бы только у вас всё удачно вышло с Веной"*.

Наступная сцэна "Леанідаў…" найбольш трапяткая і лірычная — гэта эпізод першай блізкасці герояў. Якраз у той жа час, 21 снежня 1959 года, Караткевіч напісаў Ю. Гальперыну: *"И наконец, та, о которой я тебе писал, призналась мне, что любит меня"* (БДАМЛМ. Ф.56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 38-39).

У рамане ў той дзень Ірына кажа Андрэю: *"Калі б у мяне, хоць пяць год... Пайшла б не думаючы, адразу"*. А вось цытата з ліста пісьменніка да Янкі Брыля, датаванага 29 лютага 1960 года: *"І гэты чалавек хоча быць са мной. Я ведаю гэта, і не толькі са слоў. І ніколі са мною не будзе менавіта з гэтай прычыны. Не хоча, каб мне было дрэнна. Сказала: "Каб я ведала, што мне далі тры гады — не было б нават слова супраць гэтага. А пакінуць цябе праз месяц, — я не магу, не трэба". <…> А я без адзінага слова падзяліў бы з ёю ўсё, усе гады, што мне дадзены. У другіх ёсць справа, ёсць сваё жыццё. А мне ўсё гэта непатрэбна.*

У той вечар Горава *"раптам прыўзнялася.*

*— Абяцай мне, што ніколі не здымеш са сценкі майго падарунка.*

*— Абяцаю.*

*— Я табе падару рэпрадукцыю "Венеры" Баццічэлі. Усе кажуць, што гэта я... Праўда ж, гэта можна?.. Што б ні здарылася потым — гэта ж толькі фрагмент карціны"*. Тое, што гэты эпізод — не фантазія, сведчыць цытата з ліста Караткевіча да Гальперына ад 21 снежня 1959 года (*"Если хочешь знать — какова её наружность — посмотри на лицо мадонны Боттичелли. Это почти точный её портрет"*; БДАМЛМ. Ф.56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 38-39) і самой Молевай ад 7 студзеня 1960 года: *"А от вас всё ещё нет ни строчки, ни, хотя бы, Боттичелли"*.

Іх шчасце было нядоўгім.

Ірына ТОРБІНА,
фота аўтара

# Пра што спявае ганчарны круг?



**Навалукомскіх ганчароў Алену Рыжанкову і Анастасію Шляхціч добра ведаюць не толькі землякі. Усе, каму давялося хоць калі-небудзь бачыць іх вырабы, захавалі вельмі прыемныя ўражанні ад гэтага знаёмства. Майстры натхнёна працуюць у маленькай ганчарні пры заводзе.**

Каб трапіць у гэты дзіўны куток Чашнiччыны, трэба проста мець жаданне. Мінула больш як трыццаць год з таго часу, як майстэрня мастацкай керамікі прапісалася на Новалукомскім заводзе керамзітавага гравію. Ідэя адраджэння пры сучасным прадпрыемстве старажытнага рамяства з'явілася яшчэ ў сямідзясятых, калі стваралася асноўная вытворчасць. Пра той час першы дырэктар завода Гурамі Лазарашвілі прыгадвае: "Завод пабудавалі за савецкім часам. Прадпрыемства належала да сістэмы "Белміжкалгасбуда". Неяк у нас пабываў міністр Аляксандр Кічкайла. Памятаю, задаў мне пытанне: "А вы не жадаеце стаць паважаным чалавекам — узяць прыклад з латышоў і рабіць кераміку?". Па вопыт у прыбалтыйскую рэспубліку дырэктар накіраваўся разам з мастаком Валерыем Скобавым. Паступова пачалі наладжваць справу. Самі зрабілі ганчарны станок, печ для абпалу, паклапаціліся пра кадры, ды й пайшло-паехала. Вось і сёння ганчары не стамляюцца радаваць нас сваімі творчымі задумкамі.

...Апынуўшыся за дзвярыма з надпісам "Майстэрня мастацкай керамікі", трапляеш у незвычайнае царства гукаў, пахаў, колераў. Ствараюць яго дзве мілыя жанчыны — Алена Рыжанкова і Анастасія Шляхціч. Ганчарства заўсёды лічылася мужчынскай справай. Чым жа так захапіла нялёгкае рамяство прыгожую палову? Менавіта гэта я імкнулася высветліць, завітаўшы ў госці да ганчароў.

Алена Мікалаеўна працуе тут ужо чвэрць стагоддзя, хаця прафесійны шлях майстра пачынаўся ў зусім іншай галіне. Адразу пасля школы скончыла тэхнічнае вучылішча і пайшла працаваць па спецыяльнасці. Ды вось нудотныя абавязкі зборшчыка радыёапаратуры хутка надакучылі. Натура творчая, актыўная, яна шукала дзейнасці. Раптам сустрэўся чалавек, які звярнуў увагу на яе здольнасці да малявання. Тутэйшы мастак упершыню прывёў дзяўчыну на толькі створаны ўчастак керамікі пры прадпрыемстве.

Яна зразумела: гэта тое, чаго прагне душа. Пад гукі ганчарнага круга ў творчым захапленні праляталі гады, мяняліся калегі, а яе старое дзедаўскае рамяство нібы зачаравала. Інакш хіба вытрымала б? Мяркуйце самі: у майстэрні і цяпер усё робіцца ўручную. Ганчар 6-га разраду адначасова і каралева, па руху рукі якой з'яўляюцца керамічныя прынцэсы, прынцы, замкі, вежы, і папялушка, якая перацірае рукамі ў год каля тоны гліны. Як азбуку ведае ўсе працэсы ад эскіза да палівання, з задавальненнем уключаецца ў любы з іх: ці то абточка формы, дэкор, абпал або любая прамежкавая аперацыя.

Вопытам шчодра дзеліцца са сваёй вучаніцай Анастасіяй Шляхціч, якая прыйшла ў майстэрню адразу пасля заканчэння Віцебскага тэхналагічнага каледжа. Стаж другога ганчара ўсяго чатыры гады, мае чацвёрты разрад. "Ніколі не думала, што праца можа прыносіць столькі задавальнення", — гаворыць дзяўчына. Кожныя пяць месяцаў з печы дастаюць 60 — 70 адзінак гатовай прадукцыі. Падлогавыя вазы, насценныя пано, падсвечнікі, дэкаратыўныя падвескі. Вырабы непаўторныя, самабытныя, выкананы ў духу беларускіх традыцый.

Майстры ажыццяўляюць не толькі свае ідэі, але і пажаданні заказчыкаў. На гліне, аблашчанай працавітымі рукамі жанчын з завода керамзітнага гравію, можна ўбачыць пейзажы, гумарыстычныя, гістарычныя і этнаграфічныя сюжэты, віншавальныя скруткі. Натхняюць на творчасць новалукомскіх ганчароў кнігі. Няцяжка здагадацца, якой літаратуры аддаюць перавагу гаспадыні майстэрні. Вось выстраены ў рад млыны, белыя вежы, замкі. Гісторыка-архітэктурная тэматыка прысутнічае таксама ў пано і дэкаратыўных падвесках. Захапляе майстроў анімалістыка. Маюць цэлую калекцыю гліняных гусей, коцікаў, птушачак, бычкоў. Атрымаўшы ў падарунак такі выраб, не перастаеш здзіўляцца майстэрству і выдумцы стваральнікаў.

Асаблівы гонар — напольныя вазы. Яны не падобны адна да адной, вельмі арыгінальныя. "Прынцэса", напрыклад, пакуль у стадыі вырабу. Майстры лепяць "адзенне", абавязковым элементам якога з'яўляецца манжэтка. Як зрабіць яе з гліны — тут свае сакрэты, але атрымліваецца цудоўна. "Прынц", ужо апрануты на выхад, ганарліва пазірае на сваіх гліняных сапляменнікаў з паліцы. Нават без глазуры, колеру прыроднай гліны ваза "Восень" выклікае вельмі цёплыя пачуцці. Успамінаецца засыпаны лісцем вераснёўскі парк. Алена Мікалаеўна распавядае, што ідэя вобраза з'явілася якраз падчас прагулкі. Прыроднаму матэрыялу задумка, як бачым, аказалася вельмі зразумелай.

Шмат вырабаў з майстэрні мастацкай керамікі паступае ў гандлёвую сетку, часта майстры выконваюць спецзаказы. Купіць работы ганчароў можна непасрэдна на заводзе. Менавіта тут іх набываюць турысты, што наведваюць Чашнiччыну. Цікавасць да старажытнага рамяства ў нашых сучаснікаў ёсць. Новалукомскія майстры лічаць, што промысел можа быць нават вельмі прыбытковым. Адной з умоў паспяховага развіцця з'яўляецца наяўнасць паблізу буйнога населенага цэнтра, другой — рэкламная дзейнасць. Алена Мікалаеўна і Анастасія Уладзіміраўна — пастаянныя ўдзельніцы "Славянскага базару ў Віцебску", "Дажынак", разнастайных выставак. Творчая атмасфера ў майстэрні дазваляе спадзявацца, што ў бліжэйшыя гады ганчарная прадукцыя стане яшчэ больш цікавай і разнастайнай.



*На здымках: Анастасія Шляхціч; Алена Рыжанкова.*

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@ mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

З глыбінкі

## Зямля тваіх бацькоў…

**"Пачатак усяму — зямля тваіх бацькоў", — менавіта гэтыя словы сталі лейтматывам сустрэчы дзяцей і падлеткаў вёскі Жыцькава, што на Барысаўшчыне, з пісьменнікам-земляком Васілём Гігевічам. Мерапрыемства праводзілася ў межах праекта "Далучыць да роднага слова", які ўжо другі год рэалізуецца ў бібліятэках Барысаўскага раёна і ставіць асноўнай мэтай увесці дзяцей у свет беларускай мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры, абудзіць інтарэс да кніг беларускіх пісьменнікаў і чытання на беларускай мове.**

Сустрэча з пісьменнікам была падрыхтавана сумеснымі намаганнямі супрацоўніцы Жыцькаўскай сельскай бібліятэкі, ветэрана бібліятэчнай справы М. Ляпіч і калектыву настаўнікаў і вучняў Жыцькаўскай школы. З вялікім пачуццём гонару за сваю вёску юныя экскурсаводы з ліку старшакласнікаў правялі для гасцей экскурсію па школьным музеі, дзе прадстаўлены матэрыялы пра знакамітых людзей, што праславілі вёску далёка за яе межамі. Сярод іх — спявачка Марыя Адамейка, спартсмены Алена Сінкевіч і Юрый Зіневіч і, вядома ж, пісьменнік Васіль Гігевіч.

Кранальны аповед вучняў пра творы, напісаныя Васілём Гігевічам у розныя гады, мастацкае чытанне ўрыўкаў з яго кніг, якія прагучалі ў выкананні вучняў, сведчаць пра тое, што юныя жыцькаўцы па-сапраўднаму ганарацца сваім земляком. Сустрэчу суправаджала электронная слайд-прэзентацыя.

Падчас размовы з пісьменнікам школьнікі задавалі шмат пытанняў Васілю Сямёнавічу, цікавіліся, што паспрыяла развіццю яго пісьменніцкага таленту, якая з напісаных кніг з'яўляецца любімай, ці памятае ён сваіх першых настаўнікаў. Дарэчы, адзін з іх, Р. Каралёнак, і завітаў на сустрэчу. Ён з незвычайнай цеплынёй адазваўся пра былога вучня.

Васіль Гігевіч шчыра дзякаваў арганізатарам мерапрыемства за запрашэнне, адзначыўшы, што найбольш блізкай яму з'яўляецца аповесць "Жыціва", таму што прататыпамі галоўных герояў твора сталі простыя людзі, яго землякі з вёскі Жыцькава.

Пісьменнік расказаў пра тое, як пісаліся іншыя яго творы, шмат гаварыў пра асэнсаванне кожным з нас сваёй спадчыны, пра выхаванне любові і павагі да сваёй малой радзімы, да куточка Бацькаўшчыны, дзе нарадзіўся і вырас. Са слоў Васіля Сямёнавіча дзеці даведаліся, што ў хуткім часе пабачыць свет новая кніга пісьменніка "Страчанае шчасце". Гэта — філасофскі твор. Распавядаючы пра жыццё першабытных людзей, аўтар імкнецца разгадаць сутнасць сваіх сучаснікаў. Васіль Сямёнавіч абяцаў абавязкова прэзентаваць новую кнігу на малой радзіме, у Жыцькаве.

**Людміла ЗАХАРЭВІЧ,**
**в. Жыцькава**
**Барысаўскага раёна**

Афарызм

*Калі чалавецтва — лес, то лес гэты ёсць сукупная непаўторнасць дрэў, а не сукупнасць тэлеграфных слупоў (хаця ніхто і не адмаўляе ім у пэўнай карысці).*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3109
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.02.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 755
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12